УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б24

Мастакі Мікалай Казлоў, Наталля Сустава

*Для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту*

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе
і фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі
Рэспублікі Беларусь

**Баравікова, Р. А.**

Б24 Казкі з гербарыя: Для дзяцей сярэдняга шк. узросту / Раіса Баравікова ; Маст. Мікалай Казлоў, Наталля Сустава — Мінск : Литература и Искусство, 2008. — 144 с. : іл.

ISBN 978-985-6720-45-4

Кніга вядомай беларускай пісьменніцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Раісы Баравіковай расказвае пра займальныя прыгоды фантастычна-казачнага героя Мупсякарнашжабулвака, які сам сябе называе вельмі коратка — Мупся.

Ён — нябачны чалавечаму воку, і яго можна ўявіць кім заўгодна, нават чараўніком, таму што Мупся здатны на неверагодныя ўчынкі, але галоўнае не гэта. Мупся ўмее расказваць казкі, якія ён сам называе казкамі з гербарыя. У іх праз захапляльныя казачныя сюжэты раскрываецца дзівосны свет акаляючага нас асяроддзя, тая раслінная разнастайнасць, што робіць нашу зямлю незвычайна прывабнай і непаўторнай у сваім харастве.

Кніга разлічана на падлеткаў сярэдняга школьнага ўзросту. Яна, несумненна, выкліча ў іх цікавасць, абуджаючы захапленне і любоў да прыроды, якая нас акружае.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6720-45-4**



# НЕЧАКАНАЕ ЗНАЁМСТВА



## *Мупсякарнашжабулвак прапануе называць яго Мупсем*





ылі апошнія дні яшчэ спякотнага жніўня. Я сядзела ў альтанцы і радавалася, што, гасцюючы ў стрыечнага брата, змагла сабраць самы сапраўдны гербарый з даволі рэдкіх раслін, якія трэба ўсяляк зберагаць і ахоўваць, каб не збяднеў свет нашай непаўторнай і такой дзівоснай прыроды.

А для таго, каб не пашкодзіць гэтую сваю каштоўную калекцыю старанна засушаных раслін, якую мелася падарыць адной мінскай школе, я пачала раскладваць лісткі і пялёсткі кветак у вялікі альбом. І раптам...







У нейкі момант альбомная старонка застыла ў маіх руках ад нечаканасці.

— Лісце і кветку шпажніка размясці на самай першай старонцы, — зусім побач пачуўся тоненькі галасок. — Гэта ахоўная расліна. Трэба ж, каб тваю калекцыю нехта ахоўваў!

Я пачала азірацца па баках і нікога паблізу не пабачыла, затое пачула ціхі-ціхі смех...

— Ты хто? І дзе ты? — тут ужо мусіла запытацца я з пачуццём вялікай разгубленасці. І адразу ж пачула ў адказ:

— Я — Мупсякарнашжабулвак. Але ты не зможаш запомніць маё імя, таму заві мяне проста Мупся. Людзі мяне не бачаць, а я ўжо даўно-даўно жыву тут і ведаю ўсё пра людзей, а найбольш пра расліны. Хочаш, раскажу табе пра шпажніка, якога завуць чарапіцавым? Гэта таму, што маладзенькая Адарка лісты ад Васілька хавала пад самы дах, пад чарапіцу.

— Якая Адарка? Які Васілёк?

— Вось бачыш, ты не ведаеш! Тады прымацоўвай лісце шпажніка да альбомнай старонкі і слухай... Пачутае можаш назваць казкай з гербарыя.

І той, хто назваўся Мупсем, пачаў расказваць.



# ШПАЖНІК ЧАРАПІЦАВЫ

— Калісьці, можа пяць, можа сем стагоддзяў таму назад тут усё наўкол глядзелася па-іншаму. Вунь там, дзе цяпер той невялікі гаёк, стаяла вялікая будыніна, абнесеная высокім плотам. І жыў там са сваёй жонкай адзін заможны чалавек, у якога ўсяго было многа. І толькі дзяцей Бог





доўга не даваў таму чалавеку, пакуль, нарэшце, не нарадзілася ў іх дачка, якую назвалі Адаркай.

Падрастала Адарка, падрастаў і Васілёк — сын адной беднай удавіцы, што жыла ў паселішчы, якое — хата да хаты — тулілася ў нізінцы ля самай ракі. Угу-у, ты ж ведаеш ручаінку за вёскай? А некалі гэта была магутная рака. Там, ля ракі і пазнаёміліся Адарка з Васільком, каб ужо ніколі не разлучацца. Гэтак думалі яны, але калі аднойчы Васілёк разам са сваёй маці прыйшлі да Адарчыных бацькоў, дык усё атрымалася па-іншаму.

— Людзі добрыя, на ўсё наваколле славіцца сваёю прыгажосцю ваша Адарка, — сказала бедная ўдавіца. — Кожны прыпыніцца, хто яе пабачыць. Але ж і Васілёк мой слаўны. Ніхто так прыгожа, як ён, не можа звярнуцца да дрэў, да хваляў рачных і нават да зорак. Бывае, што птушкі перастаюць спяваць, калі пачуюць, як складна звяртаецца ён да іх. А ўсё гэта ад таго, што душу сваю ўмее мой Васілёк у слова ўкласці. За гэтую душу ваша Адарка і пакахала майго сына. І ён даўно кахае яе. Дык дазвольце ім пабрацца шлюбам.

Ага-а, гэтак бедная ўдавіца дазволіла сабе звярнуцца да заможнага Адарчынага бацькі, і той, хоць і выслухаў Васількову маці да канца, але тут жа загадаў, каб слуга вывеў гэтых бедных людзей за вароты, куды разам з імі, трэба сказаць, выбегла і Адарка. І з яе вачэй каціліся буйныя гарачыя слёзы.

Бацька вельмі любіў сваю адзіную дачку. Так любіў, што загадаў Васільку і ягонай маці вярнуцца. І, калі яны вярнуліся, сказаў Васільку:

— Тое, што ты ўмееш свае пачуцці вельмі прыгожа ўкладваць у словы, не прынесла табе багацця. У маіх вачах ты — толькі жабрак. Дык хіба магу я дазволіць сваёй Адарцы ўзяць шлюб з жабраком? — і ён задумаўся, а потым дадаў: — Вось што... Я даю табе тры гады. Сёння ж ідзі да ракі, сядай у човен і плыві ў белы свет. Здабудзеш там багацце, вернешся







і возьмеш Адарку за жонку. Калі ж застанешся гэткім жа бедным — не бачыць табе маёй дачкі!

Адарчын бацька быў не толькі заможным чалавекам, але яшчэ і вельмі хітрым. Ён быў упэўнены, што Васілёк вернецца праз тры гады ні з чым. А Адарка ў гэты момант, калі бацька хітра пасміхаўся сабе ў вус, слухала Васілька, які хутка сабраўся ў няблізкі шлях і гатовы быў сесці ў човен.

— Праз кожныя сем тыдняў усе тры гады прыходзь на гэтае месца, — казаў ён ёй. — Я буду прасіць хвалі нашай магутнай ракі, каб яны прыносілі вунь да тых вербаў гліняную бутэлечку з маім лістом да цябе, дзе ты будзеш чытаць пра маё каханне і пра ўсё тое, што будзе са мною адбывацца.




Гэтак яно і здарылася. Мінала сем тыдняў, і Адарка бегла да тых вербаў, пад якімі знаходзіла гліняную бутэлечку. Адкаркоўвала яе і даставала ліст ад Васілька. Усё, пра што яна чытала, прымушала яе сэрца моцна-моцна біцца, і шчокі яе гарэлі радасцю, бо не было на свеце чалавека, які б мог так прыгожа расказваць пра сваё каханне, як Васілёк. А яшчэ ён пісаў Адарцы пра тое, што трапіў у надзвычай вялікі горад, дзе жыў стары ўжо кароль зямлі тамтэйшай. І той кароль роўна праз тры гады павінен быў перадаць сваю каралеўскую карону старэйшаму сыну. Але хацелася яму пакінуць добрую памяць пра ўсе тыя гады, калі ён быў каралём. І не толькі ў сэрцах падданых, але і на паперы. Толькі ж не знаходзілася чалавека, які б змог гэта зрабіць. Мабыць, летапісцаў у тым каралеўстве яшчэ не было.

І вось дайшла да караля чутка, што ў яго каралеўстве з’явіўся малады чалавек, які штовечар звяртаецца да зорак з просьбаю не пазбавіць яго шчаслівага лёсу, каб каханая Адарка дачакалася яго. І столькі чыстых прыгожых пачуццяў было ў тых словах, што душа трапятала ў кожнага, хто мог яго чуць.



(12)

«Гм-м, — пачаў думаць кароль, — калі гэты малады чалавек валодае дарам так прыгожа выказваць свае пачуцці, дык і пра ўсе мае каралеўскія справы і ўчынкі ён напіша гэтак жа прыгожа, і тады слава пра мяне застанецца ў стагоддзях».



І тым жа днём ён загадаў прывесці ў каралеўскі палац Васілька і, як толькі той з’явіўся, сказаў яму:

— Калі мне спадабаецца, як ты апішаш маё жыццё, я шчодра абдару цябе і ты бязбедна пражывеш увесь свой век. Калі ж не зможаш гэтак зрабіць, каб засталася добрая памяць пра мяне ў стагоддзях, — пакінеш маё каралеўства, нічога не атрымаўшы за сваю працу...

Чытала пра ўсё гэта Адарка і аблівалася слязамі, і прыціскала да сэрца, якое перапаўнялася чаканнем, гэтыя лісты. Потым згортвала іх у скрутак і хавала пад чарапіцу высокага даху, каб ніхто не змог іх знайсці. Так працягвалася ўсе тры гады. І аднойчы Адарку паклікаў да сябе бацька.

— Заўтра да нас прыедзе багаты паніч, — сказаў ён, — прасіць тваёй рукі. Я ўжо даў сваю згоду на твой шлюб, таму рыхтуйся і ты, дачка. У нас была дамоўленасць з Васільком, але, бачыш, ён не вярнуўся!

І тут у пакой, дзе адбывалася гэтая размова, увайшла Адарчына маці, і ўвесь яе выгляд паказваў вялікую ўзрушанасць.

— Дачка, хутчэй бяжы да ракі, — пачула Адарка. — Там карабель пад ветразямі. Людзі кажуць, што гэта Васілёк твой вярнуўся!

Потым было вяселле і доўгае шчаслівае жыццё ў Адаркі і Васілька. І вось неяк, калі Васілёк садзіў маладыя яблынькі, каб пакінуць пасля сябе сад унукам і праўнукам, да яго падышла Адарка з прыгожай драўлянай скрыначкай у руках.

— А ведаеш, Васілёк, у гэтай скрыначцы ляжыць наш самы вялікі скарб, — сказала яна. — Тут захоўваюцца тыя лісты, якія ты дасылаў мне калісьці ў глінянай бутэлечцы, і я ўсе іх хавала пад чарапічны дах бацьі-



кавай хаты. А цяпер давай закапаем гэтую скрыначку пад адной з нашых яблынь, каб гэты наш скарб і сапраўды стаў скарбам, калі праз стагоддзі нехта натрапіць тут на гэтую скрыначку, і з тваіх лістоў дазнаецца, якім прыгожым можа быць каханне!

Васілёк пагадзіўся з Адаркай, і яны закапалі тую скрыначку пад самай прыгожай яблынькай. А калі Васілёк стаў паліваць тую яблыньку, дык на тым месцы, дзе была скрыначка, уторкнуў шпагу, якую калісьці падарыў яму кароль, маўляў, хай будзе яна ахоўным знакам. Але той шпагі хутка не стала. Відаць, нехта пакваліўся на яе, затое дзесьці праз год там вырасла расліна, якая нагадвала шпагу. І, як толькі Васілёк і Адарка пабачылі яе, дык адразу ж назвалі шпажнікам, а Адарка, падумаўшы, удакладніла:

— Шпажнік чарапіцавы, бо калісьці тыя твае лісты я хавала пад чарапіцай.

З тых часоў гэтую расліну так і называюць людзі.

І мне падалося, што пасля гэтых Мупсевых слоў лісце старой яблыні, што расла непадалёк ад альтанкі, неяк па-асабліваму зашапацела. І я ціхенька паклікала:

— Мупся... Мупся, чаму ты замоўк? Дзе ты?

Але ніхто не адгукнуўся ў адказ. Дык, можа, і не было ніякага Мупсі, іншымі словамі Мупсякарнашжабулвака? А казку пра шпажніка чарапіцавага стварыла мая ўласная фантазія?

Толькі ж я памылялася...





# (14) МУПСЯ ЗАСТАЕЦЦА НЯБАЧНЫМ

*Але мае пэўную форму.*
*Ён — круглы, як дзьмухавец*



Для свайго гербарыя я сабрала шмат самых розных раслін. Адны з іх раслі на лясных палянках, на лугах і ўзлесках, іншыя — на балотцах і берагах рэк. А былі сярод іх і водарасці. Да прыкладу, сальвінія плывучая. Галінку гэтай воднай папараці мне прывёз з берагоў Прыпяці мой стрыечны брат. І я ўжо наважылася размясціць яе на наступнай альбомнай старонцы адразу за шпажнікам, як тут жа пачула галасок Мупсі, якога паспела палічыць выдумкай уласнай фантазіі.



— Не-не, сальвінію плывучую размясці далей, а тут што-небудзь больш дробнае, — закрычаў ён. Але гэты ягоны крык быў падобны на шэлест лісця.

— Мупся? Дык ты ўсё-ткі існуеш? — здзівілася я і міжволі папрасіла: — Каб я паверыла ў тваё існаванне, пакажыся хоць на імгненне.

Узнікла доўгая паўза. Я ўжо не ведала, што і думаць, але тут Мупся адазваўся:

— На жаль, я не магу табе паказацца. Я такі празрысты, што ты не зможаш мяне пабачыць. І ўсё ж... Усё ж я маю пэўную форму. Я — круглы, як дзьмухавец. І калі саджуся на нейкую кветку, ахутваю яе ўсю сабою, і тады пачынае здавацца, што ў мяне з'яўляецца колер. Але я ўсё роўна застаюся нябачным. Вось... Вось... Я сеў на адну з кветак браткоў і сам сабе здаюся ліловым. А ты мяне бачыш?

— Не, Мупся, не бачу, — адказала я, і мне чамусьці зрабілася сумна. Відаць ад таго, што на свеце яшчэ ёсць шмат рэчаў, якія застаюцца загадкай і не паддаюцца ніякаму тлумачэнню. Ну, як патлумачыць, адкуль з'явіўся Мупся? І ён нібы падслухаў гэтыя мае думкі, бо сказаў, як мне падалося, з лёгкім уздыхам:

— Я мог бы табе шмат чаго расказаць пра сябе, але на гэта нам не хопіць і тыдня, а я, магчыма, ужо сёння вечарам на нейкі час пакіну гэты сад і дзе апынуся, — невядома. Тады навошта табе ведаць усё пра мяне?

— Ну, скажам, не ўсё, а тое-сёе хацелася б ведаць, — сказала я. — Мне цікава, адкуль ты з'явіўся?

— Здалёку, — і мне падалося, што Мупся зноў уздыхнуў. — Але калі я скажу табе адкуль, ты не паверыш. Толькі я сам сабе зраблю балюча, бо яшчэ не хутка вярнуся туды. А хочаш?.. Хочаш, я лепш раскажу табе пра сальвінію плывучую, якую ты хацела размясціць вось на гэтай старонцы, што чапаеш пальцамі?







— Я і размяшчу яе тут, — адказала я, — бо ў маім гербарыі няма дробных раслін.

— Ну, як хочаш! Размяшчай сальвінію і слухай...



## Сальвінія плывучая

— Ты нават уявіць сабе не можаш, як гэта даўно ўсё тут адбывалася, — пачаў Мупся. — Усё гэтае наваколле належала аднаму князю. А палац ягоны стаяў ля самага возера. І ён быў такі вялікі, што да яго вялі ажно тры дарогі з розных бакоў. Можна было падплысці да палаца і на лодцы. Але гаворка, вядома, не пра палац. У князя былі тры сыны, тры маленькія княжычы. І ён вельмі хацеў, каб Бог паслаў яму і княгіні яшчэ і князёўну. Гэтак яно аднойчы і здарылася. Дзяўчынка нарадзілася такой прыгожай, што ёй доўга не маглі падабраць адпаведнае імя. Княгіня нават хацела назваць яе Сонечнай — гэтак ясна свяціліся шчочкі маленькай князёўны. Да князя прыязджалі шматлікія сваякі і кожны прапаноўваў сваё імя, але ніводнае з іх не падабалася князю.

Тут трэба сказаць, што ён быў чалавекам здатным на самыя розныя дзівацтвы. І вось аднойчы, падчас балю ў палацы, калі да князя з’ехалася мноства гасцей, ён папрасіў увагі і прыблізна гэтак звярнуўся да іх:

— Шаноўныя госці, вы ўсе ведаеце, што ў мяне падрастае дачка, і вельмі доўгі час мы не маглі выбраць імя для нашай дарагой дзяўчынкі. Але яна ўжо названа! Я сам прыдумаў імя для маленькай князёўны, якое хачу захаваць у сакрэце. Хай яно будзе маленькай тайнай вяліка-





га палаца. І нават калі праз пэўны час пачнуць прыязджаць маладыя князі ды рыцары, каб прасіць рукі князёўны, я не адкрыю гэтай тайны. Але абвяшчаю, што мужам маёй дачкі стане той, хто сам зможа адгадаць яе імя! Таму праз дванаццаць гадоў усіх, хто хоча са мною парадніцца, запрашаю ў свой палац. Кожны пры сабе павінен мець залатую манетку, на якой будзе выгравіравана жаночае імя. Абяцаю, што ўладальнік манеткі з імем маёй дачкі і стане яе мужам!

Усе госці ўважліва слухалі князя, а ў княгіні пры апошніх яго словах скацілася па шчацэ гарачая слязінка. Княгіня не была ўпэўнена, што хтосьці зможа адгадаць імя іхняй дачкі.

І вось мінула дванаццаць гадоў. З усіх бакоў па трох дарогах, што вялі да палаца, імчалі рыцары, княжычы і нават каралевічы з залатой манеткай, на якой было выгравіравана жаночае імя. Іх сустракалі слугі і адразу вялі ў пакой, дзе побач з князем стаяла прыгажуня князёўна, а каля іх — мяхі з залатымі манеткамі, бо ніводнае імя на тых манетках не супадала з імем князёўны. Князь браў манетку, уважліва разглядваў яе і, адмоўна хітаючы галавой, кідаў у мех... Людзі казалі, што багацце князя такім чынам множылася, а дачка заставалася самотнай. І толькі шчочкі яе ўсялякі раз пунсавелі, калі яна праводзіла доўгім паглядам таго ці іншага прыгажуна-княжыча або рыцара, хто мог бы стаць яе мужам.

А яшчэ людзі казалі, што аднойчы да палаца на лодцы прыплыў маладзенькі рыцар і, схаваўшы лодку ў густых вербах, пералез праз высокую сцяну, якою быў абнесены палац. Рыцар трапіў у сад, дзе ў гэты час гуляла князёўна. Пра што і як доўга яны размаўлялі, ніхто не ведае. Але на другі дзень таго рыцара пабачылі ля варот палаца. Ён папрасіў, каб яго правялі да залатых спраў майстра, які жыў пры княжым двары. І праз нейкі час рыцар выйшаў ад таго майстра з залатой манеткай, на якой было выгравіравана жаночае імя. Потым яго правялі ў княжыя пакоі...





Што там адбывалася, ніхто не ведае. Можна толькі здагадвацца, што на манетцы было выпісана імя князёўны, якое яна сама яму і сказала. Але рыцар быў вельмі бедны. У яго нават каня не было, каб прыскакаць да палаца па адной з трох дарог, таму князь і не стрымаў свайго слова, не даў дазволу на шлюб з князёўнай. Рыцару загадалі пакінуць палац, і ён адплыў на сваёй лодцы туды, адкуль і з’явіўся. А князёўну, трэба думаць, за тое, што яна назвала рыцару сваё імя, князь пакараў.

Яе завялі ў адну з вежаў палаца, што ўзвышалася над самым возерам, і там пакінулі. Пасля гэтага князь загадаў сваім слугам больш нікому не адчыняць varотаў, хто б там ні стаяў перад імі: княжыч ці каралевіч... І жыццё ў палацы нібы спынілася. Нават сыны князя не выязджалі на ловы ў блізкую пушчу.





Але вось аднойчы ў князевы пакоі на прыём да князя папрасіўся ягоны залатых спраў майстар. І калі князь прыняў яго, той адразу раскрыў маленькую скрыначку, якую трымаў у руках. І князь пачуў такія словы майстра:

— Верна я табе служыў, княжа, усё сваё жыццё, і даўно, з ранніх яе гадоў упадабаў князёўну. Дык дазволь і мне выпрабаваць свой лёс. Але не на манетцы выгравіраваў я імя тваёй дачкі, а на завушніцах, якія вырабіў з залатой фольгі. Ты толькі зірні, князь: яны нагадваюць папараць, гатовую распусціцца кветкай шчасця.

Князь зазірнуў у скрыначку, а потым перавёў позірк на залатых спраў майстра, на яго ўжо немалады твар, на якім бачыліся толькі сляды яго былой прыгажосці.

— Прэч! Прэч адсюль! — закрычаў князь, і яго сэрца не вытрывала. Ён тут жа памёр: ці то ад вялікага гневу, ці яшчэ ад нечага.

А праз некалькі дзён, калі ўжо хавалі князя, да палаца прыплыла лодка, з якой выйшаў той малады рыцар, што змог пранікнуць у княжы сад. Ён зноў пералез цераз сцяну, якою быў абнесены палац. А калі сцямнела, людзі заўважылі дзве постаці, якія сядалі ў лодку. І з той начы ніхто больш не бачыў у наваколлі ні рыцара, ні маладой князёўны. Казалі, што яна збегла з тым рыцарам, а куды — пра тое ніхто не ведаў.

Старая княгіня таксама не затрымалася ў палацы. Праз некаторы час яна разам з сынамі кудысьці з’ехала, і ў ім доўга ніхто не жыў. Нават слугі пакінулі яго. А залатых спраў майстар усё хадзіў і хадзіў па беразе возера, зазіраючы ў невялікую скрыначку. І аднойчы шпурнуў яе ў цёмную азёрную ваду. Сама скрыначка адразу пайшла на дно, а дзве завушніцы, якія былі зроблены з залатой фольгі, загайдаліся на хвалях. І на блішчастых пялёстачках можна было пабачыць літары, якія складаліся ў слова: са-ль-ві-ні-я. Гэта і было імя князёўны.



Залатых спраў майстар, пасля таго, як кінуў сваю скрыначку ў возера, кудысьці знік. Прынамсі, у тых мясцінах яго ніхто больш не бачыў, а завушніцы яшчэ доўга паблісквалі на азёрнай роўнядзі... А праз некалькі гадоў на тым возеры з'явілася плывучая папараць, сцяблінкі якой нагадвалі тыя завушніцы. Мясцовыя жыхары назвалі яе сальвініяй. Гэтак яна завецца і да сённяшніх дзён: сальвінія плывучая... Яна трапляецца ў невялікіх колькасцях і ў некаторых месцах. Відаць, таму, што завушніц тых было толькі дзве.

Мупся замоўк, а я глядзела на засушаныя сцяблінкі сальвініі і спрабавала ўявіць, як выглядалі завушніцы з залатой фольгі. Ды раптам зноў пачуўся Мупсеў голас, і быў ён вельмі ўстрывожаны:

— Вой-вой, мне хоча нешта сказаць Стужка ордэнская! Я паляцеў!

— Чакай... Чакай, Мупся! Якая стужка?!

— Ды вунь жа — матыль! Ён кружыць над настуркамі! — і Мупсеў голас гучаў ужо здалёку.

Я сапраўды пабачыла над настуркамі матыля, на крыльцах якога прабіваліся малінавыя палосачкі, таму яго і завуць Стужкай ордэнскай (дарэчы, гэты матыль занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі). А думала я ўсё яшчэ пра маладзенькую князёўну, імя якой не згубілася ў стагоддзях.





(22)

# ШТОСЬЦІ ФАНТАСТЫЧНАЕ

## *Мупся гэтаксама смуткуе, як і залаты сабачка ў сузор'і Гончых Псоў, хоць у гэтым і не прызнаецца*





Астранцыю вялікую, так называлася адна з засушаных раслін, я знайшла ў бярэзніку, які пачынаўся адразу за вёскай, і адкуль даволі-такі часта ў сялянскія гароды запаўзалі вужы. Аднаго з іх пазаўчора я пабачыла нават у альтанцы, і цяпер не-не ды і азіралася па баках, таму што блізкая сустрэча з такім нечаканым госцем мяне, безумоўна ж, не радавала.





— Цябе штосьці непакоіць?

І я міжволі пасміхнулася, пачуўшы галасок Мупсі. А гэта ж, вядома, быў ён.

— Не-не, Мупся! У мяне добры настрой. Проста баюся вужоў, — не хаваючы радасці, што зноў чую яго, адказала я, і тут жа запыталася: — А што табе сказаў матыль Стужка ордэнская? Ты так хутка паімчаў да яго.

Мупся трошкі памаўчаў, быццам думаў, ці гаварыць пра тое, што пачуў ад матыля, а потым сказаў разважліва:

— Вось ты баішся вужоў. А Стужка ордэнская баіцца хлопчыка, які бегае па дарозе з сачком, і матыль не можа падляцець да акна вунь той хаты... Адсюль ты можаш бачыць толькі чырвоную чарапіцу яе даху.

— А навошта Стужцы ордэнскай ляцець туды? Хлопчык сапраўды такога прыгожага матыля можа злавіць сваім сачком.

— Разумееш, — і мне падалося, што лёгкі халадок крануў маю руку, — у той хаце маленькая дзяўчынка моцна хварэла. Яна на мінулым тыдні трапіла пад халодны дождж. Ты ж павінна памятаць, які быў лівень! У дзяўчынкі паднялася тэмпература, і яна некалькі дзён ляжала ў ложку, што стаіць ля самага акна. Матыль праз акно хацеў яе пазабаўляць. Але яму ўжо не трэба ляцець туды, дзяўчынка папраўілася. Я сказаў яму пра гэта. Яе вылечыла Астранцыя Вялікая. Я сам бачыў, як ноччу яна заплывала ў адчыненую фортку, а потым сядзела на ложку і лёгенька хукала на дзяўчынку.

— Астранцыя вялікая сядзела на ложку і хукала на дзяўчынку?! — майму здзіўленню не было межаў. — Ды вось жа яна, гэтая расліна! Як яна магла сядзець на ложку і хукаць на дзяўчынку?! Расліна расце ў бярэзніку...

— Быццам я гэтага не ведаю, — у голасе Мупсі пачулася крыўда. — Але я не пра расліну, а пра лёгкі, ледзь заўважны чырванаваты цень жанчыны, які штоночы выплывае з кветак астранцыі. Гэты цень шукае і зна-







ходзіць хворых дзяцей і лекуе іх. Але дзеці гэтага не чуюць, яны ноччу спяць.

— Мупся! — я здзівілася яшчэ больш. — Мне цяжка паверыць, што з кветак астранцыі вялікай выплывае жаночы цень. Гэта ўжо штосьці фантастычнае!

— Гэтага табе сапраўды не зразумець, — спакойна адказаў Мупся. — Але зараз я раскажу табе адну казку, і ты паверыш у існаванне чырванаватага жаночага ценю, які лекуе.

І Мупся пачаў расказваць...



## АСТРАНЦЫЯ ВЯЛІКАЯ

— Там, дзе цяпер расце бярэзнік, калісьці, вельмі даўно, узвышаўся вялікі палац, у якім жыў багаты купец. У яго была прыгажуня-жонка і тры сыны. Двое старэйшых звычайна палявалі ў блізкай пушчы, а малодшы сын, яму было ўсяго гадоў сем, быў вельмі прывязаны да бацькі, якога рэдка даводзілася бачыць дома. Купец з самым розным таварам надоўга з'язджаў у далёкія краіны і перад кожным сваім ад'ездам казаў малодшаму сыну:

— Я, сынок, як заўсёды вярнуся дамоў глыбокай ноччу, каб зайздросныя вочы не бачылі, з чым я вярнуўся, а ты лічы дні і чакай мяне. Многа дзён пройдзе, але калі над нашым садам ты пабачыш сузор'е Гончых Псоў, тады я ўжо хутка буду дома. Сачы за гэтым сузор'ем і думай пра бацьку.





Гэтыя словы сказаў купец малодшаму сыну і тым разам, калі пасля яго ад’езду і пачала з’яўляцца ў палацы Астранцыя Вялікая. А было ўсё гэта вось як...

Тое лета, калі з дому з’ехаў купец, выдалася вельмі дажджлівым. Неба штоночы зацягвалі хмары, і хлопчык пачаў маркоціцца. Яму было надзвычай сумна без бацькі і ён штовечар пытаўся ў старэйшых братоў, ці не з’явілася над іхнім садам сузор’е Гончых Псоў? Але тыя паціскалі плячыма і адказвалі: «Навошта табе тое сузор’е?! Любуйся рэдкімі зоркамі, якім удаецца выбліснуць на вечаровым небе!»

Хлопчыку пасля гэтых слоў хацелася расплакацца. Ён ішоў у свой пакой, садзіўся ў крэселка каля акна і глядзеў на неба з надзеяй, што, нарэшце, пабачыць сузор’е Гончых Псоў. Але яно ўсё не з’яўлялася. А хлопчыку хацелася, каб бацька хутчэй вярнуўся. І такім вялікім быў яго сум, што ён цяжка захварэў. У яго прапаў голас, і штодня падымаўся жар. Якіх толькі дактароў не запрашалі ў палац, але яны аказваліся бездапаможнымі перад невядомай хваробай хлопчыка, які слабеў і слабеў. Ён ужо нават не мог сесці ў сваё крэселка, што стаяла ля акна, і ўвесь час ляжаў у ложку. І вось аднойчы ноччу, калі ўсе спалі ў палацы, хлопчык прачнуўся і пабачыў надзвычай яркае святло за акном. І ў той жа момант цяжкія шторы закалыхаліся, акно расчынілася, і хлопчык міжволі заплюшчыў вочы ад жаху, які ахапіў яго ўсяго. А ў пакоі ўжо чуліся лёгкія крокі, і хлопчык пачуў вельмі пяшчотны голас:

— Не бойся, дзіця маё! Толькі я магу дапамагчы табе. Тры ночы буду я прыходзіць у гэты пакой, а калі прыйду на чацвёртую, дык хвароба пакіне цябе. Тады мы і развітаемся назаўсёды.

Голас быў такі ласкавы, што хлопчык расплюшчыў вочы і пабачыў перад сабою жанчыну незямной прыгажосці ў лёгкай белай сукенцы. Жанчына трымала на руках маленькага сабачку. І яго поўсць зіхацела золатам.







— Хто ты? — выдыхнуў хлопчык і здзівіўся, што да яго вярнуўся голас.

— Я — Астранцыя Вялікая, — адказала жанчына. — Зараз я пачну замаўляць тваю хваробу, а ты пабаўся з маім залатым сабачкам.

І сабачка адразу ж скокнуў з яе рук у ложак да хлопчыка. Ён пачаў усяляк лашчыцца да яго. Жанчына таксама села на ложак і раз-пораз, пахукваючы на хлопчыка, пачала шаптаць словы замовы, дзіўныя і незразумелыя для яго. А праз некаторы час у акне зноў з'явілася яркае святло і, паколькі акно было адкрытае, сноп святла пранік у пакой. Жанчына паднялася з ложка, працягнула рукі, і залаты сабачка скокнуў да яе. Яна падхапіла яго, і сноп святла адразу ж ахутаў іх. Хлопчыку здалося, што жанчына з залатым сабачкам паплыла па гэтым святле і, калі выплыла з пакоя, святло знікла. Акно адразу ж зачынілася, толькі цяжкія шторы яшчэ нейкі час калыхаліся. Але хлопчык гэтага ўжо не бачыў, таму што, як толькі жанчына выплыла з пакоя, ён імгненна заснуў. А калі прачнуўся раніцай, дык знайшоў на сваёй падушцы залаты валасок, але што адбывалася ноччу ў пакоі, ніяк не мог успомніць, як ні стараўся.

І вось надышла другая ноч, і ўсё паўтарылася зноў. У акно заплыло дзівоснае святло, з якога выйшла жанчына ў белай сукенцы з залатым сабачкам на руках, які адразу ж скокнуў у ложак да хлопчыка і пачаў зноў лашчыцца да яго.

— Ты пазнаў мяне, мой дарагі хлопчык? — запыталася жанчына. — Я — Астранцыя Вялікая і сёння зноў буду лекаваць цябе.

Жанчына села на ложак і зашаптала над хлопчыкам словы замовы.

Тое ж самае адбылося і трэцяй, і чацвёртай ноччу, як і казала Астранцыя Вялікая. Але ў чацвёртую ноч замова, якую шаптала яна, была вельмі кароткай.

— Сёння мы развітаемся з табой назаўсёды, — пачуў хлопчык адразу ж, як скончыла Астранцыя Вялікая шаптаць замову. — Ты больш ніколі не будзеш хварэць у сваім маленстве.







І хлопчыку стала вельмі сумна. Асабліва тады, калі залаты сабачка скокнуў з яго ложка на рукі да жанчыны.

— Пакінь мне свайго залатога сабачку, — папрасіў хлопчык.

— Гэтага я зрабіць не магу, — адказала Астранцыя Вялікая, — Таму што камусьці, каго ты нават уявіць не можаш, надзвычай далёка адсюль, у сузор’і Гончых Псоў, якое цяпер над вашым садам, будзе без яго самотна.

— Сузор’е Гончых Псоў над нашым садам?! — радасна ўскрыкнуў хлопчык. — Дык хутка павінен вярнуцца мой бацька!

— Ён ужо вяртаецца. Хіба ты не чуеш, як па брукаванцы грукочуць колы? — сказала Астранцыя Вялікая, прыціскаючы да грудзей свайго залатога сабачку.



І ўпершыню за многія дні хлопчык падхапіўся і саскочыў з ложка, каб падбегчы да акна. Але яркі сноп дзівоснага святла, якое заплывала ў пакой, быццам асляпіў яго. Хлопчык заплюшчыў вочы і застыў на месцы. І ў тое ж самае імгненне ён пачуў гучны стрэл. Калі хлопчык расплюшчыў вочы, святла ў пакоі ўжо не было. Ён кінуўся да акна, за якім кружылі і апускаліся на траву чырванаватыя іскрынкі. Але на іх хлопчык не звяртаў ніякай увагі, бо ўжо чуў бацькаў голас:

— Сынок! Сынок! Я вярнуўся...

А раніцай наступнага дня хлопчык пачуў, як бацька расказваў маці, якое дзіва ўчора яму давялося пабачыць, калі ён пад’ехаў да палаца. Маўляў, з пакоя іхняга малодшага сына выплыла жанчына, уся ахутаная святлом. «Д’ябальшчына нейкая!» — ускрыкнуў ён, надзвычай уражаны. Выхапіў з кішэні пістолю і стрэліў у тое святло, якое тут жа рассыпалася безліччу чырванаватых іскрынак. І толькі тоненькі прамень маланкаю жыхнуў угору, у начное неба ў напрамку сузор’я Гончых Псоў.

Як толькі гэта пачуў хлопчык, ён адразу выскачыў з палаца і пабег да свайго акна, дзе пабачыў садоўніка, які сказаў яму:



— Не разумею, як за адну ноч магла вырасці такая высокая расліна! І нават зацвісці паспела! Я тут адвячоркам учора ўсё выкасіў!

— Гэта Астранцыя Вялікая, — нечакана для самога сябе сказаў хлопчык і адвярнуўся, каб садоўнік не пабачыў, што ў яго на вачах з’явіліся слёзы.

Мупся ўздыхнуў. Я пачула ягоны ўздых і таксама ўздыхнула.

— Значыцца, Астранцыя Вялікая засталася на Зямлі? Яна распалася пасля стрэлу на мноства іскрынак. А залаты сабачка? Што сталася з ім, Мупся?

— Думаю, што з рук Астранцыі Вялікай яго паспеў выхапіць той імклівы прамень, пра які расказваў хлопчыкаў бацька. — І пасля кароткай паўзы Мупся дадаў: — Цяпер залаты сабачка бегае па такіх жа залатых, як сам, палях дзесьці ў сузор’і Гончых Псоў, — і тут жа засумняваўся. — А, можа, і не бегае, а проста ляжыць і смуткуе па Астранцыі Вялікай.

І ў апошніх Мупсевых словах мне пачуўся сум. Таму я і запыталася ў яго:

— Ты таксама па кімсьці смуткуеш?

Мупся доўга маўчаў, а потым сказаў:

— Навошта табе пра гэта ведаць? Даруй, я хачу трошкі адпачыць. У мяне ў гэтым садзе ёсць любімая клумба. А ты займайся сваім гербарыем. Я, магчыма, яшчэ з’яўлюся!

Апошнія яго словы я ледзь пачула. І тым днём не стала займацца гербарыем. Без Мупсі мне таксама ўжо было сумна.





# (30) САМЫ САПРАЎДНЫ ЦУД!

## *Мупсю здаецца, што даўным-даўно дзесьці ў сузор’і Гончых Псоў яму даводзілася бачыць вялікае мноства маленькіх залатых сабачак*



алінкі воўчніка баравога, а таксама сцяблíны з суквеццем гарлянкі пірамідальнай я ўжо з тыдзень як паклала сушыцца ў пуні на вышках. І вось пасля перапынку, які расцягнуўся на некалькі дзён, мне зноў схацелася ўзяцца за свой гербарый. Таму і вырашыла ўзлезці на вышкі, каб паглядзець, ці высахлі расліны. І як толькі ступіла на даволі хісткую лесвіцу, адразу ж пачула галасок, што празвінеў ці не над самым вухам:

— Вой-вой, асцярожна! Трэцяя прыступачка слаба трымаецца! На яе пастарайся не наступаць!





Я міжволі застыла на лесвіцы, і сэрца маё радасна затахкала.

— Дзякуй табе, Мупся, што папярэдзіў. Каб жа ты ведаў, як узрадаваў мяне сваім з'яўленнем!

— Я ведаю, — хутка адказаў ён. — І хачу папрасіць, каб ты надта не маркоцілася, калі я буду на нейкі час знікаць. Я ўсё роўна вярнуся сюды, бо на Зямлі ў мяне няма даражэйшага месца.

— Ты сказаў, на Зямлі? А што, хіба табе даводзілася бываць яшчэ дзе-небудзь, акрамя Зямлі?!

Ён адказаў не адразу. А я ўжо ўзлезла на вышкі, і было падобна, што Мупся мяне апярэдзіў.



— Бачыш, — пачула я яго галасок. — Воўчніку баравому яшчэ трэба трошкі падсохнуць. А вось гарлянку пірамідальную ўжо можна забіраць — яна высахла. А наконт... Наконт твайго пытання... — Ён зрабіў паўзу, быццам абдумваў, як лепш мне пра гэта сказаць. Нарэшце я пачула. — Помніш, я расказваў табе казку пра Астранцыю Вялікую, залатога сабачку і сузор'е Гончых Псоў? Дык вось, мне часам здаецца, што даўным-даўно я быў дзесьці там, у гэтым сузор'і, дзе бачыў вялікае мноства маленькіх залатых сабачак. Але я сам тады быў зусім маленькім і пра ўсё памятаю вельмі цьмяна. — Мупся ўздыхнуў і дадаў: — Ты павінна разумець, што мне цяжка пра гэта згадваць, таму, давай, лепш будзем спускацца. Ты ідзі ў хату па свой альбом, а я скірую да альтанкі.

І тут я не паверыла сваім вачам, пабачыўшы, як сцяблінкі гарлянкі пірамідальнай пачалі хутка збірацца адна да адной, а потым цэлым пучком паплылі ўніз да выхаду з пуні і зніклі ў расчыненых дзвярах. «Гэта ж іх сабраў Мупся і панёс у альтанку, — падумала я. — Ён сам — нябачны чалавечаму воку, таму ўсё выглядала як самы сапраўдны цуд. Калі б хто пабачыў, як высахлыя сцяблінкі плывуць у паветры, ён назваў бы гарлянку пірамідальную чараўнічай раслінай, можа нават зеллем ведзьмакоў».



(32) Але ж гэтага, дзякуй Богу, ніхто не бачыў. А калі я праз некалькі хвілін з'явілася ў альтанцы з альбомам у руках, да мяне падплыло суквецце гарлянкі пірамідальнай. Ды я ўжо гэтаму не здзівілася, тым больш, што адразу пачула Мупсеў голас:

— Вазьмі гэтае суквецце, яно самае трывалае. Астатнія перасохлыя і трушчацца, — сказаў Мупся. — Мне хочацца, каб ты спачатку прымацавала кветкі.

— Ты іх вельмі ўпадабаў, ага-а? — І я ўзяла суквецце.

— Проста згадваецца адзін выпадак, — Мупся на нейкі момант замоўк, а потым нечакана запытаўся. — Скажы, мне чамусьці здаецца, што гэты гербарый ты хочаш падарыць Глебу, які неўзабаве прыедзе сюды разам са сваімі бацькамі.

Тут я міжволі ўсклікнула ад здзіўлення:

— О-о, Мупся! Ты, аказваецца, ведаеш Глеба — сына майго другога стрыечнага брата, які сапраўды хутка прыедзе сюды з Мінска. — І пацікавілася.— А-а Глеб? Глеб таксама ведае пра тваё існаванне?

— Не, — адказаў Мупся. — Я аднойчы ўвёў яго ў зман, і ён ці даруе мне тое.

— Як жа ты мог увесці яго ў зман? — запыталася я.

І Мупся не прымусіў мяне чакаць з адказам, як быццам ён толькі і чакаў гэтага майго пытання.

— Калі я раскажу пра той выпадак, — сказаў ён, — дык для цябе гэта будзе проста маёй чарговай казкай з гербарыя, бо гаворка пойдзе пра Глеба і гарлянку пірамідальную.

— Ну, дык расказвай, Мупся!

І вось што я пачула...









— Ты, вядома ж, ведаеш, што ў чэрвені Глебу споўнілася дванаццаць гадоў, — пачаў сваю казку Мупся. — А тым летам, калі я ўпершыню яго тут пабачыў, яму было толькі чатыры гады. І быў ён такі гарэзлівы, такі цікаўны да ўсяго і непаслухмяны, што нават індыкі яго баяліся. А самае галоўнае, што было не ўласціва для яго ўзросту — Глеб прачынаўся незвычайна рана. Як толькі певень пракукарэкае на сваім седале, Глебаў заспаны тварык — ужо ў акне. Ажно мама яго здзіўлялася. Я на свае вушы некалькі разоў чуў, як яна скардзілася цётцы Веры — гаспадыні гэтай хаты:



— Ну, вы толькі паглядзіце на гэтае дзіця, што з ім робіцца! Дома ў Мінску дабудзіцца раніцай не магу! З-за гэтага мы заўжды штодня спазняемся ў дзіцячы садок, а тут... На шостую гадзіну толькі возьмецца, а ён ужо на нагах! Ды яшчэ і мяне пачынае будзіць. І бацьку тузае. Які ж гэта адпачынак! З пяці раніцы ні хвіліны спакою!

Але вось пачалі яны збірацца назад у Мінск, тады якраз была нядзеля. І я выпадкова пачуў, як Глебаў бацька сказаў брату:

— Я дапамагу табе з сенам. За паўдня звязём у хлеў! Таму мы прыедзем не ў суботу, а ў наступную пятніцу, каб назаўтра раніцай, як толькі спадзе раса, — адразу за работу!

У гэты момант у мяне і з'явілася думка паехаць разам з імі ў Мінск, а потым — з імі ж і вярнуцца.

Ведаеш, я ніколі не быў у вялікім горадзе, дзе, вядома ж, мяне шмат што ўразіла. Але мне там не ставала паветра. Да таго ж, я страшэнна сумаваў па сваім падворку, дзе сябрую з кожнай кветкай, з кожным дрэвам і з усімі матылямі. Але, даруй, мне, пэўна, не трэба расказваць пра свае пачуцці, калі галоўнае — зусім у іншым.

Як толькі мы прыехалі і апынуліся ў кватэры, дзе жыў Глеб з бацькамі, маці адразу ж загадала яму мыць рукі, а сама хуценька прыгатавала





вячэру. Я таксама сеў за стол, ведаючы, што ніхто нават не здагадваецца пра маю прысутнасць. Адна страва мяне зацікавіла, і я вырашыў яе пакаштаваць, але на смак мне яна не спадабалася. Я ж у асноўным харчуюся сваёй уласнай энергіяй. Ды навошта табе пра гэта ведаць, калі я расказваю пра Глеба і гарлянку пірамідальную?!

Дык вось, як толькі павячэралі, бацька адразу сказаў Глебу:

— Заўтра табе трэба ісці ў дзіцячы сад, таму, як бы гэтага не хацелася, ідзі спаць, а то маці раніцай цябе не дабудзіцца... У горадзе табе салодка спіцца.

І тут Глеб зарумзаў, як румзаюць усе дзеці ў яго ўзросце.

— Не хачу спаць! Не буду-у! Хачу маляваць!

— Хай паўгадзінкі пamалюе, — умяшалася маці. — Можа, якраз за гэты час яго зморыць сон.

І Глеб пабег у свой пакой.

Ах, якое гэта было маляванне! Мне і зараз хочацца смяяцца, як толькі ўяўлю тыя паўгадзіны. Глеб з нейкай скрынкі дастаў чырвоныя кубікі, потым — фарбы і чамусьці выбраў блакітную. Ніякага пэндзліка ў яго не было. Ён маляваў пальцам! На кожным кубіку выводзіў штосьці кшталту кветкі. І трэба сказаць, што ў яго гэта атрымлівалася! Блакітныя кветачкі на чырвоных кубіках вельмі нават добра глядзеліся! Потым ён гэтыя кубікі склаў у пірамідку, і атрымалася дзіўнае суквецце, нешта вельмі фантастычнае.

— Ну-у? Дзе твой малюнак? — запыталася ў Глеба маці, калі праз некаторы час зайшла ў пакой.

— Я размаляваў кубікі і склаў іх у пірамідку. У ёй цяпер напэўна жыве царэўна, — адказаў Глеб.

Маці засмяялася і пахваліла яго:

— Малайчына, Глеб! Думаю, што ў гэтай пірамідцы царэўна ўжо даўно спіць. Ты таксама хуценька ідзі мыцца і — у ложак, каб як след выспаўся, каб я заўтра цябе доўга не будзіла.







Тым вечарам Глеб заснуў вельмі хутка. А я ўсё глядзеў і глядзеў у акно, дзе гарэлі ліхтары і святлафоры, перад якімі спыняліся машыны. І мне пачынала здавацца, што ўсё гэта я ўжо дзесьці бачыў даўно-даўно. Толькі машыны там былі залатыя, і шасейныя дарогі зіхацелі золатам, і лісце на дрэвах было залатое. Я ледзь стрымліваў слёзы. Адварочваўся ад акна і пачынаў глядзець на гадзіннік, дзе стрэлкі рухаліся і рухаліся... І калі адна з іх паказала на палову шостай раніцы, а за вокнамі ўжо добра развіднела, я нечакана для самога сябе ўскочыў на пірамідку і загарлапаніў, ды так галасіста, як самы сапраўдны певень! Глеб імгненна падхапіўся з ложка, а я гарлапаніў і гарлапаніў, пакуль ён не кінуўся ў другі пакой, дзе спалі яго бацькі. І вось ужо ён вяртаецца разам з маці.

— Ты не верыш?! Не верыш?! Пірамідка гарланіла, як певень!

— Ды не можа пірамідка гарланіць. Мой дарагі хлопчык, табе гэта прысніласяǃ — і твар у маці быў перапуджаны.

— Тады намаляваныя кветкі гарланілі! — настойваў на сваім Глеб.

А ў пакой тым часам увайшоў яго бацька і, пачуўшы сынавы словы, засмяяўся:

— Дык ты, Глебчык, у нас дызайнер-чараўнік, — весела сказаў ён. — Ты не пірамідку пабудаваў, а нейкую пірамідальную гарлянку. Будзе вельмі добра, калі яна і заўтра цябе пабудзіць. Ты цяпер у дзіцячы садок не будзеш спазняцца.

І Глеб сапраўды ўвесь той тыдзень не спазняўся ў дзіцячы садок. Я вельмі старанна выконваў ролю будзільніка, а Глеб, як толькі падхопліваўся з ложка, адразу пачынаў крычаць:

— Я — чараўнік-дызайнер! Я зрабіў з кубікаў гарлянку пірамідальную!

Але вось надышла пятніца, і я быў вельмі шчаслівы, што вярнуўся на свой падворак, у свой сад, да сваіх клумбаў. І калі назаўтра, раненька ў суботу гаспадары хаты — цётка Вера і дзядзька Андрэй разам з Глеба-



вымі бацькамі рушылі на лясную лугавіну, дзе сушылася сена, я таксама выправіўся туды з імі, бо яны ўзялі з сабою і Глеба. Дарослыя пачалі зграбаць сена, а Глеб на абочыне лясной сцяжыны сваёй бейсболкай лавіў матыля. І раптам як закрычыць:

— Гарлянка пірамідальная! Мама, тут расце гарлянка пірамідальная! Самая сапраўдная!

Да яго адразу падбегла маці, а потым падышла і цётка Вера.

А Глеб прысеў на кукішкі каля расліны, якая на самой справе нагадвала яго пірамідку, і ўважліва разглядваў блакітныя кветачкі.

— Ма-ам, паглядзі, яны амаль такія ж, як на маіх кубіках! Тут, у лесе, гарлянка напэўна будзіць птушак. Цётка Вера, ты ніколі не чула, як гарланіць гэтая расліна?!

— Расліны не гарланяць, — рэзка сказала Глебава маці і тут жа звярнулася да цёткі Веры. — Як называецца гэтая расліна, каб ён не прыдумляў ніякай гарлянкі?

Цётка Вера паціснула плячыма, маўляў, не ведаю я. А Глеб яшчэ больш упэўнена закрычаў:

— Ды гарлянка пірамідальная гэта! Гарлянка пірамідальная!

З таго часу гэтак і пачалі зваць расліну, якая расце на абочынах лясных дарог ды на лясных палянках.

Мупся хацеў яшчэ нешта сказаць і раптоўна замоўк, таму што ў альтанку зазірнула Вера.

— Можа, да Андрэя падыдзеш, — сказала яна мне. — Ён там штыкетнік новы хоча паставіць, слупы ўкопвае, дык шнур трэба патрымаць, каб роўна ўкапаў. А ў яго, ведаеш, з вачамі кепска, усё нешта мітусіцца і мітусіцца перад імі. Вось і нядаўна, сядзеў ля акна, глядзеў, як ты ў альтанку зайшла, а потым і кажа мне:

— Глянь, Вера, там нешта да Галіных рук падплыло. З ніадкуль узялося, з паветра! Дзіва, ды й толькі!





(38) І адразу ж пасля гэтых Верыных слоў я пачула ціхі-ціхі смех. Але яго заглушыў лёгкі пошум яблыневага голля. Гэта смяяўся Мупся. А я падумала пра тое, што многае з таго, што здаецца дзівам, можа быць самай сапраўднай рэальнасцю, але не ўсе могуць яе пабачыць. Як, дарэчы, і я сама — чую, але не бачу Мупсю.





# МУПСЯ ЛЯЦІЦЬ ДА АСТРЫ-ВЫХВАЛЯКІ

## *Што можа адбыцца, калі Паўднёвы вецер сустрэнецца з Паўночным?*





Мы вельмі хутка вызначылі са стрыечным братам Андрэем месцы, дзе трэба было выкапаць ямкі пад слупы, каб паставіць новую агароджу, і я ўспомніла, што забылася ў альтанцы свой гербарый, таму адразу пайшла да альтанкі. І тут раптам недалёка ад куста шыпшыны пабачыла ў траве вялізнага пархавіка, якога яшчэ завуць галавачом, або дажджавіком гіганцкім. Рэдка хто можа знайсці яго. А тут проста вырас на сядзібе, — не ў лесе, не на лугавіне, дзе, бывае, яны вырастаюць. Ну, чым не экземпляр для гербарыя?! Мяне ахапіла радасць, — гэта ж сапраўдная





знаходка! «Толькі як размясціць яго, такога вялізнага і круглага, у альбоме?» — падумала я і адкалупнула маленькі кавалачак ад парудзелага пархавіковага бока.

— Што ты робіш?! Не чапай! Не дакранайся! Ён можа рассыпацца і тады... — пачула я зусім побач крык. І гэты крык быў такі ўстрывожаны, што я спачатку нават не пазнала Мупсеў голас. А калі зразумела, што гэта ён, пачала яго супакойваць.



— Мупся, цішэй! Ты крычыш на ўвесь сад. Я ж нічога такога не зрабіла, я толькі адкалупнула кавалачак ад пархавіка. А ты спалохаўся і нечага мне не дагаворваеш.

— Угу-у, я не дагаварыў, — і ён перайшоў чамусьці на шэпт. — Ведаеш, у гэтым пархавіку могуць хавацца Хрысціна і Патрык. Яны маленькія, як напарсткі. Але аднойчы, калі Паўднёвы вецер сустрэнецца з Паўночным, узнікне вялікі віхор, тады пархавік рассыплецца і распыліцца, а Хрысціна з Патрыкам зноў стануць звычайнымі людзьмі, такімі, якімі былі яны калісьці.

— Эх, Мупся, Мупся! Ты мяне здзіўляеш. Хрысціна і Патрык хаваюцца ў пархавіку?! Хто яны такія? Патрык, увогуле, не тутэйшае імя, не беларускае.

— Дык жа яны з нейкага іншага месца тут з’явіліся! Калісьці яны жылі ў вельмі далёкай адсюль краіне.

— Гэта яшчэ адна твая казка?

— Не мая! Я пачуў яе ад матыля Эфіопкі чарнушкі. Але калі зараз яе раскажу, дык для цябе яна стане маёй казкай. Ты хочаш пачуць пра Хрысціну, Патрыка і пархавіка вялізнага?

— Вядома, хачу, Мупся.

— Тады слухай...







# ЯК ПАТРЫК І ХРЫСЦІНА АПЫНУЛІСЯ Ў ПАРХАВІКУ

— Далёка-далёка адсюль у часы таксама вельмі далёкія ў адным каралеўстве памёр стары кароль. І, паміраючы, ён сказаў свайму сыну — маладому каралевічу:

— Выканай мой апошні наказ, сынок. За сінім морам, на беразе якога знаходзіцца наша краіна, жыве прынцэса. Я даўно нагледзеў яе для цябе. І як памру, вазьмі з ёю шлюб, жаніся на ёй. Хай яна стане каралевай нашага каралеўства.

Сказаў гэтыя словы стары кароль і яго не стала. А малады каралевіч не выканаў той бацькаў наказ, бо даўно ўжо быў закаханы ў прыгажуню Хрысціну — маладзенькую жонку каралеўскага садоўніка Патрыка. І вырашыў каралевіч звесці садоўніка са свету, пасадзіць яго ў цямніцу і там замарыць голадам, а ягоную жонку ўзяць да сябе ў каралеўскія пакоі. Пра гэтае сваё рашэнне ён сказаў свайму вернаму слугу. Але слуга аказаўся не зусім верным. Яму стала шкада прыгажуню Хрысціну і яе мужа-садоўніка. Таму цёмнай ноччу, калі ўсе ў каралеўстве спалі, нават каралеўская варта, ён пастукаўся ў акно хаткі, дзе жылі Хрысціна з Патрыкам, і пра ўсё расказаў ім. Больш за тое, параіў той жа ноччу збегчы, пастарацца як мага хутчэй пакінуць межы каралеўства. Яны гэтак і зрабілі. Іх узялі піраты на свой карабель. І пачалося доўгае падарожжа Патрыка і Хрысціны па моры і па сушы.

Невядома, як доўга яны вандравалі па самых розных краінах, але раззлаваны каралевіч паўсюль разаслаў сваіх верных слуг, каб тыя знайшлі і схапілі ўцекачоў. І, трэба сказаць, ім удавалася трапляць на след Хрысціны і Патрыка. Але добрыя людзі заўсёды дапамагалі ім схавацца ў надзейным месцы, таму слугі вярталіся да каралевіча, які стаў ужо каралём, ні з чым. Тады ён пасылаў новых слуг, а тых саджаў у астрог, — такі







каралевіч быў упарты. А, можа, проста яму ніяк не ўдавалася забыць прыгажуню Хрысціну.

Ужо прайшоў і год, і два, і тры, а каралеўскія слугі ўсё яшчэ расшуквалі ўцекачоў па ўсім свеце, пакуль, нарэшце, не апынуліся тут. Ну, не ў гэтай вёсцы дакладна, а дзесьці паблізу, дзе ў той час адразу за некалькімі хатамі пачыналася непраходная пушча і паўсюль наўкол хат было багністае балота. Самае месца, дзе можна было схавацца ўцекачам. Ды, відаць, хтосьці падказаў каралеўскім слугам, што ўжо даўно тут аселі, збудаваўшы невялікую хатку, людзі прышлыя. І нават імёны іх назвалі: Хрысціна і Патрык.

І вось ужо прабіраюцца каралеўскія слугі паўз балота, а Хрысціна якраз бялізну мыла ў сажалцы. Як пабачыла яна іх, пабегла да Патрыка, закрычала:

— Муж мой мілы, нас і тут знайшлі! Трэба хутчэй бегчы ў пушчу, хавацца!



Але тут яны пачулі голас. Гэта адазвалася старая бабуля, што жыла па суседстве з імі:

— Не трэба вам бегчы ў пушчу, там звера дзікага многа. Я лепш абярну вас голубам і галубкай, ёсць у мяне дар такі. Будзеце сядзець на плоце і пазіраць, ды пасмейвацца, як дарэмна вас нядобрыя людзі шукаюць.

І ў той жа момант Хрысціна і Патрык ператварыліся ў голуба і галубку. Затрапяталі крыльцамі і селі на плот каля хаты. А каралеўскія слугі ўжо на падворку: зазіраюць усюды, кожны куток абшукваюць. Адзін з гэтых слуг Хрысцініну хусцінку знайшоў, якую ёй некалі падарыў стары кароль за добрую працу яе мужа-садоўніка, і затрос ёю ў паветры, і закрычаў:

— Вось ён — доказ таго, што тут жывуць Хрысціна і Патрык! Мы кепска шукаем іх!

І тут жа адазваўся другі слуга:

— Трэба іх жытло падпаліць. Калі яны дзесьці ў хаце, дык мы іх



агнём выкурым, а калі недзе хаваюцца паблізу, дык рана ці позна на папялішча прыйдуць.

І тут Хрысціна не ўтрымалася, трывожна залапатала крыльцамі, так шкада ёй стала сваёй хаты. Гэтае лапатанне пачулі каралеўскія слугі і хтосьці з іх сказаў:

— Глядзіце, вунь голуб з галубкаю і галубка крыллем залапатала, як толькі мы сказалі, што трэба падпаліць хату! Гэта, напэўна, яны — садоўнік і яго жонка. Хтосьці зачараваў іх. Страляйце ў іх!

І падняліся голуб з галубкаю ў неба. Паляцелі ў бок пушчы. А калі назад вярнуліся праз некалькі дзён, пабачылі чорнае папялішча на тым месцы, дзе стаяла іхняя хатка. Селі на бярозу, што расла непадалёк ад іх сядзібы, і зажурыліся. А тут і бабуля з'явілася, іхняя суседка. Узмахнула яна сваёю срэбнаю кульбаю, якую заўсёды насіла з сабою, і адразу ж голуб і галубка прынялі ранейшы свой выгляд. Хрысціна прытулілася да Патрыка і горка заплакала. Бабуля стала яе суцяшаць, маўляў, новую хату сабе пабудуеце, а потым сказала:



— Думаю, што каралеўскія слугі не пайшлі адсюль, недзе ў балоце хаваюцца, каб высачыць вас. Таму, як толькі яны з'явяцца тут, я ўзмахну сваёю срэбнаю кульбаю, і вы станеце маленькімі, як напарсткі. А потым яшчэ раз узмахну ёю і вы апынецеся вунь у тым вялізным пархавіку, што з травы вытыркаецца. Там ужо вас ніхто не знойдзе. А калі раптам са мною што здарыцца, то чакайце пакуль Паўднёвы вецер сустрэнецца з Паўночным, і бойка паміж імі вялікая пачнецца, і віхор уздымецца, закружыцца аж да самага неба. Ён і пархавіка гэтага закружыць, а потым апусціць яго на ранейшае месца. І тады пархавік разваліцца і выйдзеце з яго вы, і свой ранейшы чалавечы выгляд прымеце.

— А калі Паўднёвы вецер не сустрэнецца з Паўночным, што тады з намі будзе? — запыталася Хрысціна.





І бабуля адказала:

— Вы будзеце перасяляцца з пархавіка ў пархавік. Можа, нават стагоддзі пройдуць, пакуль вятры сустрэнуцца.

І тут жа пасля гэтых бабуліных слоў зашумела голле прыбалотных вербаў, і з высокіх чаратоў пачалі выбягаць каралеўскія слугі. Бабуля ўмомант узмахнула сваёю срэбнаю кульбаю і Хрысціна з Патрыкам адразу ж сталі маленькімі, як напарсткі. А потым яшчэ раз узмахнула кульбаю бабуля, і яны зніклі...

Каралеўскія слугі атарапелі: вось толькі што бачылі Хрысціну і Патрыка, і ў адно імгненне іх не стала! Але хутка апамяталіся і зразумелі, што тут чары нейкія адбыліся. Падбеглі да бабулі, выхапілі з яе рук срэбную кульбу і пасеклі яе шаблямі. А бабулю забралі з сабою, і што сталася з ёю, ніхто не ведае. Бабуля, вядома ж, была вядзьмаркаю. Але і вядзьмаркі рознымі бываюць. Гэтая, напэўна, была добраю феяй.

А Паўднёвы вецер у гэтых мясцінах ніколі не сустракаўся з Паўночным. Інакш бы нехта ўжо расказаў пра віхор, які ўздымаўся да самага неба. Таму, відаць, Хрысціна і Патрык да гэтага часу сядзяць у нейкім з пархавікоў і чакаюць, калі змогуць, нарэшце, з яго выйсці. Магчыма, нават і ў гэтым галавачы яны знаходзяцца.

Мупся замоўк. А я міжволі засмяялася і сказала:

— Які ж ты дзівак, Мупся! Сам жа сказаў, што гэта ўсё было даўно-даўно. Ведаеш, колькі пархавікоў з таго часу тут вырасла?! Мне чамусьці не верыцца, каб цягам многіх стагоддзяў Хрысціна і Патрык перасяляліся ў іх.

— Дарэмна не верыцца! — сказаў Мупся. — Гэта ж — чары! І пакуль яны не здымуцца, Хрысціна і Патрык будуць пераходзіць з пархавіка ў пархавік. Я прашу цябе, не чапай ты гэтага гіганта!





Я хацела сказаць: «Добра, Мупся, больш не буду яго чапаць, але гэты кавалачак, які адкалупнула, абавязкова нейкім чынам прымацую да альбомнай старонкі і падпішу: пархавік вялізны!» Але не паспела гэтага сказаць, бо ў альтанку заляцеў надзвычай бухматы чмель і загудзеў, і залётаў вакол мяне. Я ўскочыла з лаўкі і замахала рукамі, адганяючы чмяля ад сябе.

— Ды не бойся ты яго, — сказаў Мупся. — Чуеш, як гудзе! Гэта ён размаўляе са мною. А ты яго зусім не цікавіш.

Я супакоілася і запыталася:

— І што ж табе гэты чмель кажа?

— Кліча на падворак крайняй хаты, — адказаў Мупся. — Сёння раніцай там на адной з клумбаў расцвіла фіялетавая астра, уся такая махрыстая! Яе насенне прывезлі аднекуль здалёку. І вось яна пачала выхваляцца, якія там цудоўныя мясціны, і расказвае неверагодныя гісторыі! Яе ўжо назвалі Выхвалякай, але паслухаць яе выхвалянні цікава. Таму, прабач, я пакіну цябе.

— Не варта прасіць прабачэння з-за гэтага, Мупся, — сказала я. — У мяне таксама знойдзецца шмат іншых спраў, а гербарый — так... Занятак між іншым. Але ж мы яшчэ сустрэнемся ў гэтай альтанцы, праўда?

— Не сумнявайся! — хутка адказаў Мупся. — Я ўжо прывязаны да цябе, як залаты сабачка да Астранцыі Вялікай. І, як толькі тут з’яўлюся, адразу падам табе знак.

Чмель вылецеў з альтанкі. Трэба думаць, што за ім падаўся і Мупся, а мне схацелася яшчэ раз падысці да пархавіка. І калі я падышла, дальбог жа, у ім пачуліся нейкія дзіўныя гукі, быццам там нехта шаптаўся. А, можа, мне гэта толькі падалося?!



# МУПСЯ ХАВАЕЦЦА Ў БОЧАЧКУ





## *А ноччу намерваецца прызнацца Астранцыі Вялікай, што ён — Мупсякарнашжабулвак*





Я якраз снедала, калі ў хату не ўвайшла, а ўбегла перапуджаная Вера — жонка стрыечнага брата. Яна змянілася з твару, збялела.

— Ты не глядзела ў акно? — задыхана спыталася яна ў мяне. — Вой, што робіцца-а! Што робіцца-а!

Я таксама занепакоілася:

— А што здарылася?

— Бочачка ў нас такая ў хляве стаяла. Белая, з пластмасы, — пачала расказваць Вера. — Дык вось я курыцу-квахтуху клічу: цып-цып-цып... А тут бочка як выкаціцца з хлява, ды з такім грукатам! І коціцца, коціцца





па сцежцы. «Што за дзіва?» — думаю! А яна — хоп і перавярнулася, і стала на дно, што ўкапаная! Во-о, зірні ў акно, стаіць там, ля гародчыка!

І я паглядзела ў акно. І адразу пра ўсё здагадалася, калі пабачыла, як да альтанкі па паветры плылі сухія галінкі воўчніка баравога! «Ну і свавольнік! — прамільгнула думка. — Гэта ж Мупся нясе іх у альтанку. І ў бочцы ён каціўся, хаваючыся ад Веры, бо што б яна падумала, калі б пабачыла тое, што бачу зараз я: галінкі воўчніка плывуць па паветры! З ёю яшчэ б што здарылася ад перапуду. Яна і так ужо кроплі валяр'янкі капае ў кубак».

— Бочачку бачыш? — запыталася Вера і глынула з кубка. — Трэба Андрэя дачакацца, хай назад яе ў хлеў занясе.

— Дык і я магу занесці, — сказала я. — Зараз пайду ў альтанку. Там у мяне з учарашняга адвячорка альбом ляжыць і яшчэ — шмат раслін засушаных, дык трэба ж гербарый да Глебавага прыезду зрабіць, каб занёс яго ў школу.

— А Глеб можа і не прыедзе, — адказала Вера. — Учора званіў, сказаў, што футбольныя матчы пачынаюцца, а ён жа фанат! А гербарый рабі, калі што, у Мінску аддасі.

Я прыбрала са стала посуд, і, ужо калі выходзіла з хаты, Вера адгукнулася з другога пакоя:

— Галя, ты ўсё ж бочку не чапай! Яшчэ невядома, якая сіла яе каціла. Хай стаіць там, дзе спынілася.

І я вырашыла не чапаць той бочачкі. Адразу пайшла ў альтанку. Калі праходзіла каля гародчыка, галіна шыпшыны дакранулася да маёй рукі, і адразу пачуўся Мупсеў голас:

— Я ж казаў, што падам знак, як толькі з'яўлюся. Ты бачыла, як цілася бочачка?!

— Мне не давялося гэтага пабачыць, а вось цётка Вера спужалася! — І я запыталася ў яго: — А куды ты паклаў галінкі воўчніка баравога?





— У альтанцы яны, у кошыку, дзе ўсе расліны, — адказаў Мупся. — Яны ўжо высахлі, і я падумаў, што навошта табе лезці на вышкі, калі ёсць я.

— А казка? У цябе ёсць казка пра воўчніка баравога? — пацікавілася я ўжо ў альтанцы.

— Казку пра воўчніка я табе раскажу пазней, а цяпер, пакуль не забыўся, паслухай, што я пачуў ад той фіялетавай астры-выхвалякі. І пра кветкі яна расказвала, і пра лекавыя расліны, што растуць далёка адсюль, на берагах рэчкі Ятранкі. Але з усяго пачутага мне найбольш спадабалася пра ятрышніка дрэмліка. — Мупся на нейкі момант замоўк, а потым запытаўся: — А сярод тваіх раслін ёсць гэты ятрышнік?

— Ёсць, Мупся! У мяне шмат што ёсць! Вунь галінкі воўчніка баравога, якія ты паклаў у кошык, а пад імі засушаныя кветачкі — пурпуровыя, белыя, фіялетавыя, ружовыя. І гэта ўсё кветкі ятрышніка дрэмліка.

— Вось і карлік Дрэмлік насіў такія шапачкі: ружовыя, фіялетавыя, пурпуровыя... Але я пачну расказ пра ўсё з самага пачатку.

— Расказвай, расказвай, Мупся! Ты ўжо мяне зацікавіў! Гм-м... Карлік Дрэмлік і шапачкі...

— Казка пачынаецца не з карліка, — сказаў Мупся і пачаў расказваць.





## ПРА ЯТРАНКУ, БЕДНАГА РЫЦАРА І ВЕДЗЬМАКА-МЛЫНАРА

— Далёка адсюль, дзе цячэ невялікая, але хуткаплынная рэчка, калісьці жыў заможны шляхціц. І была ў яго прыгажуня дачка, якую звалі Ятранка. Бацька яе ўсяляк песціў. Справа дайшла да таго, што аднойчы ён прывёз у свае харомы аднекуль карліка, каб той пацяшаў і забаўляў





Ятранку. Але карлік умеў не толькі забаўляць і пацяшаць. Ён яшчэ быў вельмі добрым краўцом. І як толькі пра гэта дазнаўся шляхціц, ён адразу загадаў карліку шыць уборы для Ятранкі: сукенкі ды капялюшыкі з самых дарагіх тканін. Ятранка налюбавацца не магла тымі ўборамі, а карлік не забываў і пра сябе. З кавалачкаў, якія заставаліся пасля крою, ён шыў сабе шапачкі, і штодня мяняў іх.

— Вунь па садзе ходзіць Ятранчын карлік у ружовай шапачцы, а ўчора ў яго была шапачка пурпуровая, — казалі людзі, калі бачылі карліка.

Але ён выходзіў на прагулку ў сад вельмі рэдка, бо ўвесь час шыў і шыў. І здаралася так, што шые ён чарговую сукенку ці капялюшык і задрэмле на хвілінку. Потым уздрыгне, расплюшчыць вочы і зноў бярэцца за шытво. Аднойчы Ятранка ўбачыла, як задрамаў карлік, і пачала яго жартаўліва зваць Дрэмлікам. Дрэмлік ды Дрэмлік! Так пачаў яго называць і бедны рыцар, які быў закаханы ў Ятранку. І, як ні дзіўна, заможны шляхціц ухваляваў гэтую закаханасць і, як самага дарагога госця, прымаў яго ў сваіх харомах, таму што бачыў, што і Ятранка кахае беднага рыцара. Як толькі наступаў адвячорак, Ятранка выбягала на дарогу, каб пабачыць, ці не ўецца там пыл, ці не скача да яе на сваім гарачым кані рыцар.

Але не толькі Ятранка чакала рыцара. Ля той дарогі за вярсту ад харомаў шляхціца стаяў млын. І ніхто не ведаў, што млынар, якому належаў млын, быў ведзьмаком. Нават яго ўласная дачка не здагадвалася пра гэта. А млынар чытаў яе думкі, бачыў, якім тужлівым позіркам праводзіла яна рыцара, што імчаў да прыгажуні Ятранкі. І аднойчы сказаў млынар дачцэ:

— Завары зеленавата-жоўтыя кветачкі любісты, астудзі адвар на першай расе да досвітку і паднясі выпіць яго рыцару, калі той будзе скакаць міма нашага млына. Тады і закахаецца ён у цябе, а Ятранку забудзе.

— А як я гэты адвар паднясу, калі рыцар ніколі не спыняецца каля нашага млына? Ён ніводнага разу не звярнуў на мяне ўвагу.



— Гэта не твой клопат, дачка, — адказаў млынар. — Я зраблю так, што пабачыць ён ля дарогі срэбную скарбонку, якраз каля нашага млына. Цікава яму стане, і прыпыніць ён свайго каня, і саскочыць на зямлю, каб падысці да той скарбонкі. Вось у гэты момант ты і паднясі яму выпіць адвару любісты.

Гэтак і зрабіла дачка млынара. Заварыла зеленавата-жоўтыя кветачкі любісты, астудзіла адвар на першай расе, выйшла на дарогу, калі пачула стук капытоў... А рыцар так спяшаўся да сваёй каханай Ятранкі, што нават не заўважыў ні срэбнай скарбонкі, ні млынаровай дачкі.

Разгневаўся млынар і даў волю сваёй ведзьмаковай сіле. На наступны дзень, калі рыцар імчаў да Ятранкі, выпусціў ён наперарэз яму вялізнага пацука, якога тут жа расціснуў конь сваім капытом. І ў той жа момант не стала пад рыцарам каня, а сам рыцар ператварыўся ў вялікага маладога лася, які рынуўся да блізкага лесу.

— Што ты нарабіў, татачка! — закрычала млынарова дачка, калі млынар увайшоў у хату, што стаяла паблізу млына. — Гэты лось ніколі ўжо не стане рыцарам!

— Стане! — адказаў млынар. — Калі на сёмы дзень пасля сённяшняга, роўна апоўначы, Ятранка нарве травы пад самай маладой яблыняй у іхнім садзе і пакорміць тою травой лася, дык ён зноў стане рыцарам.

І трэба ж было такому здарыцца, што якраз у гэты момант, калі млынар прамаўляў свае словы, карлік Дрэмлік апынуўся пад расчыненым акном. Ён нёс млынаровай дачцэ капялюшык, які тая папрасіла яго пашыць. І, вядома ж, усё пачуў, хоць яшчэ і не ведаў, што здарылася з рыцарам.

Дарэмна Ятранка чакала яго. Дарэмна выбягала і выбягала на дарогу, каб паглядзець, ці не ўеціца ўдалечы пыл, ці не скача да яе каханы. І калі ўжо зусім сцямнела, не знаходзіла яна сабе месца ў харомах, знясіліла яе чаканне, і яна сказала карліку:

— Мілы мой Дрэмлік, давай выйдзем у сад, штосьці мне вельмі душна ў пакоях.







Карлік адразу ж пагадзіўся. Яму вельмі падабалася прагульвацца па садзе з Ятранкай. Магчыма, ён тайна кахаў яе. Але Дрэмлік быў толькі веселуном-карлікам і не мог спадзявацца на ўзаемнасць.

І вось яны ідуць па алейцы, і раптам нейкі рык з-за агароджы пачулі. Спыніліся яны і пачалі ўглядацца, а адтуль голас чалавечы пачуўся.

— Ды гэта ж мой мілы рыцар! — радасна ўскрыкнула Ятранка і пабегла да агароджы, але з жахам адхіснулася ад яе, пабачыўшы вялізнага лася.

— Не палохайся, мая Ятраначка, — адазваўся лось. — Гэта вядзьмак, мясцовы млынар, зрабіў мяне такім, і маё сэрца разрываецца ад жалю. Ужо ніколі-ніколі не быць нам разам!



Горка заплакала Ятранка. А карлік Дрэмлік, як толькі пачуў гэтыя словы, дык адразу і ўспомніў тое, што давялося падслухаць выпадкова пад млынаровым акном.

— Не трэба адчайвацца, — сказаў ён. — Я ведаю, што трэба зрабіць, каб ты зноў стаў рыцарам.

І расказаў пра ўсё, што пачуў. Потым ён вярнуўся ў харомы, а Ятранка выйшла за агароджу і да самага досвітку пра нешта шапталася з ласём, які, як толькі развіднела, паімчаў да блізкага лесу.

Шэсць начэй прыходзіў лось да агароджы Ятранчынага саду. І кожны раз прыбягала да яго Ятранка, якая ўжо ведала, дзе расце самая маладая яблынька, і ёй не цярпелася хутчэй нарваць травы, што расла пад ёю. І калі настаў дзень сёмы, Ятранка ніяк не магла дачакацца вечара. А калі дачакалася, трэба ж было такому здарыцца: вырашыла яна на хвілінку прылегчы, каб расслабіцца, суняць хваляванне, і моцна заснула. А карлік Дрэмлік увесь той дзень шыў для Ятранкі новую сукенку і моцна стаміўся. Таму, відаць, і ён задрамаў не ў час. А тут ужо надыходзіць поўнач: гадзіннік прабіў адзін удар, другі, трэці... Падхапіўся Дрэмлік, пачаў клікаць Ятранку, а яна не адгукаецца. Ён спачатку падумаў, што яна ўжо дзесьці ў садзе іграве траву пад самай маладой яблынькай, каб пакарміць





той травою лася, які ў той жа момант зноў стане рыцарам. Але тут раптам ён пачуў Ятранчын голас. Яна гукала карліка са свайго пакоя:

— Дрэмлік! Дрэмлік! Дзе ты там? Можа ўжо час нам у сад ісці?!

І як толькі пачула Ятранка, што гадзіннік ужо пяты раз прабіў, а хутка праб’е і дванаццаты, падхапілася і стрымгалоў кінулася з харомаў. За ёю пабег і Дрэмлік, але ўжо чуўся стук ласіных капытоў і трэск ламачча, таму што ўжо ўзялося за поўнач. На некалькі хвілін спазнілася Ятранка. Пабегла яна наўздагон ласю, а той не ў блізкі лес паімчаў, а ў далёкі — праз мост, што быў перакінуты цераз рэчку. І ў такім адчаі ён быў, нічога не бачыў перад сабою, што рагамі збіваў парэнчы з таго мастка, якія падалі ў цёмную ваду і ўспеньвалі яе.

Узбегла на той масток Ятранка, за якою ледзь паспяваў Дрэмлік, пабачыла паламаныя парэнчы, схілілася над вадою, якая ўсё яшчэ бурліла і пенілася, і не ўтрымалася на нагах, паляцела ў гэтыя пеністыя хвалі. І Дрэмлік не паспеў затрымаць яе. А калі б і паспеў, дык напэўна не ўтрымаў бы. Ён жа быў карлікам.

І розныя чуткі потым хадзілі ў наваколлі. Казалі, што лось уратаваў Ятранку. Кінуўся за ёю ў рэчку і вынес яе на бераг на сваіх рагах. І потым яны разам сышлі ў дальні лес і ніколі не паказваліся на вочы людзям. І шляхціц, Ятранчын бацька, з той ночы амаль не выходзіў са сваіх харомаў, і вельмі хутка там усё прыйшло ў заняпад. А карліка Дрэмліка ён прагнаў. І Дрэмлік усё хадзіў і хадзіў па беразе рэчкі і крычаў:

— Ятранка! Ятранка-а-а! Я адпомшчу ведзьмаку-млынару!

А як ён мог адпомсціць, калі той млынар разам са сваёю дачкой на наступны ж дзень кудысьці зніклі, і млын іхні вельмі хутка струхлеў.

Людзі шкадавалі карліка, і ніхто не ведаў, што ён есць, дзе начуе. Бераг той рэчкі, якую вельмі хутка сталі называць Ятранкай, стаў яму домам. Але ненадоўга. На тым беразе ён і памёр. Там жа яго і пахавалі. А калі праз год, ці праз два, на тым месцы вырас цэлы зараснік раслін, якія зацвілі пурпуровым, фіялетавым ды ружовым цветам, мясцовыя людзі часта казалі:





— Тут пахаваны Ятранчын карлік. І, глядзі ты, які ятрышнік вырас! Ятрышнік дрэмлік!

Мупся з асаблівым націскам прамовіў апошнія словы, і ў гэты момант я пачула, што з акна мяне гукае Вера:

— Галя-а! Хутчэй у хату бяжы, цябе тут да тэлефона клічуць!

Мне часта тэлефанавалі і сябры, і знаёмыя па розных справах. Падумалася: «Можа, штосьць пільнае!» І я хутка паклала альбом на лаўку, куды ўжо прымацавала рознакаляровыя кветачкі ятрышніка дрэмліка, і подбегам рушыла да хаты. І раптам няўдала ступіла, рэзкі боль працяў нагу!

— Ну, якая ж ты неасцярожная! Ты расцягнула сухажылле. Табе моцна баліць?

Я сапраўды адчувала моцны боль і нічога не адказала Мупсю, а гэта, вядома ж, пытаўся ён. І калі я, кульгаючы, ужо ўзыходзіла на ганак, зноў пачула яго голас:

— Пацярпі да ночы! Я паклічу Астранцыю Вялікую. Мне давядзецца сказаць ёй, што я — Мупсякарнашжабулвак, і яна мяне паслухаецца. Прыйдзе да цябе ноччу!

На гэтыя яго словы я толькі пасміхнулася, бо Мупся ж мне расказваў казкі. І ўсё, што я пачула ад яго аднойчы пра Астранцыю Вялікую, было таксама казкаю. Праўда, людзі нярэдка кажуць, што ў кожнай казцы ёсць шмат праўдзівага. І ў гэтым я змагла пераканацца наступнай ноччу.





(56) 

# З’ЯЎЛЕННЕ АСТРАНЦЫІ ВЯЛІКАЙ НА ДОСВІТКУ

## *Мупся не ведае кода Вялікага чарадзея Карнашыі*






прачнулася ад лёгкага дотыку, калі толькі пачало днець. Празрыстая фіранка на акне варушылася. Адтуль павейвала прахалодаю. «Ну, вядома, я не сплю, гэта не сон! — Хацелася крыкнуць мне. — Няўжо? Няўжо ў маім пакоі Астранцыя Вялікая?!» Лёгкі чырванаваты цень, у якім няцяжка было разгледзець абрысы жаночай постаці, наблізіўся да мяне, і я пачула шэпт:

— Ты ўжо без болю зможаш ступаць на нагу. Дзякуй табе за пяшчотныя пачуцці да Мупсякарнашжабулвака.



— Значыцца... Значыцца, ты — не выдумка, не фантазія Мупсі? — і ў маім голасе было вялікае здзіўленне і ўзрушанасць.

— Мупсякарнашжабулвак ніколі нічога не прыдумляе, — пачула я ў адказ, і лёгкі жаночы цень пачаў адплываць да расчыненага акна. Ад яго сыходзіла ледзь заўважнае мігатлівае ззянне.

— Пачакай, затрымайся на хвілінку, — я прыўзнялася, але з ложка не саскочыла. Баялася, што цень адразу знікне, а мне хацелася хоць штосьці дазнацца пра Мупсю, таму і запыталася. — Адкажы, калі зможаш, хто такі Мупся? Як ён з’явіўся тут, у гэтых мясцінах?

Чырванаваты цень прыпыніўся, застыў і я зноў пачула ціхуткі шэпт:

— Мупсякарнашжабулвак — залатое дзіця Карнашыі, маленькай планеты ў сузор’і Гончых Псоў.

— Ты хочаш сказаць — залаты сабачка? Але ж ён — празрысты! Я ніколі не бачу яго.

Лёгкі ўздых данёсся да мяне, а потым і словы:

— Залатыя істоты Карнашыі ўмеюць змяняць сваю матэрыю, свой знешні выгляд. Але для гэтага яны павінны памятаць код Вялікага чарадзея Карнашыі. Мупсякарнашжабулвак гэтага кода не помніць, як і ўсяго астатняга. Я паспрабую яму дапамагчы. Толькі не ведаю, ці хопіць у мяне энергіі, каб маё паведамленне, што ён — тут, прайшло праз увесь Залаты шлях і дасягнула Карнашыі.

— Маеш на ўвазе залаты прамень? — у думках я згадала казку, якую пачула ад Мупсі пра Астранцыю Вялікую. — Ці не ён завецца Залатым шляхам?

Адказу я не пачула. Відаць, Астранцыя Вялікая палічыла, што мне пра гэта не трэба ведаць. Цень закалыхаўся і павольна паплыў да акна, знікаючы ў ім.

Я адразу ж саскочыла з ложка і не адчула болю ў назе. Астранцыя Вялікая суняла яго. «Куды ж яна паплыла?» — Я не паспела дадысці да акна, як побач пачуўся галасок:







— Брава-а! Брава-а! Астранцыя Вялікая дапамагла табе! Яна вылечыла тваю нагу!

— Мупся?! — ускрыкнула я. — Ты быў увесь гэты час у пакоі? Ты чуў маю размову з Астранцыяй Вялікай?

— Не, мяне не было ў пакоі, — адказаў Мупся. — Я толькі зараз з'явіўся. Спаў на клумбе і прачнуўся, калі Астранцыя Вялікая праплывала нада мною. Адразу здагадаўся, што яна была ў цябе. — Ён зрабіў кароткую паўзу і запытаўся. — А пра што вы размаўлялі?

Мне хацелася адказаць: «Пра цябе, Мупся! Ты сапраўды калісьці быў залатым сабачкам! І як, пры якіх абставінах мог забыць код Вялікага чарадзея Карнашыі? І ўвогуле, Карнашыю? І ці забыўся? Яна — частачка твайго імя: Мупся-карнаш-жабулвак». Але я не запыталася пра ўсё гэта. Мне ж аднойчы сказаў Мупся, што яму стане балюча, калі пачне расказваць, адкуль ён, бо не хутка туды вернецца.

— Вы дамовіліся з Астранцыяй, што ваша размова застанецца тайнай? — па-свойму вытлумачыў маё маўчанне Мупся і тут жа сказаў: — Ноччу, калі я папрасіў Астранцыю Вялікую, каб яна вылечыла тваю нагу, і ўжо вярнуўся ад яе, у мяне адбылася цікавая сустрэча.

— З кім, Мупся? З кім ты мог сустрэцца ноччу?

— З царскімі кучарамі.

Пры гэтых Мупсевых словах мяне ахапіла недаўменне: з якімі такімі царскімі кучарамі мог ён сустрэцца?!

І, відаць, Мупся прачытаў на маім твары лёгкае замяшанне, бо адразу патлумачыў:

— Царскія кучары — незвычайна прыгожая расліна. Яе нярэдка называюць яшчэ і лілеяй кучаравай. Пялёсткі яе кветак нагадваюць локаны. А вырастае яна з залаціста-жоўтай цыбуліны. Вось і парычкі ў царэвіча былі залаціста-жоўтыя. Для твайго гербарыя я прынёс некалькі высахлых пялёсткаў. Яны ляжаць на лаўцы ў альтанцы.







— Спыніся... Чакай, Мупся, — папрасіла я. — Па-першае, хто табе сказаў, што расліна называецца: царскія кучары, а па-другое, пра якія парычкі і якога царэвіча ты згадаў?

Мупся засмяяўся. Мне здалося, што смяшынкі, як каштоўныя каменьчыкі, рассыпаліся па маім пакоі.

— А ты сама не здагадлівая, ага-а? Пра парычкі і царэвіча я пачуў ад самой расліны. Кладзіся ў ложак і я табе раскажу казку пра царскія кучары. А, можа, гэта зусім і не казка... Ты вырашыш сама.

І калі я легла ў ложак, падумаўшы, што яшчэ вельмі рана — нават сонца не выкацілася з-за далягляду, Мупся пачаў расказваць...





## ЦАРСКІЯ КУЧАРЫ

— Даўным-даўно ў гэтых мясцінах жыў адзін высокашаноўны ўдавец. Жонка яго рана памерла, але не пакінула яго самотным. Удавец меў дзвюх дачок, якія былі і яго радасцю, і яго гонарам. Дзяўчынкі падрасталі і цяжка было каму зраўняцца прыгажосцю з імі. Яны былі надзвычай прыгожыя. Але ўсім, хто сустракаўся з імі, адразу ж кідаліся ў вочы іхнія валасы, якімі нельга было не захапіцца. У старэйшай, Настусі, яны былі залаціста-жоўтыя і віліся лёгкімі кудзеркамі ажно да самых пятак. Такія ж доўгія валасы былі і ў яе сястры Маланні, толькі колерам сваім адрозніваліся. Калі Малання вечарам выбягала ў двор, дык можна было падумаць, што Поўня абсыпала яе ўсю сваім халаднавата-срэбным ззяннем. Што казаць, многія і многія людзі цешыліся і захапляліся сёстрамі, але былі і такія, што зайздросцілі ім. Асабліва тыя, у каго падрасталі дочкі, якія не маглі пахваліцца сваёй прыгажосцю. Вось нехта з тых зайздрос-





ных людзей і назваў аднойчы старэйшую Настусю вядзьмаркай. І ўсё толькі з-за таго, што ў блізкім лесе Настуся прыручыла ўсіх звяроў. Нават ласіха падыходзіла да яе са сваім ласяняткам і дазваляла яму лізнуць залатую пасмачку Настусіных валасоў.



Ведаў пра гэтую зайздрасць удавец, але яна мала засмучала яго. Добрых людзей на свеце болей, — лічыў ён. І жыў сабе ціхамірна, не здагадваючыся, што бяда падкрадвалася ўжо да яго дома. Тут трэба сказаць, што ў суседнім царстве вельмі магутны, але стары ўжо цар дажываў свае апошнія дні. І думаў, што хутка яму давядзецца перадаць свой царскі прастол свайму адзінаму сыну, які і чуць пра гэта не хоча. Справа ў тым, што малады царэвіч быў лысым ад першага дня свайго нараджэння. Старога чалавека лысіна можа нават упрыгожваць. А калі табе шаснаццаць гадоў і кожны раз, як толькі даводзіцца выглядваць з карэты, нехта абавязкова крыкне: «Глядзіце, вунь лысы!.. Лысы царэвіч паехаў!» Падобныя крыкі гучалі, як здзек, як прыкрая абраза. Колькі разоў малады царэвіч уяўляў сябе ў царскай кароне і яго адчаю не было канца. На лысай маладой галоўцы ніякая карона не глядзіцца па-сапраўднаму царскай. І царэвіч пачаў цурацца людзей. Ніхто ніколі не бачыў, каб ён прыехаў на баль, рэдка калі суправаджаў ён і свайго бацьку — старога цара. І раптам аднойчы ажывілася ўсё ў царскім палацы. Аднекуль здалёку з’явіўся вясёлы цырульнік і доўга пра нешта шаптаўся са старым царом, да якога прывялі цырульніка слугі.

І адразу ж тым днём стары цар аддаў негалосны загад сваім верным слугам: сядлаць коней і скакаць ва ўсе канцы іхняга царства і больш далёкіх земляў, каб расшукаць маладых дзяўчат з прыгожымі доўгімі валасамі. Няцяжка здагадацца, што аднойчы верныя царскія слугі з’явіліся і ў гэтых мясцінах, дзе жыў удавец са сваімі прыгажунямі дочкамі.

Скачуць царскія слугі, а насустрач ім ідзе жанчына, у якой яны і запыталіся, ці няма ў гэтых краях маладой дзяўчыны з прыгожымі доўгімі валасамі?



— Ёсць! Ёсць! — хітра пасміхнулася жанчына. — Скачыце вунь да таго возера. Яна там якраз збіраецца мыць свае валасы.

— А як жа завуць яе?

— Настуся! Але найчасцей мы называем яе вядзьмаркаю. Чары напускаць яна ўмее.

І хоць жанчына не ведала, для чаго спатрэбілася гэтым вершнікам дзяўчына з прыгожымі доўгімі валасамі, у душы паспадзявалася, што здарыцца з Настусяй штосьці кепскае, такую яна хавала ў сабе зайздрасць да ўдаўцовай дачкі-прыгажуні. А вершнікі хутка даімчалі да возера і, калі пабачылі залаціста-жоўтыя Настусіны валасы, зразумелі, што менавіта гэтая дзяўчына ім і патрэбна. Яны схапілі яе, укруцілі ў коўдру і, закінуўшы на сядло аднаго з коней, паімчалі назад у сваё царства. Там ад вясёлага цырульніка Настуся і даведалася, што нічога дрэннага з ёю ў царскім палацы не здарыцца, адно, — ён мусіць адрэзаць ёй валасы, каб зрабіць з іх цудоўны парык для маладога царэвіча.

Гэтак яно і здарылася. З залаціста-жоўтых Настусіных валасоў вясёлы цырульнік вырабіў прыгожанькі парычок для царэвіча. І ўжо ніхто не паказваў на яго пальцамі: «Глядзіце! Вунь у карэце лысы царэвіч





паехаў!». Наадварот, усе захапляліся: «У нашым царстве вялікі цуд здарыўся! У царэвіча з'явіліся залатыя кудзеры!» І ўсё ажыло ў палацы, напоўнілася радасцю і весялосцю. Прыязджалі госці, гучала музыка, штовечар на баль запрашаліся маладзенькія князёўны і прынцэсы. І толькі Настусю ніколі не выпускалі з маленькага пакойчыка. Царскія служанкі штодня націралі яе галаву настоямі з рознага зелля, каб хутчэй адрасталі яе валасы, таму што царэвічу мог спатрэбіцца новы парык. Невядома як, але Настусі ўдалося ўпрасіць адну са служанак, каб яна знайшла магчымасць перадаць яе бацьку і сястры, што з ёю адбылося і як яна пакутуе ў царскім палацы.



А тым часам малады царэвіч паехаў з сябрамі, якіх у яго з'явілася мноства, купацца на возера і адплыў далёка, на самую яго сярэдзіну. Астатнія здаля назіралі за царэвічам. І вось тут адкуль ні вазьміся пралятаў над тым возерам стары крумкач, які толькі адно і пабачыў, што нешта блішчыць пасярод возера. Падляцеў бліжэй, рынуўся ўніз і сарваў з галавы царэвіча парык сваёю магутнай дзюбай. Ды і паляцеў з ім за возера ў дальні лес, дзе, пабачыўшы, што гэта штосьці зусім не ядомае, выпусціў парык з дзюбы ў густы зараснік. А на беразе возера чуўся рогат! «Лысы! Лысы! — крычалі маладыя княжычы ды рыцары і паказвалі на царэвіча пальцамі. — Хутчэй вылазь з вады! Хопіць табе паласкаць сваю лысіну!» Але царэвіч так і не адважыўся выйсці з возера. Ён прасядзеў у ім да позняга вечара, пакуль сябры не раз'ехаліся. А калі вярнуўся ў царскі палац, адразу пабег да цырульніка, маўляў, тэрмінова рабі новы парык!

Пайшоў вясёлы цырульнік у пакойчык да Настусі і яму стала не да весялосці. Ён пабачыў, што валасы ў Настусі адраслі толькі на некалькі пальцаў. Трывожна зрабілася ў царскім палацы. І нехта з тых верных слуг, што прывезлі Настусю ў палац, раптоўна згадаў:

— Дык яна ж вядзьмарка! Знарок гэтак зрабіла, каб валасы ў яе доўга не адрасталі!





І як толькі прагучала гэтае слова «вядзьмарка», дык адразу і ўчыніўся суд, таму што ў тым царстве вядзьмарства жорстка каралася. І вось ужо на плошчы перад царскім палацам расклалі агонь, каб спаліць на ім гаротніцу Настусю. Але як вывелі яе з варотаў, каб прывязаць да слупа, вакол якога і павінен быў разгарэцца агонь, з натоўпу, што ўжо сабраўся перад палацам, пачуўся крык:

— Настуся! Мілая мая сястрыца!

Гэта крычала Маланння, і людзі расступіліся перад ёю. Яе доўгія, быццам з месячнага святла, валасы зачароўвалі. А Маланння ішла і ішла да таго месца, дзе сядзеў стары цар на троне, і стаяў побач з ім лысы малады царэвіч, да якога і звярнулася дзяўчына.

— Ты такі малады і такі прыгожы! Маю дарагую сястрыцу прывяжуць да страшнага слупа, а я захапляюся і любуюся тваімі вачамі. Мне цяжка адарваць позірк ад тваіх гарачых вуснаў. Ты такі статны і дужы. А калі б раптам валасы прыкрывалі твой высокі лоб, як бы я змагла здагадацца пра твой вялікі розум...

Яна гаварыла і гаварыла, а малады царэвіч згараў ад пачуццяў, якія раптоўна ўспыхнулі ў ім. Яшчэ ніколі ніхто не казаў яму такіх прыгожых слоў. А самае галоўнае, што ён упершыню пабачыў, якою прыгожаю можа быць дзяўчына. Гэтая прыгажосць яго вабіла і апякала. Малады царэвіч нахіліўся да свайго бацькі і штосьці ўсхвалявана зашаптаў яму на вуха, пасля чаго цар падняўся з трона і ўсе пачулі яго голас:

— Пакаранне на гэты раз адмяняецца, — гучна прамовіў цар, — таму што абвінавачванне ў вядзьмарстве памылковае!



А праз некалькі дзён усё тое царства абляцела чутка, што праз некалькі тыдняў малады царэвіч возьме шлюб з прыгажуняй, якая ўратавала сваю сястру ад пагібелі. Неўзабаве ўсё гэтак і здарылася. Настуся вярнулася да свайго бацькі, а Маланння стала жонкай маладога царэвіча. І вясёлы цырульнік застаўся ў царскім палацы, хоць яго ўжо ніхто не




прасіў зрабіць парык для царэвіча, які пачаў насіць на сваёй галаве самыя розныя картузы. Асабліва любіў у картузе ён выязджаць на паляванне.

І вось аднойчы царэвіч апынуўся ў тым лесе за возерам, куды стары крумкач у сваёй дзюбе калісьці занёс яго залаціста-жоўты парык. І там, у гушчары, ён пабачыў расліну, якая цвіла буйнымі кветкамі, і кожны пялёстак гэтых кветак завіваўся, нібыта кудзер.

— Як называецца гэтая расліна? — запытаўся царэвіч у слугі.

— Ды, напэўна, царскія кучары! — адказаў той. — Хіба не бачыць ваша вялікасць, што пялёсткі кветак, быццам кудзеры таго вашага парычка...

І, пачуўшы гэтыя словы, малады царэвіч не разгневаўся, а расліну з тых часоў царскімі кучарамі і называюць...



Мупся яшчэ хацеў штосьці сказаць, але тут пачуўся голас жонкі майго стрыечнага брата. Вера зазірнула да мяне ў пакой.

— І ці доўга ты думаеш спаць? — бадзёра спытала яна. — Хутка снядaнак падам на стол, дык уставай ужо.

— Зараз устану, — адказала я. А калі за Вераю зачыніліся дзверы, паклікала. — Мупся! Мупся!

Празрыстая фіранка скалыхнулася і адтуль, ад акна пачуўся тоненькі галасок:

— Я ўжо на падаконні. Снедай і выходзь у альтанку, — Мупся нейкае імгненне памаўчаў і запытаўся: — Табе не падалося, што гэтая мая казка атрымалася занадта доўгай?

Я паднялася з ложка і падышла да акна, дзе злавіла сябе на думцы, што вельмі схацелася прылашчыць, пагладзіць Мупсю, а ўслых сказала. — З чаго ты ўзяў, што твая казка мне здалася доўгай? Яна не доўгая, а хутчэй за ўсё страшная. Ведаеш, як я спалохалася, калі пачула, што Настусю прывяжуць да слупа, каб спаліць яе на агні!





— Але ж не спалілі! — Хутка адазваўся Мупся і працягнуў: — Я ведаю некалькі па-сапраўднаму жудасных казак. І адну з іх магу расказаць нават сёння, у альтанцы. Хутчэй снеда-а-й...

Апошняе слова да мяне даляцела ўжо, як рэха. Мупся пакінуў мяне. Я глядзела на высокую траву пад акном і мне здавалася, што гэта не лёгкі ранішні ветрык згінае яе, а Мупся, якога, напэўна, ніколі не ўдасца мне прылашчыць.





# СТРАШНАЯ КАЗКА



## *Мупсякарнашжабулвак павінен выконваць тое, што абяцае*





Калі мы паснедалі, Вера папрасіла мяне дапамагчы ёй па гаспадарцы. Трэба было ў агародзе выбраць цыбулю, і я ўвесь час адчувала, што Мупся знаходзіцца дзесьці зусім побач. Былі моманты, калі ў мяне проста з-пад рукі хтосьці нябачны выхопліваў цыбуліну і яна, праплыўшы ў паветры, апускалася ў кош. І я пры Веры не магла сказаць: «Ах, Мупся, які ты добры памочнік! Ну яшчэ паўгадзінкі і мы сустрэнемся з табою ў альтанцы, дзе я пачую ад цябе яшчэ адну казку». Але гэтага, на жаль, не здарылася.



(68) Стрыечны брат Андрэй на трактары прывёз з мястэчка цэглу, якую трэба было выгрузіць. Ён сабраўся перарабляць коміны ў хаце і ўжо была дамоўленасць з печнікам, які павінен быў прыйсці на наступным тыдні, каб распачаць гэтую працу. Цэглу выгрузілі дзесьці пад абед. І тут падняўся шалёны вецер. З поўначы наплывала цяжкая чорная хмара, якая хутка набліжалася з маланкамі і громам. Мы з Вераю пачалі зносіць цыбулю ў свіран, каб яна не намокла пад дажджом. Зразумела, што я не магла не думаць пра Мупсю: «Хоць бы ён здагадаўся праз акно залезці да мяне ў пакой, каб схавацца ад навальніцы!» Я нават ціхенька клікала яго, калі Веры не было побач: «Мупся! Мупся! Дзе ты? Вось-вось пачнецца дождж, залазь да мяне ў пакой!» Але Мупся не адзываўся і гэта трывожыла мяне незвычайна. «Дзе ён перачакае навальніцу? Клумба, на якой ён найчасцей знаходзіўся, не лепшае месца, каб ўратавацца ад дажджу», — хвалявалася я. А тым часам хмара насунулася. Вецер зрываў лісце з яблынь і збіваў з ног. Гром ужо не вуркатаў здалёку, а грымеў над самаю хатаю, і зіхоткія маланкі адна за адной пранізвалі неба.

— Зачыні сваё акно, а то вецер павыбівае шыбы, — крыкнула мне Вера, і ў гэты момант хлынуў дождж...

Пакуль зачыняла акно, — уся змокла. Вера чакала мяне на ганку і жахалася. Было ўражанне, што на вёску наляцеў ураган. Усё наўкол шумела і стагнала. Вецер нёс па сцежках патокі вады. Неба перарэзала маланка, грымнуў гром, недалёка ад ганка затрашчала старая яблыня і рухнула на зямлю, падмінаючы пад сабою траву і кветкі. Яна ледзь не зачапіла альтанку.

— Хутчэй хадзем у хату! — закрычала Вера, а я заўважыла, што фіранка на маім акне закалыхалася і хтосьці нябачны адхінуў яе, быццам хацеў паглядзець, што ж там, у двары, адбываецца?

«Мупся»! — радасна забілася маё сэрца. Вядома ж, гэта быў ён у маім пакоі. Таму не дзіўна, што як толькі я адчыніла дзверы ў пакой, тут жа пачула яго шэпт:





— Ты бачыла? Бачыла, як павалілася яблыня? У садзе Паўднёвы вецер сустрэўся з Паўночным і яны пачалі біцца. Узняўся віхор, які закружыць вялізнага пархавіка, а потым апусціць на ранейшае месца. Пархавік разваліцца, раструшчыцца. Тут і выйдуць з яго Хрысціна з Патрыкам.

— Ах, Мупся, Мупся! — заўсміхалася я. — Ты расказаў мне цудоўную казку пра іх і зараз хочаш, каб тое, што адбылося ў казцы, спраўдзілася. За акном звычайная летняя навальніца.

— Не-не, — хутка адазваўся ён. — Я чуў... Чуў, як ветры спрачаліся. Паўночны казаў, што яму хочацца згінаць да зямлі голле дрэў і зрываць пялёсткі з кветак. А Паўднёвы вецер, наадварот, хацеў радавацца дажджу і ціхенька лашчыць кветкі. Потым яны пачалі біцца, і ты бачыш, што робіцца за акном. Я не баюся маланак. Яны — як Залаты шлях, а гром мяне палохае, — і Мупся ўздыхнуў.

— Што ты сказаў? Ты помніш Залаты шлях? — вырвалася ў мяне. — Пра яго я пачула ад Астранцыі Вялікай. Па Залатым шляху ты трапіў на Зямлю?

— Я таксама пачуў пра Залаты шлях ад Астранцыі Вялікай, — сказаў Мупся, і голас яго быў поўны суму. — Пачуў і ўспомніў. Але па Залатым шляху я прыйшоў не сюды.

— А куды, Мупся? — і я затаіла дыханне: ну вось зараз, зараз ён пачне расказваць пра сябе.

Але мае спадзяванні былі дарэмнымі. Мупся трошкі памаўчаў і запытаўся:

— Ты не забылася, якую казку я табе хацеў расказаць?

— Жудасную, Мупся. Але ці варта расказваць страшныя казкі, калі за вокнамі такая моцная навальніца?

— Я абяцаў і мне трэба яе расказаць. Мупсякарнашжабулвак павінен выконваць тое, што абяцае.

І пасля гэтых яго слоў мне чамусьці падумалася, што Мупся сапраўды ўспомніў і пра Залаты шлях, і, напэўна, яшчэ пра нешта, але не хоча







дзяліцца сваімі ўспамінамі, таму і прапануе паслухаць яшчэ адну яго казку.

— У тваім кошыку ёсць невялікая галінка засушанай водарасці, — сказаў Мупся. — Сядай у крэсла і слухай... А я размяшчуся на падаконніку. Буду расказваць і сачыць, калі ж выйдуць з пархавіка вялізнага Хрысціна і Патрык. Дык ты гатова слухаць?

Я села ў крэсла і міжволі заплюшчыла вочы, а Мупся прыцішыў голас, як гэта робяць дарослыя, калі хочуць расказаць пра нешта вельмі таямнічае...



# Гідрыла кальчаковая

— Мала хто ведае, што калісьці даўно, — пачаў расказваць Мупся, — у гэтых мясцінах было вялікае мора і жылі рыбакі на яго берагах. Паўсюль былі чаўны і сушыліся сеці. І рыбы ў тыя часы было шмат. Рыбакі заўжды вярталіся дамоў з добрым уловам. І як жа тады ўзрушваліся іх сем'і, з якой радасцю сустракалі рыбакоў! Дзеці дапамагалі выбіраць з чаўноў рыбу, а жонкі адразу пачыналі яе смажыць і варыць юшку.

Толькі аднаго маладога рыбака ніхто не сустракаў. Звалі яго Янусь і жыў ён адзін у невялікай хатцы, якая стаяла асобна ад астатніх. І не на беразе, а зводдаль, дзе пачынаўся малады сасновы лес. Хата была абгароджана прыгожым плотам. Быў каля яе кветнік і нават невялікі ставок, у якім малады рыбак любіў купацца. А яшчэ Янусь у вольны час нярэдка ішоў углыб лесу і там паляваў на дзікага звера. Таму і не дзіўна, што ўсе



сцены ў яго хаце былі ўвешаны шкурамі самых розных звяроў. Ён нават спаў на вялікай мядзведжай шкуры.

Здаралася, сум агортваў маладога рыбака, і тады ён цёплымі адвячоркамі ішоў да мора і доўга-доўга глядзеў у яго сінюю далеч. Было, што з той далечы да яго даносіліся галасы, дзівосная музыка і чароўныя спевы. Тады пачынаў думаць Янусь, што гэта забаўляюцца ў моры сірэны — істоты ў выглядзе жанчын з хвастамі рыбін. У моры яны зачароўвалі рыбакоў у пагібельныя месцы. Сустрэчы з імі баяліся. А малады рыбак, наадварот, марыў пра такую сустрэчу. І колькі разоў уяўляў, што аднойчы ў яго сецць трапіць маладзенькая сірэна і распачне з ім ціхую размову пра глыбіні марскія, і яшчэ пра нешта вельмі таемнае, ад чаго трывожна пачне біцца яго сэрца.

І вось аднаго разу штосьці падобнае адбылося. Далёка ў мора заплыў на сваім чаўне Янусь, закінуў сецць і, як стаў яе цягнуць да берага, адчуў, што не рыба трапечацца ў ёй. А калі выцягнуў на бераг і зірнуў на тое, што ў той сецці было, дык дрыжыкі пабеглі па скуры, хоць, звычайна, яго цяжка было чымсьці напалохаць. У той сецці білася, скручвалася ў жахлівыя кольцы двухгаловая гідра марская. І прыўзняла яна адну са сваіх жудасных галоў і загаварыла, а Янусь адразу адзначыў, што галасок у яе — бы срэбная вясновая ручаінка.

— Не ведаю, якое ў цябе імя, прыгажун-рыбак, але ты — першы, хто падарыў мне надзею стаць такою, якая я ёсць на самой справе.

І тут жа адазвалася, прыўзняўшыся, другая галава:

— Не гідру жахлівую падняў ты з марскіх глыбіняў, а чароўную прынцэсу. Ты, вядома ж, не верыш. А я — прынцэса! — і яе страшнае доўгае цела пачало звівацца, маўляў, прынцэса — я! Прынцэса! Толькі б хутчэй пазбавіцца ад гэтай мярзотнай скуры.

— Насамрэч, прынцэса! — падхапіла галава, якая загаварыла першай. — Злосная вядзьмарка зачаравала мяне, каб ніхто ніколі не сказаў, што я самая прыгожая ў нашым такім далёкім адсюль каралеўстве.







— Ты можаш мяне выбавіць ад гэтых чараў, рыбак, — і галасок той галавы, што звярнулася да Януся з гэтымі словамі, трапятаў, як трапеча пад лёгенькім ветрам маладая лістота. — Калі ты не пабаішся, калі ўскінеш сецьна свае дужыя плечы і занясеш мяне ў сваю хату, дзе і выпусціш на свой ложак, я адразу зноў стану прынцэсай.

— Але перад тым, як выпусціць мяне з сеці, — перайшла на ялейны шэпт другая галава, — ты павінен сказаць словы: «Няхай стане жонкай гідра марская!»

Янусь жахнуўся, а гідра апусціла свае галовы, і адна з іх загаварыла жаласна-жаласна:

— Калі ты гэтага не зробіш, малады рыбак, калі адпусціш назад у мора ці пакінеш паміраць у гэтай сеці, няўжо ніколі не пашкадуеш, што мог уратаваць прынцэсу? У цябе ж, напэўна, добрае сэрца і ты мужны, хаця б таму, што змог выслухаць мяне. Я не бачу перапуду на тваім прыгожым твары.







І галава гэтай жахлівай істоты прыўзнялася, і ў яе пукатых вачах дрыжэлі слёзы. «Ды не такая яна ўжо і страшная, — падумаў Янусь. — І цалкам верагодна, што ўсё тое, пра што я тут пачуў, можа аказацца праўдай. Была б гэта сапраўды гідра, дык прасілася б, каб кінуў яе назад у мора». І ён ускінуў сецьна свае плечы, адчуваючы, як цела апякло холадам, і як моцна звіваецца гідра, спрабуючы вытыркнуць свае жудасныя галовы з сеці. Але вось і ягоная хата. Як толькі пераступіў парог Янусь, дык адразу і выпусціў гідру на вялікую мядзведжую шкуру. І тут жа ашчэрыліся агідныя галовы, засыкалі, як сыкаюць страшныя гадзюкі:



— А словы?! Ты забыўся сказаць: «Няхай стане жонкай гідра марская!»

І адна з гэтых галоў дзіка зарагатала:

— Ха-ха-ха-ха... Як жа ты мог паверыць, рыбак, што я калісьці магла быць прынцэсай! Жаночая прыгажосць — нішто ў параўнанні з сілай майго цела! Дык адчуй гэтую сілу! — і гідра ў адно імгненне абвілася вакол Януся і ля самага твару засыкалі яе галовы:

— Такая ўжо доля твая, рыбак! Ты смерцю сваёю адкажаш за тое, што людзі неаднойчы глуміліся над намі.

— Адсякалі нас і адсякалі, але мы — неўміручыя галовы, мы адрасталі і цяпер прыйшоў час нашай помсты!

Янусь адчуў, як агідныя слізкія колцы, што абвіліся вакол яго, пачалі сціскацца, і тады загаварыў ён:

— Калі ўжо мне выпала памерці ў абдымках марской гідры, дык ты паспееш задушыць мяне ў любы момант, але дазволь перад смерцю распаліць камін і пасядзець каля яго паўгадзінкі, як я гэта любіў рабіць у хвіліны нейкага свайго вялікага шчасця. Хочацца адчуць сябе ў апошні раз шчаслівым.

— Паўгадзінкі зашмат, — злосна сыкнула адна з галоў. — Хопіць з цябе і некалькіх хвілін.





З гэтымі словамі гідра адкруцілася і спаўзла да ног рыбака.

— Добра, — сказаў Янусь. — Я згодны і на кароткі міг свайго чалавечага шчасця. — І пачаў распальваць камін.

Калі ж агонь у каміне добра разгарэўся, ён сеў у крэсла, што стаяла каля самага каміна. Гідра падсунулася бліжэй да яго ног, гатовая ў любое імгненне накінуцца на маладога рыбака, і ў нейкі момант павярнула свае жудасныя галовы да каміна, дзе весела патрэсквалі сасновыя паленцы. Тады і схапіў яе Янусь і з усяе сілы, якая толькі была ў яго, шпурнуў у агонь. Гідра скруцілася ў клубок, а потым імкліва выпрасталася, як спружына, падскочыла і рынулася ўверх, у дымаход. Яна вылецела з коміна і пачала павольна апускацца ўніз, пакуль, нарэшце, не ўпала ў ставок. Але апёкі былі такія моцныя, што яна тут жа і сканала. Жыццё пакінула яе.

Рыбак выбег з хаты, пабачыў на вадзе мёртвае цела гідры і адчуў сябе па-сапраўднаму шчаслівым. А калі праз некаторы час да яго завіталі сябры-рыбакі і запыталіся, ці праўда, што аднойчы ў яго сець трапіла гідра марская, ён і расказаў ім пра гэтае жахлівае здарэнне. А потым павёў да стаўка і выцягнуў з вады водарасць з зеленавата-бурымі лісцікамі.

— Вось і гідра гэтаксама звівалася ў колцы і колеру была амаль такога ж, — сказаў ён. — Калі яе цела пайшло ўжо на дно, праз некаторы час у стаўку і з'явілася гэтая водарасць. — І ён прыўзняў яе. — Паглядзіце, ну, чым не гідра?!

Рыбакі засмяяліся, а адзін з іх ускрыкнуў:

— Ды гэтая водарасць на метры тры цягне! Гэта ўжо не гідра, а нейкая гідрыла кальчаковая!

З таго часу яе гэтак і называюць. А сустракаецца цяпер яна найчасцей у азёрах на пясчаных і глеістых грунтах на невялікай глыбіні.

— Галя-я! Галя-я! — і я ўздрыгнула. Мяне гукала Вера. Расплюшчыла вочы і адразу зразумела, што апошнія Мупсевы словы чула, засына-







ючы. «А дзе ж ён сам?» — мільганула думка і я паклікала яго. Але па тым, як калыхалася фіранка на расчыненым акне, зразумела, што Мупсі ўжо не было побач. Затое ў пакой зазірнула Вера і запыталася:

— Ды ці не заснула ты тут, у крэсле? Адзенне сваё, вядома ж, не прасушыла?

— Сукенка даўно высахла, яна лёгкая ў мяне, — адказала я. — А дождж што, ужо скончыўся?

— І дождж скончыўся, і Андрэй яблыню паваленую прыбраў. Пойдзем вячэраць.



Вера зачыніла дзверы, а я падышла да акна, адхінула фіранку. З двара цягнула прахалодай, па зямлі слаліся прыцемкі і дзе-нідзе ў небе паблісквалі зоркі.

— Мупся! Мупся! — ціхенька гукнула я. І ніхто не адазваўся ў адказ. Заставалася адно: ісці вячэраць. Але, калі праз нейкую гадзіну я вярнулася ў пакой, ён, напэўна, кінуўся да мяне, хоць я гэтага і не бачыла, Мупся ж быў — нябачны, бо адразу зусім побач пачула:

— Патрык і Хрысціна пакінулі пархавік! Я там быў! Гэты гігант лопнуў і рассыпаўся, як звычайная старая порхаўка.

— Ты бачыў Хрысціну і Патрыка? — здзівілася я.

— Не, я іх не бачыў, але ж пархавік... Усё атрымалася, як у маёй казцы. Яны выйшлі з яго. І некуды зніклі, — дадаў ён.

— Ах, Мупся, Мупся, — сказала я і пашкадавала, што не магла прытуліць яго да сябе, як дарослыя прытуляюць дзяцей, калі вельмі цешацца імі. — Калі б Хрысціна і Патрык сапраўды выйшлі з пархавіка, дык, напэўна, ужо сядзелі б і грэліся ў гэтай хаце. Расказвалі б, што з імі адбылося і пыталіся б, дзе і ў якім часе яны знаходзяцца.

— Ты мне не верыш? — у Мупсевым голасе пачулася крыўда.

— Ну, як табе сказаць... — я злавалася на сябе, што міжволі пакрыўдзіла яго. — Ведаеш што? Яшчэ не надта позна, давай, засядзем за мой



гербарый. Я пачну прымацоўваць да альбомнай старонкі адну з раслін, а ты зноў раскажаш мне казку. Толькі ўжо не такую жахлівую, як пра гідрылу кальчаковую.

Мупся нейкае імгненне памаўчаў, потым уздыхнуў і прамовіў:

— Не-е, на жаль, казку давядзецца расказаць заўтра. Зараз вымушаны цябе пакінуць. Я абяцаў Астранцыі Вялікай, што абавязкова прыйду да яе гэтым вечарам. Яна хоча паведаміць мне штосьці вельмі важнае.

«Можа, хоча адкрыць код Вялікага чарадзея Карнашыі, які ты не помніш?» — ледзь не вырвалася ў мяне. І, напэўна, я не памылялася, таму што Мупся сказаў:

— Калі Астранцыя Вялікая скажа мне тое, што я хачу пачуць ад яе, ты, магчыма, зможаш тады мяне пабачыць. Прыходзь раніцай у альтанку. А зараз зачыні акно, каб Патрык і Хрысціна цябе не напалохалі, калі ім раптам захочацца дзеля цікавасці зазірнуць у яго.

Мупся знік з пакоя і я паспяшалася выканаць яго просьбу: зачыніла акно. У тое, што Патрык і Хрысціна могуць зазірнуць у яго, мне не верылася, але наступнай раніцай з’явілася шмат пытанняў, на якія адказаў не знаходзілася...





## (78) ЗАЛАТЫЯ ВУШКІ

*Мупся думае, што, як толькі ён стане залатым сабачкам, — прыме свой сапраўдны выгляд, — Залаты шлях зможа знайсці яго*



Я прачнулася вельмі рана, але ўжо добра развіднела. Ад учарашняй навальніцы не было і следу. За акном на розныя галасы шчабяталі птушкі. Я падхапілася з ложка, падышла да акна, каб расчыніць яго. І калі я гэта зрабіла, у пакой уплыла прыемная прахалода. Небакрай ужо афарбаваўся ў чырвань. Хутка адтуль павінна было выкаціцца сонца.

— І куды ж яны пайшлі? — нечакана з-за хаты да мяне данёсся голас стрыечнага брата Андрэя. — У сельсавеце яшчэ нікога няма.





— А навошта ім было ісці ў сельсавет? — тут жа пачуўся Верын голас. — Рыгор Петрачкоў у Мінск ехаў. Сёння яму на прыём да нейкага доктара-прафесара трэба, дык і ўзяў іх з сабою. Напэўна турысты, можа, ад аўтобуса свайго адсталі.

«Пра каго гэта яны гамоняць?» — мільганула думка і я гукнула:

— Вера! Падыдзі да акна!

— О-о, Галка прачнулася, — і праз якое імгненне Вера ўжо стаяла перада мною. Падышоў і стрыечны брат.

— У нас тут на досвітку іншаземцы аднекуль узяліся, — сказаў ён. — Дык Вера во кажа, што гэта турысты.

— Вядома, турысты, — хутка адазвалася Вера. — Настаўніка давялося пабудзіць. Яны ж не па-нашаму размаўлялі, але нават ён не разабраўся, якая ў іх мова. І не французская, і не нямецкая.

— Чакайце... Чакайце, — і я задумалася. — А як яны былі апрануты?

— Звычайна, як іншаземцы, — сказала Вера і раптам дадала: — У нас гэтак не апранаюцца. У яго штаны — у дробную клетачку, на ёй была доўгая спадніца з фальбонаю.

— Яшчэ капялюш у яго быў. Ён яго ў руках трымаў, — сказаў стрыечны брат.

І ў мяне гулка забілася сэрца. «Вядома ж, ніякія гэта не турысты, — падумала я. — Але як можна паверыць у тое, што Мупся не памыляўся? Няўжо гэта былі Патрык і Хрысціна, якія стагоддзі праседзелі ў пархавіку, чакаючы, пакуль Паўднёвы вецер сустрэнецца з Паўночным? Не-не... Такога не можа быць!» І я запыталася:

— А як яны выглядалі? Якога ўзросту былі?

— Ды маладыя зусім. — І Вера ўдакладніла: — Недзе трошкі за дваццаць гадоў, не болей. Перапуджаныя абое, можа, хто іх з машыны высадзіў...







— Ну ты яшчэ што выдумай, — абарваў яе стрыечны брат. — Мабыць, не на той станцыі з цягніка сышлі, вось і звярнулі да бліжэйшай вёскі. З-за іх у грыбы не схадзіў! — І ён пакінуў нас, пайшоў да свірна.

Вера таксама заспяшалася ў агарод паглядзець, што ж там нарабіла ўчарашняя навальніца. Мне ж карцела як мага хутчэй выйсці ў сад, каб пабачыць, што сталася з тым гігантам-пархавіком, пра які Мупся сказаў, што ён лопнуў. І калі праз некалькі хвілін выйшла на ганак, адразу ж побач пачула шэпт:

— Ну вось бачыш... Табе пра ўсё расказалі цётка Вера і дзядзька Андрэй, а ты мне не верыла. Гэта былі Патрык і Хрысціна. — І ён тут жа запытаўся: — Ты ідзеш у альтанку?

— Не, Мупся. Хачу паглядзець на той пархавік.

— Там цяпер раса! Я ж табе сказаў, што ён лопнуў!

І ў гэты самы момант я гучна войкнула. Унізе каля ганка невысока над травою, — о, гэта неверагодна! — заскакалі ярка-жоўтыя вушкі, якія бываюць у сабачак метысаў. Скок-скок, скок-скок — гайдаліся яны ў паветры, як два залатыя трохкутнічкі. Я працерла вочы, — ці не прымроілася гэта мне? Вушкі зніклі, і я пачула ціхі смех, а потым і Мупсеў галасок:

— Спалохалася? Я паказаў табе свае вушы! — і Мупся зноў засмяяўся, і смех гэты быў вельмі радасны. — Цяпер я зноў, калі захачу, магу стаць залатым сабачкам.

— Табе дапамагла ў гэтым Астранцыя Вялікая?

Мупся маўчаў, і мне здавалася, што я чую яго частае дыханне.

— Пакажы мне яшчэ раз свае вушкі, а лепш з’явіся ўвесь, які ты ёсць на самой справе, — папрасіла я.

І ў гэты момант да ганку падышла Вера.

— Ты гэта мне штосьці казала? — запыталася яна.

— Ну, што там у агародзе? — пытаннем на пытанне адказала я.



— Памідоры вецер паабрываў. Няхай трошкі абсохнуць на зямлі, потым збяру ў кош. Добра, што ўчора цыбулю да дажджу выбралі. Раса спадзе, дык дапаможаш на сонца яе вынесці, каб прасохла як след.

Я слухала Веру і глядзела на траву каля ганка: а, раптам зноў над ёю з'явяцца Мупсевы залатыя вушкі? Але Мупся, відаць, затаіўся дзесьці паблізу і чакаў, пакуль я зноў застануся адна, і можа тады пакажа мне сваё сапраўднае аблічча. Але Мупся не паказаў мне яго ні тады, калі я пайшла паглядзець, што сталася з гігантам пархавікам, ні калі выносіла цыбулю са свірна. Ён увогуле не адгукаўся на маё ціхае: «Мупся! Мупся! Ты дзе?» І ўжо толькі перад абедам, калі я сядзела ў альтанцы і прымацоўвала да альбомнай старонкі засушаную ярка-жоўтую з аранжавымі плямкамі кветку каменяломніка балотнага, пачула яго галасок:

— А ў гэтай кветцы яшчэ можа знаходзіцца Дух каменя.

— Ах, Мупся! Ну, нарэшце! — радасна ўскрыкнула я. — А мне пачынала ўжо здавацца, што ты ніколі больш не з'явішся. Дзе ты быў увесь гэты час?

— У цябе прадчуванне, як і ў Астранцыі Вялікай. Яна мне дапамагла ўспомніць код Вялікага чарадзея Карнашыі. Але, як толькі я стану залатым сабачкам, — прыму свой сапраўдны выгляд, Залаты шлях можа знайсці мяне. Астранцыі Вялікай здаецца, што я хутка вярнуся на залатыя палі Карнашыі. Я толькі што прыбег ад яе.

Сэрца маё моцна забілася, і ўсю мяне агарнуў смутак. Я прывыкла да Мупсі і мне не хацелася страчваць яго. Мупся зразумеў мае пачуцці.

— Не бойся, — сказаў ён. — Я не пакіну цябе, пакуль не раскажу ўсіх казак пра расліны, што складуць твой гербарый.

— Ты лепш раскажы мне пра Карнашыю, — папрасіла я.

— Не цяпер, — хутка адказаў Мупся і запытаўся: — Цябе не зацікавіла, што ў кветцы каменяломніка балотнага яшчэ можа знаходзіцца Дух каменя?







— Па-першае, — сказала я, — пялёсткі гэтай кветкі мне нагадваюць твае вушкі, прынамсі, яны такога ж колеру, а па-другое, кветка і камень — паняцці несумяшчальныя.

— Гэта табе так здаецца, — адказаў Мупся. — Але калі я раскажу табе зараз яшчэ адну сваю казку, твае думкі наконт гэтай кветкі зменяцца.

І Мупся пачаў расказваць...



## Каменяломнік балотны

— Ты ж ведаеш, што недалёка адсюль, адразу за бярэзнікам, дзе расце Астранцыя Вялікая, ёсць балотца, якое завуць Мохавым балотам. Але калісьці, даўно-даўно, ніякага балота там не было, як і бярэзніка таксама. На тым месцы ўзвышалася агромністая гара, і людзі з навакольных вёсак, здаралася, здабывалі там камень для падмуркаў сваіх хат, якія яны будавалі. Але мая казка зусім пра іншае.

У той гары жыў магутны дух — Дух каменя, і ў яго быў малодшы брат, якога нішто не цешыла. Нават калі старэйшы Дух паказваў яму незлічоныя скарбы, што хаваліся ў нетрах гары, той толькі адварочваўся і ўздыхаў. «Я хачу быць падобным да тых людзей, што прыходзяць да гары па камяні», — казаў ён і пачынаў плакаць. Ад тых слёз вакол гары ўтваралася багна, і людзі пачыналі рабіць гаць, каб дабрацца да той гары. Надакучыла ўсё гэта старэйшаму Духу і аднойчы ён прапанаваў:





— Ну, калі табе гэтак хочацца, пажыві сярод людзей. Я ўдыхну цябе ў цела вунь той маладой жанчыны, што ідзе да вёскі. Але, калі табе споўніцца дваццаць гадоў, ты павінен будзеш вярнуцца назад у гару. Інакш я сам прыйду па цябе, і бяда вялікая здарыцца ў вёсцы — усё жывое ў ёй акамянее.

З гэтымі словамі старэйшы Дух моцна дзьмухнуў. А маладая жанчына, што ішла да вёскі, адчула, як у яе пад сэрцам штосьці тарганулася, як, бывае, торгаецца дзіця, якое мусіць нарадзіцца. І праз колькі месяцаў у той жанчыны нарадзіўся сын, якога яна назвала Антосем. І такі ўжо ён быў разумны ды прыгожы, што ўсе людзі толькі дзівіліся, што ў беднай і адзінокай жанчыны нарадзілася такое незвычайнае дзіця. Антось падрастаў, і жанчына не магла нарадавацца — такі ён быў паслухмяны. Што ні скажа яна яму, ён абавязкова выканае. Больш за тое: яна ніколі не чула ад яго ніводнага крыўдлівага слова, — адну ўважлівасць ды пяшчоту бачыла ад яго. А калі Антосю споўнілася чатырнаццаць гадоў, задумаў ён пабудаваць новую хату, ды не драўляную, а з каменя, — самы сапраўдны мур.

— Ты ж яшчэ такі маладзенькі, сынок, — казала жанчына. — Які з цябе каменялом?! Рана хадзіць да гары, камяні цягаць!

Антось толькі пасміхаўся ў адказ. І адкуль жа было ведаць той жанчыне, што, як толькі падыходзіў яе сын да гары, камяні самі каціліся да яго ног. А здаралася, што і голас гучаў: «Помні, што, як толькі табе споўніцца дваццаць гадоў, ты павінен будзеш вярнуцца назад у гару. А пакуль я, твой старэйшы брат, дапамагу табе пабудаваць мур. Камяні з нашай гары будуць тваёй надзейнай аховай». І людзі ў той вёсцы толькі дзівіліся, як хутка ўзводзіліся сцены самага сапраўднага палаца. Больш таго. Здарылася так, што ў адным з камянёў Антось знайшоў россып каштоўных каменьчыкаў, — жанчына хвалілася суседзям, што гэта былі смарагды і алмазы. І нядобрая чутка паплыла па наваколлі, што нейкая магутная сіла дапамагае Антосю, але такая дабрыня свяцілася ў яго вачах, і столькі







было ў ім чуласці, што людзі забываліся пра гэтую чутку. Адно, — пачалі зваць яго маладым панічом, хоць дагэтуль лічылі Антося бедным і бязродным.

А гады тым часам міналіся. Вось ужо споўнілася Антосю васемнаццаць гадоў, і нярэдка падхопліваўся ён ноччу ад голасу, які чуўся побач: «Радуюся за цябе, мой малодшы брат, але помні пра нашую гару і пра тое, што я чакаю твайго вяртання, як толькі табе споўніцца дваццаць гадоў!» I страшна было падумаць Антосю пра гэта, што аднойчы прыйдзе момант, калі яму трэба будзе ісці да гары, дзе яго чакае старэйшы брат — Дух каменя. А яшчэ страшней стала, калі аднойчы спынілася карэта каля яго каменнага мура і выйшаў з той карэты самы сапраўдны пан. I такія словы пачуў ад яго Антось: «Ужо колькі гадоў жывём мы ў добрым суседстве, дык чаму малады паніч ніколі не завітае да нас? Перадаю табе просьбу маёй дачкі Вальжыны, каб ты быў у нас у бліжэйшую нядзелю. Яна будзе цябе чакаць».

Падзякаваў Антось за запрашэнне і адчуў, як моцна забілася яго сэрца — такое вялікае хваляванне агарнула яго. Справа ў тым, што Антось ужо даўно пазнаёміўся з Вальжынаю і ведаў самую кароткую сцежку праз лес, што вяла да палаца, дзе і жыла дзяўчына са сваім бацькам — скупым і вельмі багатым панам. Да Вальжыны ўжо сваталіся самыя розныя панічы, але яна аднойчы ўгледзела Антося ў лесе, калі выязджала на прагулку разам са сваёй служанкай. Спадабаўся ёй Антось і яна, быццам незнарок, выпусціла з рукі сваю белую хусцінку, якую Антось тут жа падняў і падаў ёй. Гэтак яны і пазнаёміліся, каб ужо часта сустракацца ў тым лесе. Здагадваўся Вальжынін бацька пра тыя сустрэчы і схацелася яму завалодаць смарагдамі ды алмазамі, якія Антось знайшоў у камені. Але не ведаў стары пан аднаго: што якраз у тую нядзелю Антосю і павінна было споўніцца дваццаць гадоў. «Няўжо мне не ўдасца ўпрасіць брата, каб ён назаўжды адпусціў мяне да людзей? Дапамог жа ён мне пабуда-







ваць мур, дык ці будзе цяпер супраць майго шчасця?», — думаў Антось. А калі ў той жа дзень сустрэўся з Вальжынаю, сказаў ёй:

— У нядзелю я абавязкова прыеду да вас, але перад тым, як прыехаць, на досвітку пайду да гары. У яе нетрах ёсць скарбы незлічоныя, а я ж з маленства быў каменяломам. Ведаю, дзе яны схаваны, і колькі змагу, прынясу твайму бацьку. Тады, напэўна, ён нам і шлюб дазволіць узяць.

І вось надышла нядзеля. Раненька на досвітку пайшоў Антось да гары, і яна расступілася перад ім. І тут жа пачуўся голас:

— Ты сапраўдны малодшы брат. Вярнуўся роўна праз дваццаць гадоў. Ведаю, што зараз пачнеш мяне прасіць, каб адпусціў цябе назад, але такога не будзе. Мы — два браты, два магутныя Духі гэтай гары і ў ёй павінны заставацца назаўсёды. А каб табе ніколі не хацелася назад да людзей, каб забыўся пра сваё каханне да прыгажуні Вальжыны, гара наша схаваецца пад зямлёю.

І задрыжэла ўсё наўкол. І такі моцны грукат у той жа момант пачуўся, што з бліжэйшых да той гары паселішчаў пачалі збягацца людзі. І не пабачылі яе. Там, дзе яшчэ зусім нядаўна ўзвышалася гара, ляжаў толькі невялікі грудок камянёў. Падзівіліся людзі ды і разышліся. Пра гэтае дзіва пачула і Вальжына. І калі ў тую нядзелю так і не дачакалася Антося, на наступны дзень разам са сваёю служанкай паехала да таго месца, дзе стаяла гара. Выйшла яна з карэты і тут жа ўгледзела расліну, якая толькі-толькі расцвіла. І кветкі былі такія агністыя, ярка-жоўтыя, і хінуліся яны да Вальжыны, як жывыя.

— Ты толькі паглядзі, якія пяшчотныя і трапяткія кветкі ў гэтай расліны, — звярнулася дзяўчына да служанкі. — А тут жа наўкол адны камяні! Як і прабіўся такі цуд скрозь камень?!

— Пэўна, сіла вялікая ў гэтай расліне тоіцца. Інакш і не назавеш яе як каменяломнікам! — адказала служанка.







З таго часу гэтак і называюць расліну, а балотца ўжо значна пазней на тым месцы ўтварылася. І можна толькі здагадвацца, што не высыхала яно ад слёз малодшага Духу каменя. А яшчэ ў гэтых мясцінах доўга хадзіла чутка, што жанчына, якая нарадзіла Антося, аднойчы пачула голас, які сыходзіў ад сцяны мура, дзе яна засталася жыць. Маўляў, адвярні ў сцяне самы вялікі камень і ты знойдзеш пад ім тое, што табе зможа спатрэбіцца. Жанчына гэтак і зрабіла. І знайшла пад каменем у сцяне шмат каштоўных камянёў. Але не маглі тыя смарагды ды алмазы суцешыць жанчыну, і яна да самага скону ўсё чакала і чакала свайго Антося...

Мупся замоўк, а я глядзела на пялёсткі каменяломніка балотнага і мне чамусьці падумалася, што, напэўна, і на залатых палях Карнашыі могуць расці кветкі такога ж жоўта-агністага колеру. І Мупся ўсё роўна як падслухаў гэтыя мае думкі, бо сказаў:

— На залатых палях, якія мне яшчэ цьмяна помняцца, не можа быць такой расліны. Калі я быў зусім маленькі, мне расказвалі іншыя казкі.

— Хто табе іх расказваў? — запыталася я і адказу на гэтае сваё пытанне не пачула. А пялёстак каменяломніка балотнага, які я трымала ў руках, нечакана выгнуўся і ў ім штосьці затрапятала, забілася, як, бывае, б’ецца жылка на скроні. Можа, гэта нагадваў пра сябе Дух каменя?







# ФАЛЬВАРАК ДЛЯ РУСАЛКІ

*Казкі, якія расказвае Мупсякарнашжабулвак, можна пачуць ад яго пяці залатых шарсцінак*



У той дзень, калі я даведалася з Мупсевай казкі пра каменяломніка балотнага, ён больш не з’яўляўся. Мупсі не было ні ў садзе, ні ўвогуле ў двары. Розныя думкі трывожылі мяне, але была і ўпэўненасць, што Мупся не мог знікнуць назаўсёды, не развітаўшыся. Тым больш, што ён сам пра гэта сказаў, — пакуль не раскажа ўсіх сваіх казак, будзе заставацца на братавай сядзібе. І ўсё ж, калі надышоў вечар, я адчыніла акно і міжволі пазірала ў зоркавае неба, спрабуючы адшукаць сузор’е Гончых Псоў. І тут пад самым





акном мільгануў чыйсьці ледзь бачны цень, а потым пачуўся голас, які я адразу пазнала. Гэта была Астранцыя Вялікая!

— Ты чакаеш Мупсякарнашжабулвака? — запыталася яна. — Ён забавіўся каля эспарцэта пясчанага, які расце за два кіламетры адсюль у сасонніку.

— Мупся ў сасонніку? — занепакоілася я.

— Не хвалюйся, — суцешыла мяне Астранцыя Вялікая. — Думаю, ён не затрымаецца да ночы. Але, калі раптам пабачыць Залаты шлях, яму цяжка будзе саўладаць са сваім сумам.

— Ты хочаш сказаць, што Залаты шлях можа забраць яго?

— Напэўна, не цяпер. Але ты Мупсякарнашжабулвака не затрымлівай каля сябе. Казкі, якія ён хоча табе расказаць, ты можаш пачуць і ад яго пяці залатых шарсцінак.

«Пяць шарсцінак — пяць казак, — падумала я. — Але ж у маім кошыку засталіся галінкі воўчніка баравога, засушанае лісце і кветкі хамарбіі балотнай, невялікі парастачак наяды марской і некалькі пялёсткаў фіялетава-ружовай кветкі таго самага эспарцэта пясчанага, каля якога забавіўся Мупся. Атрымліваецца чатыры казкі».

— Пятая расліна будзе жывая, — нечакана сказала Астранцыя Вялікая. Яна нейкім чынам пачула мае думкі. — Ты яе возьмеш з сабою ў Мінск, калі будзеш ад'язджаць адсюль. А зараз лаві шарсцінкі! — І ў яе голасе пачулася трывога. — Я прыкмеціла Залаты шлях у небе.

Апошнія яе словы ўжо ледзь даляцелі да мяне. Было зразумела, што цень Астранцыі Вялікай адплыў ад акна. Я зірнула ў неба, але нічога, акрамя зорак, там не пабачыла. Затое на падаконніку зіхацелі залатыя шарсцінкі. Іх было роўна пяць.

— Хутчэй! Хутчэй загарні шарсцінкі ў якую-небудзь паперчыну і схавай іх!

Гэта, вядома ж, быў галасок Мупсі. І я вельмі ўзрадавалася, што ён зноў побач са мною. Але мне была не зразумелая яго ўсхваляванасць і я запыталася:







— Мупся, ты нечага баішся? Лепш запытайся, адкуль на падаконніку гэтыя залатыя шарсцінкі?

— Я ведаю, адкуль, — уздыхнуў ён. — Астранцыя Вялікая толькі што была тут. І ты ж чула? Чула пра Залаты шлях! Мае шарсцінкі падкажуць яму, дзе можна знайсці мяне. Ты хочаш, каб Залаты шлях апынуўся ў тваім пакоі?

І адразу пасля гэтых слоў да маіх рук падплыў белы аркуш паперы. Як тут было не здагадацца, што гэта Мупся паднёс яго да мяне. Я загарнула шарсцінкі ў паперу і пацікавілася:



— Скажы, Мупся, а твае залатыя шарсцінкі сапраўды могуць расказваць казкі? Пра гэта я пачула ад Астранцыі Вялікай.

Мупся хвілінку падумаў, потым адказаў:

— Калі б мяне не было ў гэтым пакоі і, увогуле, каб я быў ужо на залатых палях Карнашыі, шарсцінкі расказалі б табе мае казкі. Але толькі тады, калі б ты паклала іх пад сваю падушку. Казкі былі б, як сон. Пра гэта табе Астранцыя Вялікая забылася сказаць.

— Сапраўды, пра гэта яна мне не сказала. А сама я, вядома ж, не здагадалася б пакласці шарсцінкі пад падушку.

— Ну, хопіць пра шарсцінкі, — і ў гэты момант маё крэсла, дзе я звычайна любіла сядзець, падсунулася да акна. Мне толькі засталося падзівіцца, які Мупся дужы. А ён працягнуў: — Пакладзі шарсцінкі ў тое, што ты называеш сумачкай, і я пачну расказваць сваю наступную казку.

— Пра эспарцэта пясчанага, каля якога ты бавіўся больш як паўдня?

— О-о, эспарцэт! — і ў Мупсевым голасе я пачула захапленне. — Ён — дзівосны! Пра яго я шмат-шмат чаго ведаю, але я яшчэ не гатовы расказаць гэтую казку. Лепш паслухай пра іншае.

І я пачала слухаць...





# Наяда марская

— Ты ж, пэўна, чула, што недалёка ад мястэчка, куды ты любіш ездзіць па прадукты, калісьці ўзвышаўся вялікі-вялікі палац, у якім жыў стары князь. У таго князя была мянушка Даражэнька. Гэта таму, што да ўсіх ён звяртаўся са словам «даражэнькі». А найчасцей да свайго слугі Восіпа і маладога мастака, які жыў у палацы, — Язэпа. І вось аднойчы паклікаў стары князь Язэпа да сябе і сказаў такія словы:

— Даражэнькі Язэп, ты дапамог мне зразумець, што такое сапраўднае хараство. І прымушаў захапляцца тым, што маляваў, не толькі мяне аднаго. Але асаблівае захапленне выклікала карціна, дзе была намалявана табою наяда марская. Гэтая русалка мне заўжды нагадвала маю рана памерлую жонку. Я ўжо стары. Адчуваю, што мала мне жыць засталося, таму прымі, даражэнькі, ад мяне падарунак. Гэта будуць не грошы, не золата, а перадаю я табе, даражэнькі, свой стары фальварак, які знаходзіцца недалёка ад ляснога возера, куды я сам ужо даўно і дарогу забыўся.

Разгубіўся Язэп, не ведаў, якімі словамі і аддзячыць старога князя. А князь, між тым, яшчэ не ўсё сказаў Язэпу. І пачуў малады мастак, што хоча князь, каб Язэп узяў з сабою ў той фальварак яшчэ і слугу Восіпа.

— Ты ж ведаеш, даражэнькі, як верна служыў мне Восіп. Калі здарыўся ў палацы пажар, ён ратаваў «Наяду марскую». Яму ўдалося вынесці карціну з агню непашкоджанай, але полымя асляпіла яго. Каму патрэбен будзе сляпы слуга пасля маёй смерці, даражэнькі? А табе Восіп таксама служыць верна будзе.

Язэп быў удзячны Восіпу, што той падчас пажару ўратаваў яго карціну і, вядома ж, з радасцю пагадзіўся ўзяць сляпога слугу з сабою ў фальварак, які так нечакана атрымаў у спадчыну ад князя.





Стары князь неўзабаве памёр, і Язэп з Восіпам паехалі да ляснога возера, і шчасцю іхняму не было межаў — гэтак усё захапіла іх у тым фальварку. Язэпу адразу схацелася перабудаваць дом, і ён запрасіў майстроў, якія хутка пачалі ўзводзіць другі паверх і прыбудоўваць да дома тэрасу. Восіп, як мог, дапамагаў майстрам, а Язэп у альтанцы на беразе возера размяшчаў мальберт і маляваў эцюды, — мясціны ж там былі незвычайна маляўнічыя! І вось аднойчы, калі ён ужо сабраўся пакінуць альтанку, недалёка ад яе на вялікім валуне, які ляжаў каля самай вады, ён пабачыў дзяўчыну, і сэрца яго моцна забілася.

Дзяўчына саскочыла з валуна і намервалася схавацца ў густым зарасніку. «Уцячэ!» — падумаў Язэп і крыкнуў:

— Гэ-эй, пачакай! Адкуль ты тут узялася? Я нічога не зраблю табе кепскага, — і ён хутка пайшоў да валуна.





У зялёных вачах дзяўчыны быў перапуд, але Язэп бачыў толькі яе прыгажосць і пачаў распытваць, хто яна, адкуль, як тут апынулася? Неўзабаве ён ужо ведаў, што дзяўчына прыйшла да возера з бліжэйшага хутара, што на гэтым валуне яна адпачывае пасля цяжкай працы, таму што была дачкою вельмі бедных людзей, якія арандавалі кавалак зямлі ў адной багатай удавы-княгіні. Язэп слухаў дзяўчыну і думаў, што вось, нарэшце, з’явілася тая, што можа падарыць яму хвіліны натхнення. А калі ён намалюе яе на валуне, дык гэта будзе самая сапраўдная наяда марская. Яму схацелася намаляваць яшчэ адну наяду, і гэтая карціна цяпер ужо будзе належаць толькі яму, таму што тую, ранейшую, ён пакінуў у князевым палацы. І яна перайшла да кагосьці з князевых спадчыннікаў.

— Як цябе завуць? — запытаўся малады мастак у дзяўчыны.







— Ганулька, — адказала яна, але гэтым імем Язэп ніколі не называў яе. Таму што як толькі праз некалькі дзён пачаў маляваць Ганульку, адразу ж стаў называць яе Наядаю. І яна не пярэчыла. Яе неаднойчы ўжо называлі русалкай, такая незямная краса была і ў яе зіхоткіх зялёных вачах, і ў доўгіх залацістых валасах.



Міналіся дні... Майстры перабудавалі дом і пачалі аднаўляць астатнія пабудовы ў фальварку: хлеў, канюшню, свіран... А Язэп усё маляваў і маляваў сваю Наяду, адчуваючы, што бачыць сваё шчасце толькі ў гэтай дзяўчыне. І такім моцным было яго каханне да яе, што вырашыў ён пасля таго, як майстры адновяць увесь фальварак, узяць з ёю шлюб. Пра гэта ён аднойчы і сказаў Восіпу, які падышоў да валуна, дзе Язэп чакаў Ганульку.

— Мой дарагі Восіп, як шкада, што ты не можаш пабачыць, якую чароўную наяду я намаляваў на палатне, — і голас маладога мастака трымцеў пры гэтых словах. — І так ужо атрымалася, што я пакахаў яе ўсім сэрцам. І яна таксама кахае мяне. Хутка майстры адновяць фальварак, і мая Наяда стане ў ім маладой гаспадыняй.

Узрадаваўся Восіп, што мастак, якому ён верна служыць, знайшоў у гэтым фальварку сваё шчасце. Але ні ён, ні Язэп не ведалі таго, што гэтую іх размову чуў слуга ўдавы-княгіні, у якой Ганульчыны бацькі арандавалі зямлю. Да яе дайшлі чуткі, што ў старым фальварку ўжо даўно пасяліўся прыгажун-мастак. Але ён не шукае знаёмства з ёю, а ледзь не з першых дзён упадабаў Ганульку — дачку самых бедных людзей у гэтым краі і цяпер усё малюе і малюе яе. І вось удава-княгіня паслала свайго слугу да фальварка, каб ён употайкі даведаўся, ці праўда ўсё тое, пра што расказваюць людзі. Ці трэба доўга распавядаць, што слуга, як толькі пачуў Язэпавы словы, адразу ж паімчаў да княгіні, якая, трэба сказаць, была яшчэ даволі маладой і таксама вельмі прыгожай.

— Мастак аднаўляе фальварак для гэтай бядначкі, — сказаў ён удаве-княгіні, якая з нецярплівасцю чакала яго. — Ён называе яе сваёй На-





ядай і хоча пабрацца з ёю шлюбам. Хутка Ганулька стане яго жонкай. Пра гэта ўсё я пачуў, калі малады мастак размаўляў са сляпым Восіпам, які прыслугоўвае яму. Думаю, што вамі ён нават не цікавіўся, інакш даўно ўжо наведаў бы ваш палац.

— А што, гэты Восіп, ён сапраўды сляпы? — толькі і запыталася княгіня. А ў самой ужо выспеў план адпомсціць маладому мастаку за няўвагу да яе. Да ўсяго, — княгіню распірала зайздрасць. Яна была вельмі фанабэрыстай, але адчувала сябе глыбока няшчаснай, і заўжды зайздросціла чужому шчасцю. А калі аднойчы пабачыла мастака, які праскакаў на кані міма карэты, у якой яна ехала, дык і ўвогуле страціла спакой княгіня. Ёй спадабаўся мастак і вельмі схацелася, каб не Ганульку, а яе пачаў маляваць ён на сваіх карцінах. Каварства падказвала княгіні, што яна можа гэтага дамагчыся, толькі трэба дачакацца зручнага моманту. І вось той момант надышоў.

Майстры цалкам аднавілі фальварак і пакінулі яго. А Язэп пачаў збірацца ў дарогу. Ён вырашыў паехаць у вялікі горад, дзе хацеў набыць фарбаў і сустрэцца са сваімі братамі, якія жылі ў тым горадзе, каб запрасіць іх на сваё вяселле.

— Вымушаны пакінуць цябе, дарагі, ажно на цэлы тыдзень, — сказаў ён Восіпу. — Але ты не хвалюйся, што застаешся адзін. Мая Наяда будзе прыходзіць у фальварак штодня і дапамагаць табе ва ўсім.

У той жа дзень і паехаў Язэп у вялікі горад, а Ганулька заставалася ў фальварку да позняга вечара. Прыйшла яна ў фальварак і на наступны дзень, але таго не ведала, што на досвітку да Восіпа наведаўся незнаёмец — слуга ўдавы-княгіні і такія словы сказаў яму:

— Ты верна служыш свайму маладому гаспадару і жадаеш яму вялікага шчасця. Але, на жаль, не можаш пабачыць таго, што не дзяўчыну пакахаў шаноўны Язэп, а русалку. Не дарэмна ён і сам называе яе сваёю Наядаю. Аблытала яна яго сваімі чарамі. Для русалкі аднавіў ён гэты







фальварак, і яна пагубіць яго. Хто, як не ты, уратуе свайго гаспадара, вызваліць яго сэрца ад чараў? Падкажу табе, Восіп, што трэба зрабіць, каб бяды вялікай не здарылася. Ёсць на возеры ля самага берага, дзе калісьці была крыніца, глыбокі вір. Людзі і блізка не падыходзяць да таго месца, таму што ведаюць, што якраз з таго віру і з'яўляецца русалка. Але, калі хто не пабаіцца русалкі і ўкіне яе назад у той вір, яна ўжо ніколі не падымецца з дна. Можа, якраз ты і ёсць гэты чалавек, Восіп? Ты павінен здзейсніць гэта дзеля Язэпа, які пашкадаваў цябе, сляпога, і ўзяў з сабою ў гэты фальварак. Дык цяпер ты пашкадуй яго.

Восіп глыбока задумаўся над словамі незнаёмца, а той працягваў:

— Твой малады гаспадар ніколі табе не дазволіць пры ім учыніць такое, русалка цалкам завалодала ім. Але зараз Язэпа няма. Таму пойдзем, я завяду цябе на тое месца на беразе над самым вірам і, калі з'явіцца русалка, ты спіхнеш яе назад у вір.

І сляпы Восіп падпарадкаваўся злой волі незнаёмца. Ён падумаў, што сапраўды такім чынам уратуе Язэпа ад вялікай бяды. І вось ужо ён стаіць на беразе возера, на самым краёчку над вірам. А слуга ўдавы-княгіні схаваўся за дрэвамі і назірае, што ж будзе далей. Тут з'явілася Ганулька, вядома ж, не з віру. Яна бегла ад фальварка, пабачыўшы, што там нідзе няма Восіпа. І як толькі прыкмеціла яго на строме над самым вірам, адчайна закрычала:

— Восіп! Восіп, не рухайся! Ступіш не ў той бок і ўпадзеш. Вір зацягне цябе!

І ў гэты момант Восіп пахіснуўся. Невядома, якія пачуцці агарнулі яго, можа, хацеў пайсці насустрач Ганульцы, але, як яна і папярэджвала, рушыў не ў той бок і паляцеў у вір. Ён жа быў сляпы! Моцна спалохалася Ганулька і было ад чаго. Язэп жа папрасіў, каб яна наглядала за сляпым Восіпам. Таму, як толькі дабегла да таго месца, дзе толькі што стаяў ён, не стала раздумваць. Кінулася ў вір, каб ратаваць яго. І ніхто з іх ужо не выплыў: ні Ганулька, ні Восіп.







А калі, як і казаў, праз тыдзень вярнуўся малады мастак у фальварак, да яго адразу ж прыйшоў слуга ўдавы-княгіні і расказаў пра ўсё, што здарылася. Маўляў, ён якраз на той момант апынуўся ў лесе каля возера, але не паспеў дабегчы, гэтак усё хутка адбылося. І тут жа перадаў запрашэнне ад удавы-княгіні наведаць яе палац. Але Язэп ужо і не чуў гэтых яго апошніх слоў. У вялікай роспачы ён пабег да возера і з адчайным крыкам: «Наяда! Наяда!» пачаў рукамі разграбаць водарасці, што раслі ў вадзе недалёка ад берага. Потым вярнуўся ў фальварак, схапіў сваю карціну, якую назваў «Наяда марская», і з ёю пабег да возера, у якое і ўкінуў яе.

Язэпава роспач была такой глыбокай, што людзі пачалі лічыць яго вар'ятам. Ён цэлымі днямі сядзеў на беразе возера і калі хто падыходзіў да яго, казаў, паказваючы на азёрную гладзь:

— Там, у вадзе — Наяда марская.

Толькі людзі, акрамя доўгіх парасткаў цёмна-зялёнай водарасці нічога больш там не бачылі. Але з цягам часу тую водарасць пачалі называць наядай марскою. А мастак праз некаторы час пасля тых падзей пакінуў фальварак. У ім яго ніхто ніколі не бачыў. І ўсе пабудовы пачалі трухлець. Паступова прыходзілі ў заняпад ды зарасталі густым кустоўем. Калі ж здаралася, што на той фальварак натраплялі людзі, дык той-сёй казаў: «А некалі ж тут усё дыхала прыгажосцю. І было гэта тады, калі малады мастак Язэп аднавіў фальварак для русалкі»...

Мупся зрабіў паўзу і запытаўся ў мяне:

— А ты ніколі не бачыла русалак? Я аднойчы быў у далёкім адсюль лесе. Шукаў у ім возера і фальварак.

— Знайшоў? — І тут жа я папрасіла Мупсю. — Больш ніколі не хадзі ў лес, хіба што толькі ў бярэзнік, дзе ты бачышся з Астранцыяй Вялікай.

— Ты не адказала на маё пытанне, — сказаў Мупся. — Я пытаўся пра русалак.





— Ах, Мупся! — засмяялася я. — Ну, вядома ж, мне не даводзілася іх бачыць. Русалкі жывуць у казках, у міфах ды легендах.

— А Астранцыя Вялікая? Яна існуе не толькі ў казцы. Ты сама ў гэтым пераканалася.

— Дарэчы, Мупся, пра Астранцыю Вялікую... — Мне ў думках згадалася сённяшняя размова з ёю, калі яе цень падплыў да майго акна. І я звярнулася да яго: — Ты расказаў мне казку пра наяду марскую і, калі захочаш, раскажаш яшчэ тры казкі: пра воўчніка баравога, хамарбію балотную і эспарцэта пясчанага. Гэтыя расліны таксама будуць у маім гербарыі. Але Астранцыя Вялікая сказала, што будзе яшчэ адна казка пра жывую расліну, якую я вазьму з сабою, калі буду ад’язджаць у Мінск. Якая гэта будзе расліна?

— Я не ведаю, — і ў Мупсевым голасе чулася разгубленасць. — Але я магу запытацца ў Астранцыі Вялікай. Ты сказала пра жывую расліну, і мне самому стала вельмі цікава. Сустрэнемся заўтра, у альтанцы!

Мупся прамовіў усё гэта так паспешліва і так хутка знік, што мне засталося толькі адно — зачыніць акно і легчы спаць з думкамі, якую ж казку мне раскажа ён заўтра ў альтанцы.

Але назаўтра мы сустрэліся зноў у маім пакоі. І здарылася гэта вельмі рана.





(100)

# ВАЎЧКІ НА ХВОСЦІКУ

*Нехта напісаў на сцяне хаты: «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!», і Мупся занепакоіўся. Але гэты непакой быў радасны*



Я прачнулася ад лёгкага стуку ў акно. Так звычайна дзюбкаю стукаецца ў шыбку птушка. Падхапілася з ложка, ніякай птушкі за акном не было, але я кінулася яго адчыняць. Ну, вядома ж, гэта — Мупся! У яго з’явілася нейкая пільная патрэба пабудзіць мяне.

— Хутчэй лезь пад ложак! — пачула я Мупсеў галасок, як толькі расчыніла акно. — Вой-вой, я не магу больш трываць!

— Мупся, што здарылася? Навошта мне лезці пад ложак?

Гэтая яго прапанова залезці пад ложак вельмі здзівіла мяне. А потым я проста спалохалася, калі пачула з-пад ложка:



— Ты мне павінна дапамагчы. Я сам не магу гэтага зрабіць. Во-ой, як мне баліць! Хутчэй! Ты ж чуеш, што я пад ложкам, каб Залаты шлях не знайшоў мяне.

І я палезла пад ложак, поўная трывогі: што ж магло здарыцца з Мупсем? А яшчэ я сумнявалася, што змагу яму дапамагчы. Ён жа быў нябачны! Але як забілася маё сэрца, калі ў самым цёмным кутку каля сцяны я пабачыла маленькага залатога сабачку. Толькі носік і пукатыя вочкі, як дзве зіхатлівыя бубачкі, былі чорненькія. У гэтых вочках мне бачыўся глыбокі сум.

— Мупся! — мой голас дрыжэў ад замілаванасці. — Ты прыняў сваё сапраўднае аблічча?



— Сёння на траве такая буйная раса! — прашаптаў ён. — Мне схацелася пабегаць і пакупацца ў ёй. У залатых палях Карнашыі не бывае расы. І вось, паглядзі...

Мупся павярнуўся да мяне хвосцікам і я міжволі войкнула. Увесь яго хвосцік быў у ваўчках. Гэтыя ўчэпістыя калючкі былі і на яго спінцы.

— Хутчэй сарві іх, — папрасіў Мупся. — Я не змог іх адарваць сам, як ні стараўся. Яны моцна ўпіліся ў маю скуру і мне баліць. А яшчэ я пад раніцу бачыў у небе Залаты шлях і не магу ж я з’явіцца на Карнашыі з гэтымі калючкамі!

«Ён вельмі хоча вярнуцца на сваю планету», — падумала я і дакранулася да яго маленькага цельца. Адразу адчула мяккасць залатых шарсцінак, але пад імі не было цёплай скуры. «Можа, Мупся — самы звычайны робат?» — мільганула думка. І я адразу ж адагнала яе, бо пачула, як б’ецца маленькае Мупсева сэрца.

— Чаго ж ты марудзіш? — запытаўся ён. — Я адчуваю, што гэтых калючак вельмі многа.

І ён завойкаў і закруціў хвосцікам, як толькі я пачала адрываць калючкі.





— Цярпі, цярпі, Мупся, — супакойвала яго я. — Ты быў неабачлівы. Вось і ўлез у гэтыя ваўчкі.

— Як ты сказала, — ваўчкі? — перапытаў ён. — А я табе сёння хацеў расказаць казку пра воўчніка баравога. Можа, і гэтую расліну пасеяў Воўк.

— Воўк пасеяў расліну? — я ледзь стрымлівала сябе, каб не засмяяцца. — Ну, гэта ўжо занадта, Мупся!

— Ты мне не верыш? — і ён войкнуў, а потым прапанаваў. — Калі хочаш, я зараз жа, тут пад ложкам, пачну расказваць табе казку пра воўчніка баравога.



— Зараз не трэба, Мупся. Калючак на тваім хвосціку засталося ўжо зусім мала. Табе давядзецца перапыніцца, пакуль будзем вылазіць з-пад ложка. А казку трэба слухаць на адным дыханні, усю адразу.

— Цс-с, цс-с, — яго маленькае цельца напружылася, быццам ён падрыхтаваўся да абароны. — Сюды ідзе цётка Вера.

Мупся не памыліўся. Дзверы ў пакой адчыніліся, і Вера, напэўна, не паверыла сваім вачам, бо закрычала з парога:

— Галка, што ты робіш пад ложкам? Адны ногі тырчаць!

— Зараз вылезу, — адказала я ёй. — Шпулька з ніткамі закацілася пад ложак. Вось і шукаю яе.

— А ў нас — ліха! Хуліганы няшчасныя! — усё роўна як запрычытала Вера. — На хаце напісалі, на сцяне ад вуліцы, ды такімі вялізнымі літарамі! Чакай, чакай, хоць бы ўспомніць! Мупсякажал... Не... Як жа гэта? Мупсякашар... Дальбог, не вымаўлю! Адным словам, «я — тут!» Напісана, што нехта тут! Вылазь з-пад ложка хутчэй! Пакуль не змыла, ідзі паглядзі.

— Зараз вылезу, — адказала я і, як толькі за Вераю зачыніліся дзверы, звярнулася да Мупсі. — Ты чуў? Гэта ж табе нехта напісаў: «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!» Вера не змагла вымавіць тваё поўнае імя. Значыцца, ты знаёмы не толькі са мною?



— Яшчэ з матылямі і з раслінамі, — адказаў Мупся. — Яны ўсе добра мяне ведаюць. А таксама і дрэвы, і стракозы, і розныя кузуркі.

— Але ж ні расліны, ні розныя кузуркі не маглі напісаць на сцяне «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!»

— Хутчэй здымай апошнія калючкі і я пабягу да Астранцыі Вялікай.

— Ты здагадваешся, хто гэта мог напісаць, і хочаш перагаварыць з ёю? — запыталася я і зняла з Мупсевай спінкі апошнюю калючку. І ў гэты ж самы момант яго не стала. Залаты сабачка быццам растаў у паветры. Я пачала вылазіць з-пад ложка і думала, што Мупсі ўжо няма ў пакоі. Але ён адазваўся да мяне, як толькі я вылезла.

— Ты зараз пойдзеш на вуліцу паглядзець напісанае на сцяне? — запытаўся ён. І тут жа параіў: — Калі фарба не будзе змывацца, няхай цётка Вера капне ў ваду некалькі кропель спірту.

— А ты адкуль ведаеш, што трэба капаць, калі не будзе змывацца фарба?

Мупся маўчаў, і я зноў запыталася:

— Зараз пабяжыш да Астранцыі Вялікай?

— Не, пачакаю цябе. Я ж абяцаў расказаць казку пра воўчніка баравога. Толькі ты хутчэй вяртайся.

І я не стала затрымлівацца на вуліцы. Вера паклікала суседку, і яны ўдзвюх гучна абураліся. Буйныя жоўтыя літары ўражвалі. Было штосьці магічнае ў гэтым: «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!»

— Зараз яшчэ і сямі няма, — усхвалявана прамаўляла Вера. — А пасля дзевяці пайду ў сельсавет. Няхай шукаюць хуліганаў, хоць з-пад зямлі дастаюць! Гэта ж не крэйда, а фарба нейкая. Яшчэ ці змыецца?!

Я сказала Веры пра кроплі спірту і вярнулася ў хату. Калі зайшла ў свой пакой, адразу ж, як толькі загаварыў Мупся, адчула, што ён з нецярплівасцю чакаў мяне.







— Хутчэй сядай у крэсла. Гэтая мая казка будзе кароткая.

— Ой, як ты спяшаешся, Мупся! Хацелася б мне ведаць, пра што ты будзеш размаўляць з Астранцыяй Вялікай.

І пасля гэтых сваіх слоў я прылегла на ложак. Мне хацелася расслабіцца. Напісанае на сцяне мяне незвычайна зацікавіла і расхвалявала. А Мупся нечакана сказаў:

— «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!» мог напісаць толькі Вялікі чарадзей Карнашыі, — і ў яго голасе чулася радасць. — Калі ён сапраўды тут, я хутка знікну. Але я не ўпэўнены ў гэтым, хоць і бачыў Залаты шлях. А зараз слухай...

І Мупсеў галасок зазвінеў вясновай ручаінкай. Каб жа Мупся ведаў, якія думкі трывожылі мяне! «Вялікі чарадзей Карнашыі можа быць тут, — на сядзібе, дзесьці зусім блізка? Хто ён? Як выглядае? Чаго ад яго трэба чакаць: пагрозы ці, наадварот, прыязнасці?» Але цяпер — толькі казка...



## ВОЎЧНІК БАРАВЫ

— У тым вялікім лесе, што цягнецца ад гэтай вёскі ажно да самага мястэчка, калісьці даўно была сядзіба дрывасека, дзе ён жыў са сваёю жонкаю і пяцігадовым сынам Петрусём. І вось аднойчы дрывасек і яго жонка пайшлі на ляда, каб расчысціць яго ад living рознага сухога ламачча. Была вясна і яны хацелі на тым лядзе пасеяць проса. А Петруська,



зразумела, пакінулі дома і строга загадалі яму не выходзіць за вароты. Маўляў, сядзі ў хаце, а калі надакучыць, можаш трошкі пагуляць у двары. Але Петруську ўсюды было сумна. А калі сонца схавалася за вялікую аблачыну, яму ўвогуле стала страшна і ён заплакаў.



Сядзіць на ганку хаты і плача, кулачкамі слёзы выцірае. Пачула гэты плач Вавёрка, якая жыла на сасне ў дупле. Шкада ёй стала хлопчыка і пачала яна скакаць з сасны на сасну ды страсаць шышкі, каб хоць неяк забавіць яго. Петрусёк пабачыў Вавёрку і пабег да тых соснаў, якія раслі каля самага плота. Скача Вавёрка, падаюць шышкі, і Петрусёк пачаў усміхацца. Ну, чым не ідылія?! Пабачыў усё гэта малады Лось, які праходзіў каля сядзібы. І яму стала весела. Падышоў ён да плота і папрасіў Вавёрку:



— Ану ж, страсяні мацней галіну, каб шышкі пачалі падаць і за плот!

Вавёрка паслухалася Лася і страсянула самую вялікую галіну. Шышкі пасыпаліся і Лось стаў іх падхопліваць сваімі рагамі і падкідваць уверх, як гэта робяць жанглёры ў цырку. Вавёрка запляскала ў лапкі, закрычала:

— Жанглёр! Лось-жанглёр! Эгэ-э-й, звяры! Бяжыце сюды! Паглядзіце, які тут цырк пачаўся!

Пачуў Вавёрку стары Вуж, які спаў непадалёку ў траве. Вытыркнуў сваю галаву і міжволі захапіўся, як спрытна Лось жангліруе шышкамі. Больш таго, Вуж не ўтрымаўся, падпоўз бліжэй і пачаў перакульвацца ў паветры цераз галаву. Раз перакуліўся, другі, трэці... Заўважыла Вужа Вавёрка і зноў запляскала ў лапкі:

— Вой-вой! Не магу! Глядзі, Петрусёк, Вуж круціць сальта. Двайное, трайное... Вось, дык цырк!

У Петруська засвяціліся вочы радасцю: Вавёрка страсае шышкі, Лось жангліруе, Вуж круціць сальта... А тут на Вавёрчын крык прыбегла Ліса. Пабачыла яна ўсё гэта і ўтыркнула свой пушысты хвост у шчыліну паміж штыкецінамі. І давай ім махаць, як тым веерам!



*(106)* Засмяяўся Петрусёк, не ведае, на каго глядзець: на Вавёрку, на Ляся, на Вужа ці на лісіны хвост! А Вавёрка ўсё крычыць і крычыць:

— Эгэ-э-й, звяры! Бяжыце сюды! Паглядзіце, які тут цырк пачаўся!

Пачуў гэты Вавёрчын крык Воўк і прыбег да дрывасекавай сядзібы. Сеў зводдаль, пачаў назіраць, што робіцца! І так яму стала зайздросна, што заскуголіў, завыў ён ад зайздрасці. Ды так гучна!

— Чаго развыўся?! Хіба не бачыш, тут — цырк! Бяжы адсюль, няўмека! — закрычала на Ваўка Вавёрка. — Ты ні жангліраваць, ні сальта круціць не ўмееш! Адно, што выеш на ўвесь лес!

Пакрыўдзіўся Воўк на гэтыя Вавёрчыны словы і пабег, але не ў сваё ваўчынае логава, а да Лесавіка, які быў гаспадаром таго лесу. Доўга шукаў яго ў гушчары, а калі знайшоў, разрумзаўся. Ваўкі таксама ўмеюць плакаць — і ад болю, і ад крыўды.





— Дзядзечка Лесавік! Дзядзечка Лесавік! — зарумзаў Воўк. — Там, на палянцы, каля дрывасекавай сядзібы самы сапраўдны цырк! Вавёрка страсае шышкі! Лось жангліруе! Вуж круціць сальта! А Ліса сваім пушыстым хвастом, як веерам, махае! Адзін я нічога не ўмею рабіць. Мяне Вавёрка няўмекам абазвала. У-у-у-у... — жаласна-жаласна завыў Воўк.

Стала шкада Лесавіку Ваўка і вось што ён сказаў:

— Не плач! Супакойся! Ёсць у мяне чароўнае насенне: сёння пасееш — заўтра вырасце! І не проста расліна з’явіцца, а самы сапраўдны куст з шэра-карычневай карою. І цвіце прыгожа — ружовымі кветкамі. Вось толькі не ведаў я, як назваць гэты куст. А цяпер ведаю. Назавём мы з табою яго воўчнікам баравым. Я зараз насыплю ў торбачку гэтага чароўнага насення, павешу торбачку табе на шыю і ты пабяжыш сеяць! Па ўсім лесе і каля дрывасекавай сядзібы таксама. Я табе сказаў, што насенне гэтае чароўнае. Вось і станеш ты Ваўком-чараўнікам!



Узрадаваўся Воўк, а Лесавік пайшоў у сваю клець, насыпаў у торбачку насення і павесіў яе на шыю Ваўку. І пабег Воўк... Засуне лапу ў торбачку, набярэ насення, высуне і махне ёю. Сеецца насенне, радуецца Воўк! Бег, бег, а вось ужо і дрывасекава сядзіба, дзе па-ранейшаму: Вавёрка страсае шышкі, Лось жангліруе, Вуж круціць сальта, а Ліса махае і махае хвастом, як веерам.

Спыніўся Воўк на ўзгорачку і як закрычыць:

— Я — Воўк-чараўнік! Не можа быць цырку без чараўніка. Бачыце на маёй шыі торбачку? У ёй — чароўнае насенне. Яго мне даў сам Лесавік, каб я пасеяў у лесе расліну, якую мы разам з ім назвалі воўчнікам баравым. Сёння пасею — заўтра тут вырасце куст і зацвіце адразу.

Прамовіў усё гэта Воўк, засунуў лапу ў торбачку, набраў насення і пачаў сеяць наўкол!

— Ха-ха-ха-ха! — засмяялася Вавёрка. — Вы чулі, звяры?! Заўтра пабачым, які з Ваўка чараўнік атрымаецца!





— Пабачым-пабачым, — сказаў Лось і пайшоў у гушчар. Ён стаміўся жангліраваць. І Ліса пабегла па сваіх справах, відаць, прагаладалася, пакуль махала хвастом. А Вуж скруціўся ў клубок і зноў заснуў у траве. Юркнула ў сваё дупло і Вавёрка. Петрусёк застаўся адзін, але не надоўга. Неўзабаве з ляда вярнуліся яго бацька і маці.



— Мамачка! Татачка! — кінуўся ён да іх. — Сёння тут у нас цырк быў. Вавёрка страсала шышкі. Лось іх рагамі падхопліваў і жангліраваў імі. Вуж круціў сальта. Ліса хвост прасунула ў шчыліну між штыкецінамі і памахвала ім, як веерам. А Воўк з сённяшняга дня стаў чараўніком. Ён сеяў насенне воўчніка баравога.

Спалохаліся бацькі, а потым пагаварылі між сабою і не паверылі Петруську. Асабліва ў тое, што Воўк насенне сеяў. А на наступны дзень раніцай сабраліся яны зноў ісці на ляда. Выйшлі за вароты, а там паўсюль — невялікія, галінастыя кусцікі з шэра-карычневай карою. І ўжо кветкі ружовыя на гэтых кусціках распусціліся. Вось дык дзіва! Паклікалі Петруська, каб пабачыў, якое хараство каля іх сядзібы за адну ноч вырасла. Паглядзеў ён на кусцікі і заўсміхаўся:



— А я вам што казаў?! Расліны выраслі з насення, якое пасеяў тут Воўк!

З таго часу і расце найчасцей на ўзлесках і лясных палянках воўчнік баравы.



Казка скончылася. Мне не хацелася, каб Мупся пакідаў мяне. Тым больш, што было моцнае жаданне што-небудзь пачуць пра Вялікага чарадзея Карнашыі. Безумоўна, гэта Астранцыя Вялікая перадала на Карнашыю ў сузор’е Гончых Псоў, што Мупся знаходзіцца тут, — на сядзібе майго стрыечнага брата. Але як яна змагла гэта зрабіць? А Вялікі чарадзей? Яму і касмічнага карабля не спатрэбілася, каб апынуцца на сядзібе. А можа, Мупся памыляецца? Можа, «Мупсякарнашжабулвак, я — тут!»





напісаў не Вялікі чарадзей Карнашыі, а нехта іншы? Тады хто? Адказаць на гэтае пытанне я не магла і запыталася ў Мупсі:

— А хочаш, я табе раскажу казку, скажам, пра Лесавіка, якога ты згадаў у сваёй казцы?

— Мне трэба спяшацца да Астранцыі Вялікай, — сказаў ён. І, відаць, ужо быў на падаконніку, таму што лёгкая шторка на акне скалыхнулася. І ўжо адтуль я пачула: — Казкі расказваю я. І ўсе яны, выключна, — з гербарыя! Табе трэба было прыехаць сюды раней, тады, можа, я і пагадзіўся б паслухаць тваю казку.

— Хочаш сказаць, што ў нас ужо няма часу на яе?

І гэтае маё пытанне засталося без адказу...







# ДАЧКА ЛОЙМЫ

## *Калі нехта думае пра развітанне, ён абавязкова згадвае першыя хвіліны знаёмства*





Пасля абеду тым жа днём, калі на сцяне хаты з’явіўся таямнічы надпіс, я сядзела ў альтанцы. Трэба было, нарэшце, заняцца гербарыем. Ужо колькі казак пачула ад Мупсі, а нічога з гэтых раслін да альбомных старонак не прымацавала. Спрабавала клікаць Мупсю, але ён не адзываўся. Яго ўсё яшчэ не было на сядзібе. «Беднае залатое сабачанё, — думала я, прымацоўваючы то пялёстак, то сцяблінку. — Як жа Мупся прыжыўся тут! Як унік у зямное жыццё! З якой лёгкасцю расказвае свае казкі! І столькі суму носіць у сабе! Ён спадзяецца, што яму





дапаможа вярнуцца на Карнашыю Астранцыя Вялікая. Але чаму спадзяецца? Ён спадзяваўся на яе дапамогу яшчэ зусім нядаўна. Ды сённяшняй ноччу сюды з'явіўся Вялікі чарадзей Карнашыі, зразумела, каб забраць яго на тую невядомую мне планету ў сузор'і Гончых Псоў. І Мупся здагадваецца пра гэта. Прынамсі, яму вельмі хочацца, каб усё так і было».

Я спрабавала ўявіць хвіліны нашага развітання і тут жа адкінула гэтыя думкі. Узяла з кошыка засушаную вельмі дробную жаўтавата-зялёную кветку хамарбіі балотнай. Якая дзіўная назва! Помню, я сама натрапіла на гэтую расліну ў лесе, у цёмным забалочаным месцы. Адвяла позірк ад кветкі і міжволі ўскрыкнула, але хутка рассмяялася. Побач са мною над лаўкай тырчэлі залатыя вушкі.

— Мупся! А як жа Залаты шлях? Ён можа знайсці цябе па залатых вушках!

Вушкі зніклі, і я пачула галасок Мупсі:

— Сёння Залаты шлях не з'явіцца, а вось заўтра магчыма... Я ўжо развітаўся з эспарцэтам пясчаным. Папрасіў у яго насення, хоць адну гарошынку, на ім жа многа пладоў — сухіх стручкоў, але ён не даў. Яму хочацца расці толькі на Зямлі.

— Дык, можа, ты прыйшоў у альтанку, каб зараз развітацца і са мною? — запыталася я.

— Нічога не кажы пра развітанне, — і ў яго голасе мне пачуўся лёгкі сум. — Я проста пабачыў цябе ў альтанцы і вельмі ўзрадаваўся. Тут мы пазнаёміліся. Я тады доўга сачыў за табою, а потым вырашыў адазвацца. І ты так спалохалася, што я не змог стрымаць сябе, каб не засмяяцца. Ты помніш?

— Ну, вядома, Мупся, помню. Я тады яшчэ не паверыла ў тваё існаванне, падумала, што цябе прыдумала мая фантазія. Але, ведаеш, што? Давай не будзем згадваць нашу першую сустрэчу. Ад аднаго чалавека я аднойчы пачула, што калі нехта думае пра развітанне, ён абавязкова





згадвае першыя хвіліны знаёмства. Вось я, напрыклад, зараз думаю, што ж я пачую на гэты раз ад Мупсі? Якую казку ты мне раскажаш? А ты думаеш пра развітанне. І гэта праўда, Мупся?

— Я ж прасіў цябе не гаварыць пра сумнае.

— Даруй, Мупся, так ужо ў мяне атрымалася. — Я паглядзела на засушаную кветку хамарбіі балотнай, якую ўсё яшчэ трымала ў руцэ, і запыталася: — Назву гэтай расліны, кветкі якой я засушыла, ведаеш?

— Хамарбія балотная, — хутка адказаў ён. — Я сустракаў яе на балоце, якое пачынаецца адразу за бярэзнікам, дзе расце Астранцыя Вялікая.

— Ты і туды бегаў, Мупся! І табе не страшна там было?

— Не, — і праз паўзу ён дадаў: — Я ж ведаю, што на тым балоце ўжо даўно не жыве Лойма.

— Хто-хто? — не зразумела я.

— Злы Дух у вобразе жанчыны, — патлумачыў Мупся. — Пра яе ты пачуеш у казцы, якую я зараз табе раскажу. Хоць казка і не пра Лойму.

І Мупся пачаў расказваць...





## Хамарбія балотная

— Калісьці ў гэтых мясцінах жыў малады рыцар Якуб. Бацькі яго рана памерлі і не пакінулі яму вялікіх скарбаў. Але гаспадарка, якую ён атрымаў у спадчыну, была даволі заможнай. Якуб меў і сваю зямлю, і прыслугу. Вельмі любіў ён коней, на якіх выязджаў на рыцарскія турніры, а найболей — паляванне. І вось аднойчы пайшоў ён у лес на ловы,





каб настраляць сабе дзічыны, і заблудзіўся. У які бок ні пойдзе, выйдзе да балота. І ў такую багну ўбіўся, што куды ні ступіць — па калена правальваецца. І раптам кладку Якуб прыкмеціў, па якой можна было прайсці да астраўка. І на тым астраўку пабачыў ён хатку-развалюху з трысняговым дахам. Вокны гэтай хаткі былі пазатыканы нейкім рыззём. У яе, відаць, ніколі не трапляла святло. «Як можна жыць у такой будыніне? — падумаў Якуб. — У добрага гаспадара хлеў лепшы». А пра тое, што ў хатцы нехта жыў, казала цяпельца, якое то ўспыхвала яркім агнём, то пачынала дыміцца. Каму б гэтая хаціна не належала, вырашыў рыцар, зайду і папытаюся, як выйсці з гэтага балота. І рашуча ступіў на кладку. У тое ж імгненне дзверы ў хатцы моцна зарыпелі, яны адчыніліся і адтуль выйшла жудасная жанчына: доўгія валасы — раскудлачаныя, брудныя лахманы, у якія яна была апранутая, — падраныя і падпераханыя тоўстаю вяроўкаю. Якуб ледзь не зваліўся з кладкі ў ваду ад такой нечаканасці. Сэрца яго пудка забілася, хоць быў ён не палахлівым. Кінуўся назад рыцар — наўцёкі! А ўжо прыцемкі пачалі ахутваць балота, з'явіліся пасмачкі туману.

Бег Якуб, бег! Правальваўся — дзе па калена, а дзе і па пояс. Калі траплялася вялікая купіна, адпачываў на ёй. Але вось здалося рыцару, што пад нагамі ўжо не так гразка. Пачалі то там, то тут сустракацца кволыя дрэўцы. І раптам спыніўся Якуб. За адным з гэтых дрэўцаў мільганула чыясьці постаць.

— Эгэ-э-эй! — закрычаў рыцар. — Пачакай, спыніся! Як выйсці мне на лясную дарогу, дзе дуплісты волат-дуб стаіць?!



Якуб заўважыў, што постаць спынілася і, калі падышоў бліжэй, пабачыў, што гэта была дзяўчына, якая ў паўзмроку здалася яму прыгажосці незвычайнай. Свайго позірку яна не адвяла, не збянтэжылася, як гэта робяць маладзенькія дзяўчаты перад рыцарамі. Наадварот, вочы яе свяціліся нейкім дзіўным святлом, якое прываблівала, прыцягвала.

— Які ж ты рыцар, калі дарогу знайсці не можаш?! — і так пасміхнулася, што Якубу не па сабе стала.





— Я ўпершыню да гэтага балота выйшаў, — сказаў ён. — Мясціна незнаёмая, вось і заблудзіўся.

— Каб не сустрэў мяне, застаўся б ты тут да раніцы, — і зноў неяк дзіўна пасміхнулася яна, быццам ведала штосьці такое, чаго ён яшчэ не ведаў. — Паляўнічы з цябе кепскі, нічога не ўпаляваў!

— Дык як мне выйсці да старога дуба? А хочаш, разам пойдзем, — нечакана для самога сябе прапанаваў ён. — Вечарэе. Маладым паненкам хадзіць па лесе небяспечна.

— За мяне не турбуйся, — адказала яна. — Пра сябе падумай! Ідзі, як ідзеш, нікуды не зварочвай і якраз выйдзеш да старога дуба.

Сказала гэтак дзяўчына і пайшла. А яго раптоўна як апякло нешта. Кроў прыліла да твару, дыхаць стала цяжка.

— Чакай, — крыкнуў ён. — Хоць, напэўна, больш не сустрэнемся, ды як жа цябе завуць? Якое імя ў цябе?

— Хамарбія! — даляцела да яго слыху, і постаць дзяўчыны быццам растала між дрэў.



Якуб неўзабаве выйшаў да старога дуплістага дуба, дзе ўжо ўсё яму было знаёмым, і шчасліва дабраўся тым вечарам дамоў. Але не забылася тая сустрэча з дзяўчынай. Больш таго, вельмі хутка ён пабачыў яе ізноў. Праз некалькі дзён адчуў Якуб, што застудзіўся на тым балоце. І вырашыў ён купіць мёду ў пчаляра, які меў вялікі пчальнік і жыў з сям'ёю паблізу.

Самога пчаляра не было дома. Да Якуба выйшла яго жонка і, калі пачула, чаго рыцар заехаў да іх, крыкнула:

— Хамарбія! Вынесі панічу збан мёду. Ад прастуды палекавацца ён хоча.

І выйшла на ганак са збанам мёду тая самая дзяўчына, якую ён нядаўна сустрэў на балоце. І, як тады, яе чорныя вочы апяклі яго. І пышныя, доўгія валасы таксама зачароўвалі. Яны ажно адлівалі сінню, такія





былі чорныя. Зразумеў Якуб, што закахаўся ў дзяўчыну. І пачаў ледзь не штодня прыязджаць да таго пчальніка, дзе Хамарбія ўжо чакала яго. Яна таксама пакахала Якуба. А калі аднойчы рыцар запытаўся ў яе, што яна рабіла тым адвячоркам каля балота, дзе яны першы раз сустрэліся, Хамарбія засмяялася і адказала, што яна тады шукала ў лесе цялушку, якая збегла з хлява. І дайшла ажно да балота, не ведаючы, што цялушка даўно вярнулася на падворак сама. І Якуб больш не згадваў тую выпадковую сустрэчу. Затое вельмі хутка прапанаваў Хамарбіі сваю руку і сэрца, як гэта ўмеюць рабіць рыцары. Дзяўчына не адмовіла яму і яны сталі мужам і жонкай.






Шчасце не пакідала іх дом. А калі ў іх нарадзіўся сын, а потым дачка, а затым яшчэ адзін сын, дык іхняе каханне стала яшчэ больш моцным. Рыцар па-ранейшаму хадзіў на ловы, але ніколі не здаралася, каб ён яшчэ калі патрапіў на тое балота. Ды вось аднойчы праз шмат гадоў, калі ў чарговы раз паляваў на звера, ён зноў апынуўся там і не пазнаў таго месца. Вады ў балоце паменела і яно ўжо не падступалася да самага лесу. Але той астравок, дзе калісьці стаяла хатка-развалюха, захаваў свой ранейшы выгляд, хоць на ім ужо і не было той хаткі. А кладка ляжала, ды на астравок ужо можна было трапіць і без яе. Якуб успомніў, як аднойчы ступіў





на гэтую кладку і як кінуўся назад — наўцёкі! Ён і цяпер ужо хацеў павярнуць да лесу, як ззаду пачуўся голас:

— Бачу, што і ягамосць нічога не падстрэліў!

Якуб азірнуўся. Да яго падыходзіў такі ж, як і ён, паляўнічы. І, калі яны прывіталіся, незнаёмец позіркам паказаў на астравок і сказаў:

— Як толькі сышла адсюль Лойма, дык і звера ніякага ў гэтых мясцінах не стала.

— Пра каго гэта вы? — запытаўся Якуб.

— Э-э-э, пан ніколі не бачыў Лоймы? Відаць, раней не заходзіў сюды. Лойма — злы дух, д'ябаліца! Ейная хатка вунь на тым астраўку стаяла. Пэўна, не ведаеце, што Лоймы любяць чужых маленькіх дзяцей выкрадаць, а сваіх чарцянят на іх месца падкідваць. Чуў ад добрых людзей, што і гэтая Лойма калісьці ў мясцовага пчаляра дзяўчынку выкрала, а сваю — пчаляру падкінула. Пчаляр, хутчэй за ўсё, і не здагадваўся, што не сваю дачку гадуе. А яго дочачка нават да васемнаццаці гадочкаў не дажыла. Зачахла на гэтым востраве. Нядобраю маці была для яе Лойма. Мне даводзілася бачыць няшчасную дзяўчыну. Усё на кладцы сядзела. Тоненькая такая ўся, у твары — ні крывінкі, валасы доўгія, светленькія і вочы, што васількі. Лойма і пахавала яе там, на астраўку. А сама некуды знікла. Тады ж і хатка ўмомант разбурылася. На тым месцы штолета цяпер расліна вырастае. Хамарбіяй балотнай людзі яе назвалі, таму што імя ў той дзяўчыны было: Хамарбія!

І ўздрыгнуў Якуб пры гэтых словах незнаёмца.

«З кім жа я ледзь не ўсё сваё жыццё пражыў? — падумаў ён. — Хто на самой справе мая жонка — дачка пчаляра ці дачка Лоймы?»

І адразу ж адагнаў ад сябе гэтыя думкі. Ён кахаў сваю жонку. А расліну тую людзі і да гэтага часу хамарбіяй балотнай называюць.



Мупся замоўк. Мяне ўразіў нечаканы канец гэтай казкі. Атрымліваецца, што рыцар кахаў дачку Лоймы, якая і сама, напэўна, была Лоймаю.

— Ад каго ж ты пачуў гэтую казку? — запыталася я ў Мупсі. — Толькі гэтым летам я даведалася, што на нашых балотах расце такая расліна, а аказваецца, пра яе нават казка ёсць.

— Мне адна пчала пра гэта ўсё расказвала, — адказаў Мупся. — Яна выпадкова заляцела на клумбу, дзе я звычайна адпачываю. Ёй даводзілася бачыць Лойму.

— І ты ёй паверыў? Лойма, як і Лесавік, міфалагічная істота. Думаю, што і на тваёй Карнашыі існуе шмат самых розных міфаў. Хіба не так, Мупся?

— Во-ой, пачакай пра міфы! Сёння ноччу мяне нейкая кузурка ўкусіла за вуха. Паглядзі, там ёсць ранка?

І проста перада мною з’явілася залатое вушка, а потым і тоўсценькая залатая лапка, якая злёгку прыгнула яго. Відовішча было больш чым дзіўнае.

— Ну, ты бачыш ранку?

— Не, нічога не бачу. Вушка, як вушка, — і выгляд у мяне, напэўна, быў вельмі атарапелы.

Залатая лапка пачала чухаць залатое вушка, і ў гэты самы момант пачуўся голас Мупсі:

— Вельмі свярбіць. — І раптам ён засмяяўся сваім тоненькім смехам. — Ты хацела пачуць пра міфы на маёй планеце? Відаць, думаеш, што Вялікі чарадзей Карнашыі нішто іншае, як міфалагічная істота?

І тут я міжволі ўскрыкнула! Рука ў вялікай залатой пальчатцы легла на Мупсева вушка, якое ўсё чухала і чухала залатая лапка. І ўсё імгненна знікла — ні рукі, ні лапкі, ні вушка!

«Напэўна, гэта была рука Вялікага чарадзея Карнашыі, — падумала я. — Яму не спадабалася наша размова пра міфы. І ён такім чынам пера-







пыніў яе. «Цяпер я пераканалася, што Вялікі чарадзей сапраўды — у братавым садзе!» Мне схацелася зараз жа пакінуць альтанку, што я і зрабіла. Трэба сказаць, што я не на жарт спалохалася, таму, калі здаралася выходзіць у двор, ужо і не клікала Мупсю. Але познім вечарам ён з'явіўся сам у маім пакоі.





# «З ЛЮБОЎЮ — ДА ВАС!» *(121)*

## *Мупся непакоіцца за расліну, якая нечакана вырасла ў агародзе. А яшчэ больш за таго, хто яе вырве*



Пасля вячэры да мяне ў пакой завітала Вера і запыталася, ці не хачу я заўтра раніцай паехаць з ёю ў мястэчка. Прызнацца, у мяне не было такога жадання і, зразумела, чаму. Мяне трывожыла, што менавіта заўтра Мупся можа пакінуць братаву сядзібу назаўжды. Ён жа сам мне сказаў, што сёння Залаты шлях не з'явіцца тут, а заўтра — можа з'явіцца. Дык як жа я магла з'ехаць, не развітаўшыся з Мупсем і не пачуўшы ад яго яшчэ дзве казкі? А Веры я сказала:

— У мяне штосьці разбалелася нага, якую я нядаўна вывіхнула, дык баюся яе навярэдзіць.





— Дык ты таму ўжо і легла ў ложак? І нават акно не расчыніла, а вечар жа сёння такі цёплы, — і яна пайшла да акна, каб расчыніць яго.

Я сапраўды ўжо сабралася спаць і акно зачыніла наўмысна. З галавы не выходзіла рука ў вялікай залатой пальчатцы.

— Ну і цеплыня! — Вера выглянула ў расчыненае акно. — Я сёння на агародзе, ведаеш, што пабачыла? — сказала яна. — Званочак рапунцэль вырас! Не хочаш яго ўзяць для свайго гербарыя? Расліна даволі рэдкая. Можа, толькі ў мяне на агародзе і расце.

— Дык жа высушыць спачатку трэба, хай сабе адно нейкае каліўца ці кветачку. А я ўжо ў Мінск збіраюся. Праз некалькі дзён думаю паехаць.

— Ужо? А як жа твой гербарый?

— Засталося прымацаваць некалькі лісточкаў эспарцэта пясчанага і ўсё! Гербарый гатовы.

— Што ж гэта за расліна такая дзіўная, эспарцэт пясчаны? — запыталася Вера.

Мне не схацелася ўставаць з ложка, каб паказаць ёй, таму проста патлумачыла:

— Ты яе шмат разоў бачыла. Даволі высокая, расце на пясчаных абочынах дарог, ці нават на ўзлесках. Рана зацвітае, ужо ў чэрвені цвіце. Кветкі фіялетава-ружовыя.

— Можа і бачыла. — Вера задумалася. Напэўна, паспрабавала ўявіць гэтую расліну, а потым сказала: — Ну, давай, спі ўжо. Не буду табе перашкаджаць.

І калі яна выйшла з пакоя, я адразу ж паднялася з ложка. Кінулася зачыняць акно. І тут жа пачула Мупсеў галасок:

— Пачакай, не зачыняй! Я думаў, што ўжо сёння не патраплю да цябе.

У твар дыхнула халадком. Я зразумела, што гэта Мупся праскочыў каля мяне, і звярнулася да яго:





— Ты ўжо ў пакоі? Я ўсё ж хачу зачыніць акно.

Мупся быў неверагодна здагадлівы.

— Баішся, што Вялікі чарадзей Карнашы з’явіцца тут? — запытаўся ён і весела дадаў: — Я ж бачыў, як ты спалохалася, калі ён схапіў мяне за вушы ў альтанцы. Не бойся! Яго ўжо няма. Затое ў агародзе з’явілася расліна. — І ён з палёгкай уздыхнуў. — Добра, што цётка Вера заўтра раніцай едзе ў мястэчка. Я вельмі баяўся, што яна заўтра пойдзе ў агарод, заўважыць гэтую расліну і вырве яе. Гэтага ёй ні ў якім разе нельга рабіць. Я не ведаю, што, але з ёю абавязкова тады нешта здарыцца. І не толькі з ёй! З любым чалавекам, хто пашкодзіць хаця б адзін лісточак.

— Мупся! Ты мяне палохаеш. Якая расліна вырасла ў агародзе? І што можа здарыцца з Верай, калі яна вырве расліну, як вырываюць пустазелле?

— Я ж сказаў, што я гэтага не ведаю. Нешта кепскае. А, можа, і не. Расліна лекавая, яе я назваў пальчатакарэннікам майскім, бо зацвісці яна павінна будзе ў маі.

— Ты даў назву расліне? І ўсё ж, давай, паразмаўляем пра Веру. Я пачынаю баяцца за яе.

— Дарэмна. Проста няхай яна не чапае гэтую расліну, таму што яе ты павінна забраць з сабою ў Мінск.

Я села ў крэсла. Мне адразу ж згадалася Астранцыя Вялікая, ад якой я пачула, што будзе жывая расліна, пра якую мне Мупся раскажа казку, і якую я вазьму з сабою. І вось пра тое ж самае кажа Мупся. Усё гэта мяне вельмі зацікавіла і я папрасіла яго:

— Ну, дык я чакаю. Хутчэй расказвай казку пра гэтую расліну.

Але Мупся не спяшаўся расказваць пра яе.

— Пальчатакарэннік майскі ты павінна спачатку пабачыць, а потым пачуеш і казку. Яна будзе самая-самая кароткая і не чыя-небудзь, а толькі







мая. Яе я складу сам. А зараз раскажу табе пра эспарцэта пясчанага. — І Мупся засмяяўся сваім звонкім смехам. — Ён яшчэ табе не казаў: «З любоўю — да вас!»? Калі не казаў, значыцца, яшчэ скажа. Ну, слухай!

І вось што я пачула...



# ЭСПАРЦЭТ ПЯСЧАНЫ

— Аднойчы, даўным-даўно, на залатых палях Карнашыі я вельмі насваволіў. Зрабіў недапушчальнае, тое, чаго ні ў якім разе не павінен быў рабіць. Зразумела, што я вельмі спалохаўся. Хацеў схавацца, але як можна схавацца на залатых палях?! І тут я заўважыў Залаты шлях, які ўжо гатовы быў некуды памкнуцца. Я рынуўся да яго і ён адразу ўкруціў мяне ў сябе. Было такое адчуванне, што я праваліўся ў бездань. Але гэтая бездань мяне вельмі хутка выштурхнула з сябе. Немагчыма ўявіць, як жа я быў здзіўлены, калі не пабачыў наўкол сябе залатых палёў! Усюды, куды ні глянь, былі пяскі і пяскі: жоўтыя, чырвоныя, шэрыя... Я зразумеў, што апынуўся на невядомай мне планеце, куды Залаты шлях можа ўжо не вярнуцца. Мяне ахапіў адчай і спачатку я лёг, паклаўшы галаву на лапы, каб спакойна падумаць, што ж мне рабіць. А потым ад бездапаможнасці пачаў шалёна бегаць, правальваючыся ў глыбокі пясок, пакуль страшэнна не стаміўся. І тут я адчуў, што пад маёй пярэдняй лапай штосьці варушыцца. Разгроб пясок, наколькі гэта было магчыма, і пабачыў маленькую гарошынку. У гэты ж момант пачуў спалоханы голас:







— З любоўю — да вас! Эспарцэт фіялетавы!

— Чаму фіялетавы? — разважыў я. — Ты хутчэй за ўсё, — Эспарцэт пясчаны, бо планета гэтая пясчаная.

А ён, быццам і не чуў мяне, усё паўтараў і паўтараў, як заведзены:

— З любоўю — да вас! З любоўю — да вас! Толькі не праглыніце мяне! Я — тут, каб уратаваць гэтую планету. Я — з добрай місіяй! З любоўю — да вас! Я павінен быў уратаваць жыхароў гэтай планеты. Ім патрэбен быў фіялетавы колер!

— Чаго ж ты тады спазніўся, Эспарцэт фіялетавы, а цяпер — пясчаны? — запытаўся я. — Тут, відаць, ужо даўно няма ніякіх жыхароў!

— Яны перасяліліся на іншую планету і ўсе стручкі з насеннем забралі з сабою. А я выпаў з аднаго вельмі сухога стручка і застаўся тут. І, напэўна, ніколі не дачакаюся дажджу, каб прарасці.

— А адкуль узяліся стручкі сярод гэтых пяскоў?

— Іх прывезлі з Фіялетавай планеты. Гэта — мая планета. З любоўю — да вас! З любоўю — да вас! Не праглыніце мяне!

Бедны Эспарцэт! Ён так мяне баяўся, што спатрэбілася шмат часу, каб ён паверыў, што я не праглыну яго: залатыя дзеці Карнашыі харчуюцца сваёй уласнай энергіяй. У рэшце рэшт мы з ім пасябравалі. Я клаўся на гарачы пясок, браў яго ў лапу і мы з ім вялі доўгія-доўгія размовы пра самыя розныя рэчы. І вось аднойчы, калі я ляжаў на пяску і штосьці расказваў Эспарцэту, пачуўся незвычайна моцны свіст, быццам тысяча вятроў абрынулася на гэтую пясчаную планету. Я так спалохаўся, што вырашыў змяніць сваю матэрыю, памяняць сваё аблічча. І ўмомант стаў нябачным увогуле!

— Ты дзе?! Ты дзе?! — крычаў Эспарцэт. А я прыкрыў яго сваім нябачным целам, таму што наўкол слупамі ўзняліся пяскі. А калі ўсё аціхла, недалёка ад нас на адной назе круціўся дзіўны блішчасты апарат. Гэта быў касмічны Зонд. У ім штосьці шчоўкнула, потым затарахцела і з яго







сярэдзіны вытыркнуўся маленькі коўшык. Эспарцэт выпаў з маёй нябачнай лапы, падкаціўся бліжэй да Зонда і закрычаў:

— З любоўю — да вас! З любоўю — да вас! Эспарцэт... — ён зрабіў паўзу і выкрыкнуў: — Пясчаны!

І ў гэты ж момант тарахценне сціхла. Пачуўся глухі голас касмічнага Зонда:

— У маёй праграме гэтая планета лічыцца незаселенай. Ты хто?

— Эспарцэт пясчаны! Я — жыхар Фіялетавай планеты. Знаходжуся тут з добрай місіяй! З любоўю — да вас! З любоўю — да вас! Вазьміце мяне з сабою!

Касмічны Зонд доўга думаў, а потым сказаў яшчэ больш глухім голасам:

— Ну, калі з такой вялікай любоўю да мяне, дык давядзецца ўзяць! Я тут бяру грунт для доследаў на Зямлі. Штосьці іншае мне браць забаронена. Гэта не прадугледжана маёй праграмай. Таму высадзіць цябе давядзецца на падлёце да Зямлі. Ты згодны?







— Згодны! Згодны! — радасна закрычаў Эспарцэт. — З любоўю — да вас! З любоўю — да вас!

А я так спалохаўся, што застануся адзін сярод гэтых глыбокіх пяскоў, якія нас акружалі, што забыўся і пра Карнашыю, і пра яе залатыя палі. З маёй памяці сцерлася нават тое, што было для мяне галоўным: код Вялікага чарадзея Карнашыі. Я ўжо не мог зноў стаць залатым сабачкам.

— Дык ты мяне пакідаеш, Эспарцэт? — шапнуў я гарошынцы.

— Дзе ты? Дзе ты? — яго голас быў поўны разгубленасці.

— Я так спалохаўся, што ты мяне пакінеш, — сказаў Эспарцэту, — і з перапуду стаў нябачным. Я — тут!

— Тады маўчы, калі нябачны! Улезеш у гэты коўшык разам са мною.

Мне давялося сціснуцца да памераў слязінкі і я ўлез у той коўшык, як толькі Зонд набраў дастатковую колькасць грунту. І вось гэты касмічны апарат стартаваў! Зноў узняліся слупы пяску, і гэта было апошняе, што мы пабачылі на той планеце. А потым цемра і цемра! Эспарцэт запытаўся





пра маё імя і на працягу ўсяго палёту стараўся вымавіць: «Мупсякарнашжабулвак!» Ды ў яго нічога так і не атрымалася. Тады я прапанаваў яму называць мяне проста: Мупся! Наш палёт быў вельмі доўгім, але вось, нарэшце, пачуўся голас Зонда:

— Эспарцэт пясчаны, падрыхтуйся! Уваходжу ў навальнічныя аблокі. Пад імі зямная паверхня. Апусцішся на яе разам з навальнічным дажджом.

І адразу ж пасля гэтых слоў штосьці шчоўкнула. Коўшык, у якім мы сядзелі, вытыркнуўся, і мы паляцелі ўніз. Я толькі пачуў, як крычаў Эспарцэт, хаваючыся ў навальнічных аблоках:

— З любоўю — да вас! З любоўю — да вас!

І ўсё! Ён знік з маіх вачэй. А я, падхоплены дажджавымі струменямі, вельмі хутка даляцеў да зямной паверхні і апынуўся на сядзібе, дзе і пражыў да гэтага часу. Спачатку мне было вельмі сумна і я пачаў шукаць Эспарцэта. Міналі дні, тыдні, а потым прайшло і некалькі месяцаў. І вось аднойчы, калі ўжо знаёміўся з усім наваколлем, я вяртаўся з лесу і спыніўся на абочыне дарогі, дзе расла прыгожая расліна. Яна ўжо цвіла і кветка ў яе была фіялетавая. Мяне здзівіла, што раптам расліна ўся затрапятала, і я пачуў знаёмы голас:

— З любоўю — да вас! З любоўю — да вас! Не кусайце мяне!

Я, вядома ж, уздрыгнуў ад нечаканасці. Увесь гэты час я шукаў гарошынку, а Эспарцэт быў ужо раслінай. І на яго кветку садзілася пчала. «Бедны Эспарцэт, — падумаў я. — Ён застаўся такім жа палахлівым, якім быў на пясчанай планеце!» І адагнаў пчалу ад яго фіялетавай кветкі.

— Хто тут? Хто тут? — занепакоіўся Эспарцэт.

— Мупся! Я вельмі доўга шукаў цябе, — адазваўся я.

І ён так узрадаваўся, што, напэўна, нечакана для сябе на адным дыханні вымавіў маё поўнае імя, чаго яму ніяк не ўдавалася, калі мы ляцелі на касмічным Зондзе:





— Ах, Мупсякарнашжабулвак! Нарэшце! Я верыў, што ты аднойчы з'явішся.

Мне схацелася яго абняць, што я і зрабіў. Але Эспарцэт пясчаны не адчуў гэтых маіх абдымкаў. Я ж быў нябачны і, здаецца, упершыню пашкадаваў, што не магу быць іншым. А калі тады ж пачуў ад Эспарцэта: «Мне больш падабалася, калі ты быў залатым сабачкам!», — штосьці вельмі і вельмі цьмянае пачало прабівацца ў маёй памяці, але гэта ўжо казка не пра Эспарцэта пясчанага.

— А цяпер ты паказаўся Эспарцэту ў сваім сапраўдным абліччы, калі зноў можаш стаць залатым сабачкам? — запыталася я ў Мупсі, як толькі ён скончыў сваю казку.

— Усяго адзін раз, зусім нядаўна, калі развітваўся з ім, — і Мупся ўздыхнуў. — Мне сумна, што я ніколі больш яго не пабачу. Я ж табе казаў, Эспарцэт не даў мне гарошынку са свайго стручка, таму што на залатых палях Карнашыі не растуць расліны. Ён пра гэта здагадваецца.

— Я таксама пра тое-сёе здагадваюся, — сказала я. — На руцэ Вялікага чарадзея Карнашыі была залатая пальчатка. Ты мяне супакоіў, сказаў, што чарадзея ўжо тут няма. Але на Верыным агародзе раптоўна вырасла расліна, якую ты назваў пальчатакарэннікам. Мупся, прызнайся і адкажы, Вялікі чарадзей Карнашыі нейкім чынам звязаны з гэтай раслінай?

І Мупся не паспеў мне адказаць. А я яшчэ раз перажыла пачуццё страху. Паглядзела на расчыненае акно і мяне ўсю скаланула. Яно было зацягнута густым туманам, у якім паблісквалі чырванаватыя іскрынкі.

— Мупся, што гэта? — прашаптала я, позіркам паказваючы на акно.

— Астранцыя Вялікая! Хіба ты не пазнала? Гэта яе цень! Мне трэба спяшацца. Нас чакае Пальчатакарэннік. Заўтра раніцай пасля ад'езду Веры я завяду цябе да яго!



Голас Мупсі гучаў ужо за акном, а туман быццам развеяўся, заставалася толькі маленькая пасмачка, і я пачула:

— Калі Мупся больш да цябе не з'явіцца, не крыўдуй на яго!

Гэта быў голас Астранцыі Вялікай. І ў тую ноч мне ўжо не спалася. Але Мупся з'явіўся яшчэ раз. Толькі не пасля ад'езду Веры, як абяцаў, а на самым досвітку, калі толькі-толькі пачынала днець.



# (132) АПОШНЯЯ КАЗКА

## *Мупсякарнашжабулвак павінен вярнуцца на залатыя палі і стаць Вялікім чарадзеем Карнашыі*




небе яшчэ паблісквалі зоркі, але яно ўжо святлела. «Пройдзе нейкае паўгадзінкі і пачне днець», — падумала я, і якраз у гэты момант з’явіўся Мупся. Я не змагла стрымаць гучнага «Ах!», калі на падаконнік з перадсвітальнай цемры скочыў маленькі залаты сабачка. Ён памахваў хвосцікам і натапырваў свае вушкі.

Я міжволі прыўзнялася з падушкі і ўсхваляваным голасам запыталася:

— Мупся, што здарылася? Цябе нехта напалохаў? Не проста ж так ты з’явіўся такім, які ты ёсць у сапраўднасці?

— Мне хочацца, каб ты запомніла мяне не безаблічным, а менавіта такім, хаця на Карнашыі залатым сабачкам я, магчыма, ужо і не буду.





— А кім жа ты будзеш там, Мупся?

— Вялікі чарадзей Карнашыі выбірае для сябе любое аблічча.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? — і я затаіла дыханне.

Мупся маўчаў. У яго іскрыстых чорных вачах мне бачылася пяшчота.

— Калі хочаш, я магу скочыць да цябе на коўдру, — нечакана сказаў ён. — Нават можаш узяць мяне на рукі, ты ж гэтага вельмі хацела.

І я не паспела яму адказаць, а ён ужо скочыў да мяне на ложак і сваім чорным носікам уткнуўся ў мае далоні. Як тут было не зразумець, што прыйшлі хвіліны развітання! Я паднялася з ложка, узяла яго на рукі і села ў крэсла, якое стаяла каля расчыненага акна. Ад Мупсі сыходзіла цеплыня, пра якую немагчыма расказаць словамі. Гэта трэба адчуваць.

— Пальчатакарэннік застаецца тут, — сказаў Мупся. — Пра яго ты зараз пачуеш. А на залатых палях Вялікім чарадзеем Карнашыі цяпер буду я. Ты ўжо і сама здагадалася пра гэта. Паабяцай, што як толькі Вера паедзе ў мястэчка, ты адразу знойдзеш які-небудзь гаршчочак і перасадзіш у яго пальчатакарэнніка. У гаршчочку яго і павязеш з сабою.

— А хіба мы не пойдзем у агарод, дзе ён расце, пасля ад’езду Веры? — запыталася я.

І Мупся адказаў:

— Тады мяне ўжо тут не будзе. Пры дзённым святле я не змагу пабачыць першую лінію Залатога шляху. А цяпер слухай казку, у нас яшчэ ёсць трошкі часу. І ён пачаў расказваць...







# Пальчатакарэннік майскі



— На залатых палях Карнашыі мяне называлі самым шпаркім. Я сапраўды быў такім. А яшчэ я вельмі хутка запамінаў кожны код Вялікага чарадзея Карнашыі. А іх было надзвычай шмат, таму залатыя сабачкі і лічацца самымі разумнымі істотамі ў сузор'і Гончых Псоў.

І вось аднойчы мы — усе залатыя сабачкі сабраліся на нашым галоўным залатым полі, і ніяк не маглі дачакацца той хвіліны, калі на Карнашыю вернецца Залаты шлях. Ён даўно ўжо блукаў па галактыцы і збіраў на самых розных планетах чароўныя пахі дзівосных раслін. У нас былі залатыя палі, але не было ніякага водару на іх. Залаты шлях прыносіў гэты водар. Але тым днём ён прынёс штосьці іншае. З яго апошняй лініі скаціўся агромністы шар. І гэты шар лопнуў, ды так гучна, што ўсе залатыя сабачкі міжволі гаўкнулі. Перад нашымі позіркамі вымалявалася самая сапраўдная пачвара — касмічны дзікабраз. Але, нягледзячы на яго агідны выгляд, Вялікі чарадзей Карнашыі сустрэў яго вельмі ветліва, і нават запрасіў у свой залаты шацёр.

Калі праз нейкі час яны выйшлі з шатра, Вялікі чарадзей зноў сабраў нас усіх на галоўным залатым полі і сказаў, што шаноўны з шаноўных хоча мець на сваёй планеце залатога сабачку, каб той прыслужваў яму, і зараз сам хоча выбраць кагосьці з нас — залатых дзяцей Карнашыі. І, як толькі прагучалі гэтыя словы, дзікабраз адразу паказаў сваім жудасным пальцам у мой бок. Нават нельга ўявіць, якія пачуцці ахапілі мяне! Я быў у вялікім адчаі. Таму, як толькі да мяне падышоў Вялікі чарадзей, каб узяць мяне на рукі і перадаць гэтаму страшыдлу, я з усяе сілы, якая толькі была ў мяне, укусіў яго за запясце. Залатая скура Вялікага чарадзея





трэснула і на яго руцэ з’явілася вялікая чорная пляма. І ў гэты ж момант на галоўным залатым полі пачалося штосьці неверагоднае. З усіх бакоў пачуліся крыкі:

— Заплямлены! У нас з’явіўся заплямлены! Ён не можа быць Вялікім чарадзеем Карнашыі! Цяпер наш Вялікі чарадзей — Мупсякарнашжабулвак!

Справа ў тым, што на Карнашыі Вялікі чарадзей — асоба недатыкальная. Нам, залатым сабачкам, катэгарычна забаранялася кусаць яго. Але калі гэта здаралася, ён ужо рабіўся заплямленым і не мог заставацца Вялікім чарадзеем. Яго месца займаў той, хто адважваўся ўкусіць яго.

Я шкадаваў, што гэтак атрымалася. Больш таго, я вельмі спалохаўся. А Вялікі чарадзей кінуўся да свайго шатра. І калі праз нейкі час выйшаў з яго, усе пабачылі на яго руцэ залатую пальчатку, якая закрывала чорную пляму. Ён падняў гэтую руку ўверх, але залатыя сабачкі працягвалі крычаць:

— Заплямлены! Сярод нас заплямлены! Ён не можа быць Вялікім чарадзеем Карнашыі! Наш чарадзей — Мупсякарнашжабулвак!

Я не ведаю, што адбылося б далей, але тут я заўважыў, што наш Залаты шлях ужо быў гатовы пакінуць Карнашыю. У яго былі свае, толькі яму вядомыя, маршруты. Я і кінуўся да яго. І паспеў заскочыць ажно на трэцюю лінію, і ўмомант Залаты шлях усмактаў мяне ў сябе. А праз нейкае імгненне я ўжо быў на пясчанай планеце, дзе ў мяне, як ты ведаеш, адбылося знаёмства з Эспарцэтам фіялетавым, якога я назваў пясчаным. Дзякуючы касмічнаму Зонду, мы пакінулі тую, нікім не заселеную планету, і апынуліся на Зямлі.

Я жыў тут, на гэтай сядзібе, і ўвесь час, пакуль я знаходзіўся на ёй, Залаты шлях шукаў мяне. Астранцыі Вялікай нейкім чынам удалося паведаміць на Карнашыю, дзе мяне можна знайсці. Думаю, што праз Залаты шлях. Але гэта цяпер ужо неістотна. Я павінен вярнуцца на свае за-



латыя палі. Мяне чакаюць усе залатыя сабачкі. Таму на сядзібе і з’явіўся Вялікі чарадзей Карнашыі, чыё месца я неўзабаве займу. Такі ўжо закон на нашай планеце ў сузор’і Гончых Псоў. А Вялікі чарадзей застанецца тут, на Зямлі, і не таму, што яму не хочацца вяртацца на залатыя палі. Ён ужо вельмі стары. Каб прайсці Залатым шляхам назад, на Карнашыю, у яго недастаткова жыццёвай энергіі. Адзінае, яму трэба было тут змяніць сваё аблічча. Я параіў яму стаць раслінай, што ён і зрабіў, уторкнуўшы сваю руку ў залатой пальчатцы ў зямную глебу. Вось я і назваў яго пальчатакарэннікам. Ён абавязкова зацвіце ў маі і заўжды будзе лекаваць нават адной сваёй прысутнасцю таго, хто яго палюбіць.

Мупся раптоўна замоўк. Ён уздрыгнуў і натапырыў свае залатыя вушкі. Яго маленькае цельца напружылася і мне здалося, што ён яшчэ нешта хоча сказаць, але ў яго чамусьці не знаходзілася слоў. А тым часам мой пакой залівала дзівоснае святло. Вакол мяне закалыхаліся хвалі гэтага святла і яно пераліваласяся рознымі колерамі. Мае павекі цяжэлі і вочы заплюшчваліся.

— Мупся, са мною штосьці адбываецца, — прашаптала я. — Не дай мне заснуць. Ты яшчэ павінен са мною развітацца.

І гэта было апошняе, што я выразна помню. Моцны сон агарнуў мяне, і прачнулася я толькі тады, калі ў пакой увайшла Вера.

— Ну, дык я паехала ў мястэчка, Галка, — сказала яна. — Глядзі тут за сядзібай. Гербарыем сваім займайся, ці які іншы занятак знайдзі.

Потым я правяла яе да веснічак. Была звычайная цёплая жнівеньская раніца. А незвычайным было тое, што гэтую ціхую зямную раніцу ўжо не мог бачыць Мупся, ад якога я так і не пачула слоў развітання.









# Ад аўтара

Праз тыдзень я пакінула сядзібу свайго стрыечнага брата Андрэя. У Мінск ехала аўтобусам. У дарожнай сумцы ляжаў гербарый, а на каленях трымала гаршчочак з перасаджаным пальчатакарэннікам. Думалася пра тое, што хутка будзе восень, потым зіма, за якою надыдзе вясна... Мне ж хацелася, каб найхутчэй надышло яшчэ адно лета, каб зноў прыехаць на братаву сядзібу, — у тую альтанку, у той сад, дзе адбылося маё знаёмства з Мупсем. У чалавечым жыцці здараецца шмат самых неверагодных рэчаў. І хто ведае, магчыма, у тым садзе аднойчы з’явіцца Залаты шлях...

Гэтак думалася мне. А Залаты шлях сапраўды аднойчы з’явіўся. Але не ў братавым садзе, а ў маёй мінскай кватэры. І было гэта напрыканцы зімы. Я прачнулася ад адчування, што ў пакоі, дзе я спала, штосьці адбываецца. Прыўзнялася з падушкі і не паверыла вачам: за акном рассейваўся сноп святла і мне здалося, што на падаконніку расцвіў паль-



чатакарэннік. А Мупся ж сказаў, што ён расцвіце ў маі! Я саскочыла з ложка і пачула ціхенькі звон: штосьці ўпала на падлогу. Хутка ўключыла святло і пабачыла, што пальчатакарэннік сапраўды расцвіў, і яго яркая пурпуровая кветка быццам усміхалася мне. Я зірнула на падлогу і, о-о, дзіва! На ёй ляжаў маленькі залаты лісточак, які нагадваў дубовы лісток. Я падняла яго, пакруціла ў руках. На адваротным баку да лісточка была прымацавана шпілечка, а вакол яе бачыліся дробныя-дробныя літары. Але я прачытала іх, хоць і з цяжкасцю, і сэрца маё забілася моцна-моцна. «З любоўю — да вас! Мупсякарнашжабулвак — Вялікі чарадзей Карнашы!» — было напісана там. Ну, як цяпер не паверыць, што ў самай звычайнай мінскай кватэры можа адбыцца самы сапраўдны цуд!

Цяпер той лісточак я нярэдка нашу як брошку. І калі яе бачаць мае сябры і знаёмыя, яны заўжды цікавяцца: «Адкуль яна ў цябе?» І ніхто з іх нават падумаць не можа, што гэта — мая залатая памяць пра Мупсю — шпаркага сабачку з сузор'я Гончых Псоў.





# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**БАРАВІКОВА** Раіса Андрэеўна

# КАЗКІ *з гербарыя*





Рэдактар *М. Н. Мінзер*
Мастацкі рэдактар *В. П. Калінін*
Камп'ютэрная вёрстка *В. І. Канстанцінава*
Карэктар *М. М. Гілевіч*

Падпісана ў друк 3.06.2008. Фармат 100×90/16. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 15,03.Ул.-выд. арк. 10,25. Тыраж 3000 экз. Зак.       .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Литература и Искусство»
ЛИ 02330/0056810 ад 02.03.2004 г.
220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку»
ЛП 02330/0056853 ад 30.04.2004 г.
220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.